Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі



# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 21 (4667) 25 мая 2012 г.

*Думка пісьменніка*

## Сумоўе і гуманізм



Галоўная перадумова паспяховага развіцця краіны — грамадскі спакой, сумоўе і гармонія. Паразуменне паміж уладай і грамадствам, сацыяльны мір, культура палітычных дыскусій і дыялог канфесій — найбольш спрыяльнае асяроддзе для тэхналагічнага прагрэсу, эканамічнага ўздыму і росквіту дзяржавы.

Актыўнае духоўнае жыццё грамадзян, трывалая сістэма маральных каштоўнасцей — важнейшы сродак мірнага пераадолення натуральных супярэчнасцей, якія ўзнікаюць у кожнай краіне.

Выключную гуманістычную ролю несумненна адыгрывае кніга і мастацкая літаратура, бо яны валодаюць уласцівасцю аказваць сінтэтычнае ўздзеянне на інтэлект і пачуцці асобы.

Выхаваўчы і гуманістычны патэнцыял беларускай літаратуры надзвычай высокі. Класічныя творы і шэдэўры нацыянальнага пісьменства, разам са здабыткамі сучасных майстроў слова — паэтаў, празаікаў, драматургаў і публіцыстаў, — асноўны фактар патрыятычнага выхавання, вяртання гістарычнай памяці, пазітыўных зрухаў у свядомасці людзей.

Саюз пісьменнікаў Беларусі прыкладае шмат намаганняў для развіцця прыгожага пісьменства, усталявання трывалага дыялогу паміж пісьменнікам і чытачом. Сёння існуе патрэба ў новым літаратурным часопісе, каб больш аператыўна знаёміць грамадскасць з яркімі мастацкімі дасягненнямі. Настаў час падумаць пра стварэнне англамоўнага альманаха, у якім бы друкаваліся лепшыя здабыткі нацыянальнай літаратуры для чытачоў трансатлантычнай супольнасці.

Сучасны літаратурны працэс і выхаванне эстэтычных густаў немагчымыя без літаратуразнаўчай навукі і прафесійнай крытыкі. Умацаваць сувязь мастацкай практыкі з навукай мог бы штогоднік літаратуразнаўчых прац, прысвечаных найбольш актуальным праблемам гісторыі і тэорыі літаратуры, крытыкі, кампаратывістыкі і тэксталогіі.

Надзвычай важны аспект — наладжванне бесперапыннай літаратурнай адукацыі ў краіне, шчыльная сувязь літаратараў і навукоўцаў з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, каледжамі, гімназіямі і школамі, перманентнае ўдасканаленне дапаможнікаў і вучэбных праграм.

Істотная крыніца гальванізацыі працэсаў у духоўнай сферы — творчае супрацоўніцтва пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў з прадстаўнікамі іншых гуманітарных навук — гісторыкамі, філосафамі, мовазнаўцамі, фальклардыстамі, узаемаўзбагачэнне ідэямі.

Нацыянальная літаратура і гуманітарная сфера ва ўмовах жорсткай глабалізацыі як ніколі патрабуюць сталага клопату з боку дзяржавы, разумнага рэгулявання і стымулявання, абароны ад механічнай камерцыялізацыі.

**Іван САВЕРЧАНКА**

# Полацку — 1150 гадоў



**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота Ігара Супранёнка, калаж Віктара Калініна**

## Горад, які заўсёды з табою

**Сёння Полацк прымае ў свае ласкавыя абдымкі гасцей з усяго свету, у тым ліку 18 гарадоў-пабрацімаў з бліжняга і далёкага замежжа. Адзначаць 1150-годдзе горада будзе ўся Беларусь. І для гэтага ёсць падставы і лагічнае тлумачэнне.**

Для беларусаў Полацк — калыска дзяржаўнасці, духоўнасці, пісьменства, нацыянальнай свядомасці. Нездарма ж напісаў паэт: "Ад Еўфрасінні, ад Скарыны, ад Полацка пачаўся свет…" Наш, беларускі, свет сапраўды пачынаўся там, на берагах Палаты і Заходняй Дзвіны. Яго падмурак закладваўся разам з падмуркам Сафійскага сабора, яго летапіс пачынаў ствараца разам з кнігамі, якія перапісвала ў сваёй келлі святая Еўфрасіння, яго малітвы да Усявышняга былі закладзеныя ў Бібліі, аддрукаванай палачанінам Францыскам Скарынам, яго песні жыццю ўзносіліся з вершаў-кветак, вершаў-сэрцаў Сімяона Полацкага… Слаўныя сыны і дочкі Полацкай зямлі — нязгасныя зоркі Беларусі.

Без перабольшання, кожны куток горада зітаваны з гісторыяй, гераічнымі лёсамі яго заснавальнікаў і насельнікаў. Непаўторны дух стагоддзяў адчуваецца тут паўсюдна. Першае, што кідаецца ў вочы на пад'ездзе да яго з боку Мінска, — вежы беласнежнага Сафійскага сабора, адной з галоўных жамчужын Полацкага музея-запаведніка. Пабудаваны тысячу гадоў таму, ён з'яўляецца сімвалам новай эпохі.

Тут ацалеў і храм XII стагоддзя, пабудаваны па просьбе прападобнай Еўфрасінні. Храм ад падлогі да купала распісаны візантыйскімі майстрамі.. І сёння мы можам пакланіцца мошчам прападобнай, убачыць фрэскі. Ці не цуд гэта?

Адзінаццаць славутасцей горада знаходзяцца пад аховай Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Плошча музеяў — каля тысячы квадратных метраў! Які яшчэ з раённых цэнтраў можа пахваліцца такім багаццем?

— 1150-годдзе Полацка — гэта не толькі агульнанацыянальная, але і міжнародная падзея. У канцэпцыю святкавання пакладзены тры тэзісы: "Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці, духоўна-асветны і культурны цэнтр, сучасны еўрапейскі горад, — расказвае старшыня гарвыканкама Аляксандр Пазняк. — Распрацавана канцэпцыя развіцця інфраструктуры гістарычных раёнаў старажытнага горада. Яна падтрымана Прэзідэнтам і кардынальна зменіць аблічча гістарычнай часткі Полацка. На яе ажыццяўленне спатрэбіцца два трыльёны рублёў. Таму да гэтай справы прыцягваюцца інвестары з такім разлікам, каб да 2015 года закончыць работы".

Згодна з прагнозамі аналітыкаў, Полацк і Наваполацк з цягам часу стануць адной трывалай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай. У Полацку жывуць 85 тысяч, у Наваполацку — 105 тысяч чалавек. Паміж імі ўсяго сем кіламетраў: гарады будуюцца, пашыраюцца, літаральна глядзяць вокны ў вокны. Наваполацк — цэнтр нафтаперапрацоўчай прамысловасці, горад вялікіх грошай. Полацк — цэнтр высокай культуры. Фінансы і духоўнасць не супярэчаць адно аднаму, наадварот — у іх саюзе залог росквіту будучага мегаполіса.

Юбілейны дзень нараджэння патрыярха беларускіх гарадоў адзначаецца на рэспубліканскім узроўні пад эгідай ЮНЕСКА. Да гэтай даты падрыхтавана мноства культурных і спартыўных мерапрыемстваў, навуковыя канферэнцыі, міжнародны інвестыцыйны форум, фестываль праваслаўнай творчасці. Плануецца сумеснае богаслужэнне праваслаўных іерархаў з трох гарадоў з Сафійскімі храмамі: Полацка, Кіева і Ноўгарада. А закончацца святкаванні Днём памяці прападобнай Еўфрасінні Полацкай.

З юбілеем, слаўны, прыгожы, незабыўны Полацк!

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў радыё "Беларусь" з 50-годдзем з дня заснавання радыёстанцыі. "У краіне і за яе межамі высока цэняць працу журналістаў радыё "Беларусь", якое на розных мовах кругласутачна даносіць слухачам праўдзівую інфармацыю пра наш адкрыты і працавіты народ", — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні ордэнам Францыска Скарыны народнага артыста Расійскай Федэрацыі Філіпа Кіркорава — за значны асабісты ўнёсак у развіццё і ўмацаванне беларуска-расійскіх культурных сувязей і высокае выканальніцкае майстэрства.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў кампазітара Уладзіміра Мацецкага з 60-годдзем. "Напісаныя Вамі цудоўныя мелодыі ўвайшлі ў рэпертуар самых вядомых выканаўцаў і заваявалі сэрцы слухачоў розных пакаленняў, стаўшы сапраўды залатымі шлягерамі", — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ XVIII міжнародныя Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні на тэму "Кніга ў фарміраванні духоўнай культуры і дзяржаўнасці беларускага народа" прайшлі на базе Інстытута тэалогіі БДУ ў Мінску. Такая скіраванасць чытанняў была выклікана абвяшчэннем у Беларусі Года кнігі. Значнасць ролі хрысціянскай кнігі і асабліва Бібліі ў жыцці грамадскасці падкрэслівалася ў выступленнях беларускіх, расійскіх, украінскіх, польскіх, балгарскіх, сербскіх і нямецкіх навукоўцаў, запрошаных для ўдзелу ў чытаннях.

✔ Фестываль лацінаамерыканскіх танцаў адбудзецца 2 чэрвеня ў парку Чалюскінцаў у Мінску. Удзел у ім возьмуць непрафесіяналы ва ўзросце ад 16 да 31 года. На працягу 10 хвілін кожны ўдзельнік прадэманструе сольную танцавальную праграму. У праграме фестывалю таксама — майстар-класы па асноўных рухах лацінаамерыканскіх танцаў.

✔ Здымкі мастацкага фільма пра Марка Шагала і Казіміра Малевіча распачынаюцца ў ліпені ў Віцебску. Стужку стварае вядомы рэжысёр Аляксандр Міта, ён жа з'яўляецца і аўтарам сцэнарыя. Плануецца завяршыць працу на працягу двух месяцаў. Першы паказ фільма мусіць адбыцца таксама ў Віцебску.

✔ Сядзібу Дастаеўскіх плануецца аднавіць у Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Рашэнне будзе прынята Саветам Міністраў Саюзнай дзяржавы, куды пададзена ўжо адпаведная заяўка. Праект мае вялікае значэнне для супрацоўніцтва абедзвюх краін у галіне культуры. Пасля аднаўлення сядзібы Дастаеўскіх там мяркуецца размясціць музейную экспазіцыю, прысвечаную Фёдару Дастаеўскаму.

✔ У межах міжнароднай акцыі "Ноч музеяў" Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы быў падрыхтаваны праект "Паўлінка-NEXT". Улічваючы, што 2012 год юбілейны не толькі для Янкі Купалы, але і для яго бессмяротнага драматычнага твора — "Паўлінцы" спаўняецца 100 гадоў, — музейныя супрацоўнікі на адну ноч "ажывілі" ў парку ля помніка Купалу персанажаў п'есы. Наведвальнікаў парка чакаў парад Паўлінак, у якім магла ўзяць удзел кожная беларуская дзяўчына, "Жывая алея", дзе кожны мог паўстаць перад публікай у вобразе іншых герояў твора, майстар-клас па пляценні касы, старадаўнія беларускія танцы пад музыку гуртоў "Квецень" і "Тутэйшыя" і, урэшце, "мястэчковы кірмаш" рамеснікаў.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## Віншуем калег!

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" галоўнага рэдактара газеты "Звязда" Алеся Карлюкевіча — за шматгадовую плённую працу ў беларускай журналістыцы і значны асабісты ўнёсак у развіццё друкаваных сродкаў масавай інфармацыі. А таксама рэдактара аддзела літаратуры штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Віктара Гардзея — за значны ўнёсак у выхаванне літаратурнай моладзі і высокае прафесійнае майстэрства. Ганаровымі граматамі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагароджаны рэдактар аддзела газеты "Літаратура і мастацтва" Уладзімір Бацкалевіч і вядучы фотакарэспандэнт Канстанцін Дробаў.

Мы віншуем калег, радуемся за іх і ад усёй душы жадаем натхнення, новых цікавых артыкулаў, яркіх кніг, высокамастацкіх фотаздымкаў і — проста чалавечага шчасця.

**Калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

*Стасункі*

# Без перакладу

**У г. Цвер Расійскай Федэрацыі добра ведаюць, што ў асяроддзі прадстаўнікоў 11 славянскіх краін перакладчык не патрэбны. І гэта яны пацвердзілі ўжо чацвёрты раз — падчас Міжнароднага паэтычнага фестывалю славянскай паэзіі "Поющие письмена", мастацкім кіраўніком і пачынальнікам якога з'яўляецца пісьменнік і перакладчык Сяргей Главюк.**

**Тацццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

Як і раней, на сёлетнім фестывалі гучала шмат вершаў, адбыліся майстар-клас па паэтычным мастацкім перакладзе, сустрэча з цвярскімі паэтамі і пісьменнікамі, "круглы стол" на тэму "Сучасны свет і славянская паэзія", літаратурны вечар і прэзентацыя кніг лаўрэатаў фестывалю, сустрэчы з аўтарамі, а таксама вечар санкт-пецярбургскай паэзіі.

За час свайго існавання фестываль займеў ужо не адну добрую традыцыю. Як сведчанне паяднанасці народаў — Алея славянскай паэзіі, пасаджаная чатыры гады таму ў скверы філалагічнага факультэта Цвярскога дзяржуніверсітэта. А яшчэ кожны год "адкрываецца" партрэт аднаго з пачынальнікаў славянскіх літаратур. Сёлета ў галерэі Славянскай залы Цвярской абласной бібліятэкі імя А. Горкага побач з такімі выбітнымі асобамі, як Янка Купала, Адам Міцкевіч, Аляксандр Пушкін, Тарас Шаўчэнка, Пётр Негаш, Іван Вазаў ды іншыя, з'явіўся партрэт Карэла Гінека Махі, які лічыцца заснавальнікам чэшскага рамантызму і вядомы найперш паэмай "Май". Паэзія Карэла Махі, як зазначыў прэс-сакратар пасольства Чэхіі ў Расіі Андржэй Сакуп, для простых чэхаў — гэта найперш каханне.

…Фестываль скончыўся. Але толькі да наступнага года. У тым жа, што ён будзе жыць, сумнення няма — "Поющие письмена" ўключаны ў афіцыйную праграму дзяржаўнага свята Дні славянскага пісьменства і культуры.

*За падзеяй*

# Ноч у Багдановіча. Па-японску

**Культурная акцыя "Ноч музеяў" з кожным годам набывае ўсё большы размах. У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча прапаноўвалі ў гэты вечар праграму "Веснаход". Свята адкрылася музычна-фальклорнай дзеяй "Вяснянка".**

**Ірына КАРЭЛІНА**

Маленькія наведвальнікі музея былі асабліва задаволеныя другой часткай праграмы: ім прапанавалі маляваць крэйдай на пляцоўцы перад будынкам. А тыя, каму дазволілі бацькі, пайшлі да мастакоў рабіць арыгінальны бодзі-арт. Усю гэтую прыгажосць ахрысцілі "Фарбамі мая".

Самай відовішчнай часткай акцыі стала інтэрактыўная імпрэза "Разам з Максімам" з удзелам Цэнтра японскай культуры ў Мінску. Чаму японскай? Максім Багдановіч — першы беларускі паэт, які звярнуўся да напісання традыцыйных японскіх вершаў — танка. Масака Тацумі, кіраўніца цэнтра японскай культуры ў Мінску, пераклала на сваю родную мову ўсе чатыры танка Багдановіча і падарыла іх музею. Перакладчыца размаўляе па-руску, але, на яе погляд, менавіта беларуская мова характарызуе наш народ, і таму яна павінна гучаць часцей.

— Я вельмі люблю перакладаць вершы беларускіх паэтаў. Сёння я чытала танка Максіма Багдановіча на японскай мове, але ў мяне ёсць пераклады вершаў сучасных аўтараў.

Юй Э Тацумі, дачка перакладчыцы, выканала на цымбалах японскую народную песню пра цвіценне сакуры. Чароўныя супрацоўніцы музея, апранутыя ў кімано, прапанавалі прысутным забаўку-варажбу на хоку вядомага японскага паэта Мацуо Басё, а таксама шмат іншых народных гульняў Краіны ўзыходзячага сонца.

Скончылася "ноч" канцэртнай праграмай "Навальніца вясны" з удзелам беларускіх гуртоў.

*Кангрэс*

# Перамога на ўсіх адна

**У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прайшоў IV міжнародны кангрэс "Знішчаныя ў Другой сусветнай вайне гарады і вёскі Еўропы" і міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Грамадзянскае насельніцтва ў вайне", прысвечаная пытанням паразумення і міранга суіснавання народаў.**

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Такі форум праводзіцца ў Еўропе па ініцыятыве Германіі адзін раз на два гады. Упершыню ён адбыўся ў 2006 годзе ў Германіі, затым у Чэхіі і Славакіі. На кангрэсах з удзелам гісторыкаў, палітолагаў, юрыстаў, эканамістаў, а таксама сведак трагедый абмяркоўваюцца пытанні захавання міру і прадухілення ваенных канфліктаў у Еўропе. Па прапанове ўдзельнікаў III форуму эстафету прыняла Беларусь. Сёлета былі прадстаўлены чатыры пакаленні: ветэраны Вялікай Айчыннай вайны і сведкі знішчэння нацыстамі населеных пунктаў, сярэдняе пакаленне беларусаў і гасцей нашай краіны, а таксама студэнцкая моладзь і дзеці, якія выказваюць вялікую цікавасць да гісторыі мінулай вайны.

— З 375 тысяч беларускіх партызан больш як 65 працэнтаў былі маладыя людзі ва ўзросце да 30 гадоў, у партызанскім руху ўдзельнічалі каля 5 тысяч дзяцей, — зазначыў дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Інстытута кіруючых кадраў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Андрэй Цабкала.

У межах канферэнцыі працавала секцыя маладых вучоных і студэнтаў "Моладзь і дзеці ў гады Другой сусветнай вайны" і былі ўзнагароджаны лаўрэаты аднайменнага конкурсу творчых работ сярод навучэнцаў 12 — 16-гадовага ўзросту на лепшы малюнак, літаратурны ці мультымедыйны праект.

— У конкурсе ўзялі ўдзел амаль 400 дзяцей і падлеткаў, — паведаміў дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Сяргей Азаронак. — Дыпломам I ступені Міністэрства адукацыі Беларусі ў намінацыі "Літаратурнае эсэ. Верш" узнагароджана Кацярына Малей, вучаніца Дзеркаўшчынскай сярэдняй школы Глыбоцкага раёна. Такімі ж дыпломамі ў намінацыях "Малюнак" і "Мультымедыйны праект" адзначаны навучэнец Гомельскага дзяржаўнага абласнога палаца творчасці дзяцей і моладзі Яўген Пахілаў і вучаніцы вучэбна-педагагічнага комплексу яслі-сад-сярэдняя школа № 44 г. Магілёва Кацярына Новікава і Яўгенія Гембіцкая.

— Да 70-годдзя Вялікай Перамогі плануецца рэалізаць незвычайны праект, фармат якога пакуль прапрацоўваецца, — расказаў дырэктар Цэнтральнага музея Вялікай Айчыннай вайны 1941— 1945 гадоў (Расія) Уладзімір Забароўскі. — Аднак ужо цяпер вядома, што асновай паслужаць патрыятычныя прэзентацыі расійскіх рэгіёнаў, якія рэгулярна праводзяцца ў музеі.



*Пераможца конкурсу ў намінацыі "Літаратурнае эсэ. Верш" Кацярына Малей.*

— Для нас як музейшчыкаў, гісторыкаў вельмі важна ведаць, дзе знаходзяцца тыя ці іншыя дакументы, таму вельмі добра, што на кангрэсе мы працуем разам, а не паасобку, — зазначыла дырэктар агенцтва "Tradicia History Service" (Германія) Крысціна Янаке.

Наступны кангрэс плануецца правесці праз два гады ў Бранскай вобласці Расіі.

*Конкурс*

# Прысвячаецца Песняру

**У юбілейны, 130-ы, год з дня нараджэння Якуба Коласа Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа распачынае грамадска-літаратурную акцыю "130 прысвячэнняў Песняру".**

Як распавяла дырэктар музея Зінаіда Камароўская, узяць удзел у акцыі можа кожны ахвочы. Цягам усяго лета, да 1 верасня 2012 года можна дасылаць літаратурныя творы (вершаваныя, празаічныя, драматургічныя), прысвечаныя класіку, на электронны адрас музея: konkurs_kolasmuseum@tut.by ці на паштовую скрыню: 220012, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 5 з пазнакай "130 прысвячэнняў". Памер, як і стыль, — адвольныя: да 40 000 знакаў з прабеламі. Неабходна паведаміць толькі імя і прозвішча, род заняткаў, электронны ці паштовы адрас, кантактныя тэлефоны.

Пра пачатак акцыі было аб'яўлена ў Ноч музеяў, калі ў Доме Якуба Коласа праходзіла вечарына з удзелам членаў Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Ацэньваць матэрыялы будуць прафесійныя пісьменнікі, крытыкі, вучоныя-коласазнаўцы. Найлепшыя творы будуць агучаны падчас юбілейных мерапрыемстваў у лістападзе 2012 года, а таксама апублікаваныя ў зборніку "130 прысвячэнняў Песняру", які пабачыць свет у канцы года. Усе ўдзельнікі, запэўніваюць арганізатары, будуць адзначаны памятнымі падарункамі.

Інфармацыйны партнёр акцыі — наша газета!

*Літабсягі*

# Без Бога нацыя — натоўп

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзентацыя факсімільнага выдання (у дзвюх кнігах) “Житие блаженной Евфросинии, игумении монастыря Вседержителя Святого Спаса во граде Полоцке”, што выйшла ў Выдавецтве Беларускага Экзархата да 1150-годдзя Полацка.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

Гісторыя стварэння выдання дагэтуль з’яўляецца адной з таямніц для даследчыкаў. Як вядома, знакамітая полацкая асветніца памерла ў Іерусаліме ў 1173 годзе. Але ўжо менш як праз чвэрць стагоддзя з’явілася “Житие”, верагодна, напісанае кімсьці з наближаных да Еўфрасінні асоб (магчыма, яе стрыечнай сястрой Звеніславай). Да нашага часу яно дайшло ў шасці рэдакцыях і больш як 150 спісах XVI — XVIII стагоддзяў.

З дзвюх кніг “Жития” першая ўяўляе сабой факсімільнае выданне Пагодзінскага спіса, што знаходзіцца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы (Санкт-Пецярбург). Другая — узноўлены царкоўнаславянскі тэкст “Жития Ефросиньи Полоцкой” з навуковым каментарыем, а таксама пераклады на беларускую, рускую і англійскую мовы. Узнаўленне царкоўнаславянскага тэксту па алічбаванай копіі і яго пераклад на беларускую і рускую мовы ажыццявіла Эльвіра Ярмоленка, навуковы супрацоўнік аддзела гісторыі беларускай мовы Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. Факсімільнаму выданню “Жития” паспрыялі мецэнаты з міжнароднага фонду “Семья — Единение — Отечество”.

Як паведаміў на прэзентацыі Уладзімір Грозаў, выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата і старшыня праўлення Фонду, рэстаўрацыя старонак “Жития” каштавала 20 тысяч еўра. Але калі ў Санкт-Пецярбургу даведаліся пра мэты выдання, зрабілі ўсю працу бясплатна. Падчас свайго выступлення У. Грозаў працытаваў верш іераманаха Рамана: *“Без Бога нация — толпа, // Объединённая пороком, // Или слепа, или глупа, // Иль, что ещё страшней, — жестока”*. Менавіта таму дырэктар падкрэсліў: “Житие” выдадзена не для дзеячаў навукі ці царквы, а для сучаснай моладзі. Менавіта ім выпашчаць для сябе: заставацца часткай бязбожнага натоўпу ці быць індывідуальнасцямі.

У рамках мерапрыемства ў бібліятэцы была арганізавана выстаўка “Славен град Полоцк”, на якой прадстаўлена 115 выданняў, прысвечаных гісторыі і культуры Полацка. Сярод іх — гістарычныя хронікі XVI — XVII стст. на польскай і лацінскай мовах: Мацея Стрыйкоўскага “Хроніка польская, літоўская, жамойская і ўсёй Русі”, Аляксандра



*Гартаючы старонкі “Жития...”.*

Гваньіні “Хроніка еўрапейскай Сарматыі”. Таксама дэманструюцца выданні XVIII — XIX стст., надрукаваныя ў друкарні Полацкага езуіцкага калегіума на польскай і лацінскай мовах. Сярод іх — “Полацкі месячнік” (“Miesiecznik Polocki”) — першы часопіс на тэрыторыі Беларусі (1818). Асобная частка выстаўкі, якая будзе працаваць да канца чэрвеня ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі, прысвечана выданням пра знакамітых жыхароў Полацка — Сімяона Полацкага, Еўфрасінню Полацкую і іншых.

*З-пад пяра*

➤ Фестываль турэцкай культуры, прысвечаны 20-годдзю ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Турцыя, прайшоў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Падчас фестывалю праходзілі выстаўкі гравюр Мелікшаха Сайцюрка “Стамбул — сталіца цывілізацый” і Ахмета Актюна “Свет Эбру”. Ахмет Актюн правёў майстар-клас па тэхніцы эбру, што ў перакладзе азначае “мастацтва малявання на вадзе”. На ўспамін ён пакінуў нашай сталіцы малюнак з выявай Акадэміі навук Беларусі.

**Дар’я ШОЦІК**

Напярэдадні Міжнароднага дня музеяў у старажытным Полацку традыцыйна была праведзена акцыя “Упішы сябе ў гісторыю Полацка”. Усе 11 музеяў горада прымалі ў дар ад насельніцтва рэчы, звязаныя з гісторыяй, культурай, славутасцямі горада. У гэтым годзе каштоўнымі сведкамі даўніны былі абвешчаны ўжо 1960-я гады, і многія гараджане, прадпрыемствы і арганізацыі паспяшаліся перадаць у добрыя і беражлівыя рукі музейных супрацоўнікаў рэчы, што сімвалізуюць гэты час. Удзельнікам акцыі былі ўручаны іменныя сведчанні на права бясплатнага наведвання ўсіх Полацкіх музеяў на працягу года, іх імёны ўпісаныя ў Ганаровую кнігу дарыцеляў.

**Ірына СЛАНІМСКАЯ**

У Камянецкай дзіцячай школе мастацтваў адбылася сустрэча са старшынёй Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатолем Крэйдзічам. Анатоль Мікалаевіч пазнаёміў камянчан з сучасным літаратурным працэсам, дзейнасцю Берасцейскай пісьменніцкай сябрыны, якую ўзначальвае вось ужо сёмы год. Слухачы, у сваю чаргу, пыталіся пра сучаснае прыватнае кнігавыданне, якасць беларускамоўных мастацкіх твораў, што выходзяць сёння, і спісы сацыяльна значнай літаратуры, якая павінна быць у кожнай бібліятэцы.

**Настасся НАРЭЙКА**

VII Міжнародны конкурс “Рэнесанс гітары” прайшоў у Гомельскім дзяржаўным каледжы мастацтваў імя Сакалоўскага, у ім узялі ўдзел маладыя гітарысты з розных гарадоў Беларусі, Украіны і Расіі. Нашы суайчыннікі таксама сталі пераможцамі: ва ўзроставай групе ад 12 да 15 гадоў — Кацярына Палявік — і ў старэйшай групе — Аляксей Швец. Акрамя дыпломаў пераможцы атрымалі падарункі ад спонсараў конкурсу, а таксама магчымасць прадставіць сябе падчас канцэртнага тура па гарадах Беларусі.

**Наталля СЯМКОВА**

Справаздачны канцэрт Буда-Кашалёўскага раёна прайшоў у Гомельскім палацава-паркавым ансамблі. Слухачы цёпла віталі ансамбль бытавога танца “Ойра”, фальклорны ансамбль “Крынічанька” і вакалістаў Уваравіцкага гарадскога дома культуры, народны ансамбль народнай песні “Верас” Буда-кашалёўскага раённага Дома культуры і выхаванцаў Буда-кашалёўскай школы мастацтваў. Захапленне ў гледачоў і пакупнікоў выклікалі адмысловыя вырабы (пано, посуд, сувеніры, скарбонкі, абярэгі) ад майстроў салома- і лозаплячення Ніны Касцючэнкі, Вольгі Сафронавай і Веранікі Стагначовай. Цікавую праграму прадставіў і Брагінскі раён.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Артлінія*

# Нюансы ад Чэхава

**Нярэдкія выпадкі, калі яркія сцэнічныя творы, набыўшы папулярнасць, атрымліваюць новае жыццё ў тэлепастаноўках і экранізацыях. У гісторыі балета “Анюта” ўсё сталася наадварот: на тэатральнай сцэне ён з’явіўся праз чатыры гады пасля прэм’еры аднайменнай тэлевізійнай стужкі, якая адбылася ў маі 1982-га, мела шырокі розгалас і з поспехам дэманстравалася ў больш як сотні краін. Сцэнічную версію тэлебалета, дзе галоўную партыю бліскуча выканала легендарная Кацярына Максімава, незабыўная спадарожніца жыцця знакамітага рускага артыста, харэографа і танцоўшчыка Уладзіміра Васільева, ён зрабіў па просьбе кіраўніцтва тэатра Сан-Карла ў Неапалі. А неўзабаве пастаноўкі былі здзейснены ў некалькіх гарадах СССР.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

Праз 30 гадоў з часу сваёй тэлепрэм’еры “Анюта” ўпершыню пастаўлена ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. На мінулым тыдні адбыліся першыя паказы спектакля. Працаваў над ім сам У. Васільеў (асістэнт харэографа — А. Мяланьін) поруч з дырыжорам-пастаноўшчыкам В. Пласкінам, расійскімі мастакамі В. Вольскім ды Р. Вольскім. І для журналістаў замест “пратакольнай” прэс-канферэнцыі з удзелам пастановачнай групы наладзілі сустрэчу з Майстрам, чые тытулы і званні, як кажуць, лічыць — не пералічыць.

Мы пачулі малавядомыя падрабязнасці гісторыі стварэння балета. Наш госць любіў калісьці бавіць летні час у тэатральным доме адпачынку пад Кастрамой. Там пазнаёміўся з выдатным рэжысёрам А. Бялінскім, які загарэўся ідэяй стварыць адмыслова для К. Максімавай тэлевізійны фільм-балет паводле апавядання А. Чэхава “Ганна на шыі”. Калі Васільеў запытаўся: “А музыка?”, высветлілася, што яе... няма. Але ёсць выдатны кампазітар — В. Гаўрылін. Клавіры самых розных яго твораў і аркестравы запіс цяпер ужо славутага вальса Бялінскі паказаў балетмайстру. “Мяне паланіў менавіта вальс, у ім — усё: правінцыйны гарадок, дзе нічога не мяняецца, людзі са сваімі руціннымі клопатамі, нягодамі, абывацельскімі жарсцямі, плёткамі-абгаворамі. Простая музыка, але “з нечаканасцямі”, за якімі — чарада найтанчэйшых чэхаўскіх нюансаў, глыбіня, асэнсоўваць і раскрываць якую можна да бясконцасці”, — кажа У. Васільеў. За пару дзён суаўтары стварылі лібрэта, выбралі фрагменты з музыкі В. Гаўрыліна, самі, без удзелу кампазітара, скампанавалі партытуру тэлебалета...



*Народны артыст РСФСР і СССР Уладзімір Васільеў успамінае.*

“Чым бы я ні займаўся, што б ні гаварыў, я думаю толькі пра маю Кацю, Кацю Максімаву... “Анюта” — цалкам яе спектакль, для яе зроблены... Цяпер, калі Максімавай няма з намі, я хацеў бы прысвяціць спектакль яе памяці”, — прызнаецца балетмайстар-пастаноўшчык з надзеяй, што беларускія артысты раскрыюцца ў гэтым творы ярка і парадуюць гледачоў. Ужо на перадпрэм’ерным паказе зала ганаравала авацыяй Л. Хітрову (Анюта), І. Артамонава (бацька гераіні), К. Геронікa (муж Анюты), якія разам з іншымі выканаўцамі імкнуцца ўнесці ў вобразы “чэхаўскі нюанс”.

*Повязі*

# Мастацтва супраць вайны і смерці

**Аляксей ЦІМАФЕЕЎ**

**Дом Дружбы напярэдадні Свята Перамогі стаў месцам правядзення літаратурнага вечара “Рэха вайны ў сербскай і беларускай літаратурах”. Гэтае мерапрыемства было прысвечана Добрыцу Чосічу — слыннаму сербскаму пісьменніку-эпіку, які нядаўна адзначыў 90-годдзе.**

*Сербскі пісьменнік Добрыца Чосіч.*

Пра агульнасць лёсаў сербскага і беларускага народаў, пра падобныя выпрабаванні, якія прынесла ім Другая сусветная вайна, а таксама пра сучаснае сяброўства сказаў прачулае слова Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь, доктар Стоян Еўціч. А Добрыцу Чосіча як удзельніка партызанскага руху, ветэрана антыфашысцкай барацьбы, а цяпер — найзначнейшага пісьменніка Сербіі, прадставіў старшыня таварыства “Беларусь — Сербія”, акадэмік Сербскай Акадэміі навук і мастацтваў, прафесар БДУ Іван Чарота.

Асаблівая ўвага была нададзена раману Чосіча “Сонца далёка”, напісанаму ў самым пачатку 1950-х гадоў, вядомаму ў трох перакладах на рускую мову і выдадзенаму неймаверным для свайго часу тыражом — каля двух мільёнаў экзэмпляраў. Фрагменты з гэтага твора зачыталі студэнткі-сербісткі БДУ Ганна Навумава, Юлія Галяк і Анастасія Масюк.

Важным пунктам праграмы стала прэзентацыя новай кнігі Добрыцы Чосіча “Нататкі пісьменніка” (і адначасова Прэзідэнта СРЮ), якую выпусціла ў свет мінскае выдавецтва “Белпрынт”. Пра значнасць твора выказаўся дырэктар выдавецтва Аляксандр Хаміцкі, з якім салідарызаваўся мастацкі рэдактар выдання Леанід Гоманаў.

Музычную частку вечара забяспечылі артыстка Белдзяржфілармоніі Вікторыя Казакевіч, народны артыст Беларусі кампазітар Эдуард Зарыцкі, а таксама студэнты Аліна Бельцюгова і Ілья Лук’янаў.

Па-асабліваму на сербска-беларускім вечары ўспрымаліся песні, якія ўзніклі ў часы ваеннага ліхалецця, а цяпер пераканаўча сведчылі, што “мастацтва адбірае лёсы народаў у смерці”. Такая, дарэчы, формула існуе ў Добрыцы Чосіча. І якраз гэта сваёй творчасцю сцвярджаюць лепшыя пісьменнікі Беларусі і Сербіі, сярод якіх на правым флангу больш як семдзесят гадоў стаіць ушанаваны хораша праведзеным мерапрыемствам Чосіч.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці пісьменніцы ІЛЬЮШЫНАЙ Наталлі Іванаўны і выказваюць шчырыя спачуванні яе блізкім і знаёмым.

Дарожныя нататкі

# Край прыгажосці і натхнення

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Рагнеда Малахоўскага

### Белыя крылы Гарадзеншчыны

Пісьменніцкі аўтобус перасякаў мяжу Гродзенскай вобласці. Не перастаючы здзіўляцца прыгажосці і разнастайнасці беларускіх краявідаў, мы ўсё глядзелі ў вокны, за якімі радасная зеляніна лугоў змянялася сонечнай песняй квітнеючых рапсавых палёў і хараляльнай строгасцю хвойных пералескаў, такіх характэрных для Гарадзеншчыны. І раптам пачуўся ўзрушаны шэпт — проста перад вокнамі, зусім невысока над зямлёй праляцела, абдымаючы прастору сваімі шырокімі крыламі, пара лебедзяў. Такое не кожны дзень пабачыш. Але менавіта з яркіх успышак замілавання і радасці нараджаюцца пасля самыя натхнёныя вершы і самыя светлыя радкі прозы. І неабавязкова дзеля таго, каб прасякнуцца ненаглядная красою радзімы, трэба пабываць найперш "у розных краях". Аказваецца, дастаткова проста страсянуць з сябе штодзённы шэры клопат і выправіцца ў вандроўку па Беларусі. Як правільна ўсё прадумана! Чалавек вучыцца патрыятызму, чытаючы ў дзяцінстве добрыя кнігі. Значыць, спачатку трэба, каб бясконцая любоў да радзімы нарадзілася (альбо ўваскрэсла) у душы пісьменніка!

### *Уладзімір Мазго, паэт, краязнаўца:*

*— Паездка па гродзенскай зямлі выклікала ў мяне асаблівую цікавасць. І ў першую чаргу, відаць, таму, што я сам нарадзіўся на Гродзеншчыне. Родную Зэльву і яе ваколіцы ведаю вельмі добра. Таму хацелася бліжэй пазнаёміцца са славутай Гародняй і яе жыхарамі, сустрэцца з бацькам Нёманам. Усе сустрэчы адбываліся ў цёплай творчай атмасферы. Нават само надвор'е, здаецца, спрыяла гэтаму. І паўсюль назіралася павышаная цікавасць мясцовага насельніцтва да айчыннай літаратуры.*

### Гродна сівы — Гродна велічны

Ёсць гарады, у якія немагчыма не закахацца. Гродна — адзін з іх. Непаўторная гісторыя пакінула адбітак на разважшчэнні і будынках старажытнай Гародні, якая, відаць, агорнутая крыламі анёлаў, што знайшлі прытулак у Фарным касцёле, пазбегнула лёсу іншых беларускіх гарадоў, спаленых і разбураных падчас Вялікай Айчыннай вайны. Веліч і магутнасць горада паўсталі перад пісьменнікамі з вышыні Замкавай гары, пад крыжамі старадаўняй Каложы, ля густа-сініх нёманскіх хваляў. Трапяткія пачуцці абудзіла наведванне дома, дзе ў раннім дзяцінстве — яшчэ не паэт, а толькі дзіця, адзначанае Нябёсамі, — жыў Максім Багдановіч. Шкадаванні пра страчанае ахінулі ў Доміку Элізы Ажэшкі — перанесеным з іншага месца, дзе ён раней стаяў, перабудаваным і без большай часткі рэчаў-экспанатаў, якія памяталі цеплыню рук вялікай раманісткі. Аднак і такі ён уражвае, выклікае замілаванне і гонар за генія Гродзенскай зямлі.

Экскурсія па горадзе, якая з аўтобуснай неўзабаве ператварылася ў пешаходную, была такой насычанай, што міжволі выклікала рэпліку: "Хіба ж можна пабачыць усё за адзін дзень!" І — уздых: "Сюды б на тыдзень хаця завітаць!" Аднак распісаная пагадзінна праграма паездкі не давала магчымасці надта доўга шаптацца з гарадзенскімі мурамі. Акрамя экскурсій на першы дзень былі запланаваны і афіцыйная сустрэча са старшынёй Гродзенскага аблвыканкама, гасцінным гаспадаром Сямёнам Шапірам (з яе, уласна, і распачалося знаёмства з горадам і яго жыхарамі), і ўдзел у свяце, зладжаным у Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў, і, урэшце, вялікі вечар паэзіі ў санаторыі "Жамчужына".

### *Казімір Камейша, паэт:*

*— Вельмі шмат незабыўных уражанняў выклікала гэта дарога ў наш слаўты прынёманскі край. "Калі мінаеш Нёман, нават сэрца пачынае гучаць у рытме Нёмана", — так само прамовілася ў той дарозе. Уразілі найперш людзі, іх справы, краса і ўладкаванасць старога Гродна. Гэтая дарога вартая добрых вершаў. Думаю, яны з'явяцца і ў мяне, калі ўражанні крыху адстояцца ў душы і сама яна вызначыць найбольш цікавыя з іх.*

### Моладзь выбірае… традыцыі

У канцэрце, падрыхтаваным спецыяльна для гасцей-пісьменнікаў у Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў, выступленні выхаванцаў чаргаваліся з выступленнямі іх педагогаў.

Дырэктар каледжа Вадзім Будкевіч, адкрываючы канцэрт, не без гонару пералічыў заслугі калектываў, якія працуюць у сценах навучальнай установы. Сказаў нямала добрых слоў пра мастакоў-дызайнераў, якіх таксама рыхтуюць тут, і пра моладзь, якая авалодвае ў гэтых сценах акцёрскім майстэрствам. Аказалася, што сярод навучэнцаў каледжа — 35 прэзідэнцкіх стыпендыятаў, а яшчэ — з тузін вядомых на ўсю краіну народных і эстрадных выканаўцаў. Пісьменнікі смяяліся з гумарыстычных народных танцаў "Бойка пеўняў" і "Вальс-чачотка", пускалі сваю душу наўздагон лірычнай народнай песні, зачаравана слухалі вершы беларускіх аўтараў у выкананні юных артыстаў. І ў які ўжо раз задавалі сабе пытанне: чаму ў нашай моладзі раптам абудзілася прага ведаў пра традыцыі беларускага народа, яго фальклор? Можа, і сапраўды прыйшоў, урэшце, час узгадаць пра сваё, роднае, і — далучыцца да яго праз памяць продкаў, захаваную ў народных песнях, танцах, абрадах, мове.

### *Анатоль Зэкаў, паэт, сатырык, гумарыст:*

*— На мове беларускай нашай*
*Чытае вершы ўнучка Маша.*
*Чытае нараспеў, працяжна,*
*Нібы на смак спрабуе слова.*
*І паміраць мне ўжо не страшна,*
*Бо не памрэ са мною мова.*

*Наша мова жыве і творы нашых беларускіх пісьменнікаў чытаюць — у гэтым мы пераканаліся на Гродзеншчыне.*

### Творчыя сустрэчы

Вечар у санаторыі "Жамчужына" "Гродна Азот", заяўлены як паэтычны, перарос у літаратурны, бо на сцэну прасілі выйсці і празаікаў. І хаця яны спачатку сарамліва адмаўляліся, маўляў, пра што казаць, за пяць жа мінут, адведзеных для выступлення, не толькі раман, але і апавяданне не прачытаеш, — цікавасць людзей, якія запоўнілі залу, была такой непадробнай, што гаварыць давялося. Адны расказвалі коратка пра сябе, другія накіроўвалі ў адрас прыхільнікаў сваёй творчасці самыя найлепшыя пажаданні, хтосьці прэзентаваў новыя кнігі. Высветлілася, дарэчы, што ў гарадскіх бібліятэках няблага прадстаўлены кнігі членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. І гэта радавала. Але самае кранальнае тое, што творы сучасных айчынных аўтараў ведае і любіць гродзенская моладзь. З ёю дэлегацыі пісьменнікаў давялося сустрэцца на другі дзень. Падзяліўшыся на шэсць невялікіх груп, літаратары накіраваліся да студэнтаў трох гродзенскіх дзяржаўных універсітэтаў: імя Янкі Купалы, аграрнага і медыцынскага, а таксама да навучэнцаў гімназіі № 5 і сярэдняй школы № 3. Гродзенская моладзь аказалася надзвычай удзячнай публікай, цікаўнай, вясёлай, успрымальнай. Пісьменнікі з радасцю дарылі бібліятэкам навучальных устаноў свае кнігі.

### *Тамара Мазур, паэтэса:*

*— Пасля такіх сустрэч хочацца распавядаць пра сілу. І — не толькі пра сілу яднання творчых людзей і сілу асэнсаванай любові да роднай зямлі. Уражвае сіла садзейнічання кіраўніцтва дзяржавы і абласных улад пісьменнікам. Аказваецца, людзі, якія кіруюць краінай і асобнымі яе рэгіёнамі добра ўяўляюць сабе, што летапісцам эпохі можа быць толькі пісьменнік, і гатовыя ўсяляк дапамагаць яму ў гэтай місіі. А яшчэ падчас такіх акцый бачыш сапраўдную сілу слова. Можна зняць студэнтаў ці школьнікаў з заняткаў і прывесці іх на сустрэчу з пісьменнікамі, але ніхто і ніколі не прымусіць іх апладзіраваць, калі не падабаецца. Значыць, наша творчасць запатрабаваная.*



Сустрэчы з хлебам-соллю на Гродзенскай зямлі.

### Напаследак — Верцялішкі!

СВК "Прагрэс-Верцялішкі" — ужо даўно візітная картка Гродзеншчыны сельскагаспадарчай. Пра легендарнага старшыню гаспадаркі Васіля Рэвяку напісаныя не толькі ёмістыя артыкулы, але нават кніга. Абмінуць гаспадарку, пра якую ідзе такая слава, уяўлялася немагчымым. Але Герой Беларусі (як, дарэчы, і два яго папярэднікі на старшынёўскай пасадзе Віталь Крамко і Аляксандр Дубко) паказваць уласна вытворчасць пісьменнікам не стаў — няма чаго ад працы людзей адцягваць, аднак пра гаспадарку, рэнтабельнасць якой складае 33 працэнты, распавёў дэталёва.

Пахваліўся, між іншым, дзецьмі, якія выхоўваюцца сёння ў пасёлку: таленавітыя, працавітыя, любяць родныя Верцялішкі і пасля атрымання спецыяльнасці вяртаюцца сюды, каб працаваць і жыць. Пісьменнікі заўважылі: пасёлак знешне падобны да маленькага райцэнтра — вуліцы пліткай выкладзеныя, магазіны — лепей за іншыя гарадскія, развітая інфраструктура. У школе нас здзівілі багатым музеем гісторыі пасёлка і танцавальнымі здольнасцямі вучняў малодшых класаў. А яшчэ мы з захапленнем разглядалі норкавыя манто і кажушкі — мясцовай вытворчасці. І любаваліся пародзістымі конямі, якія гарцавалі па Верцялішкаўскім манежы. "Нядаўна партыю нашых гановерцаў прыдбалі для Маскоўскай коннай міліцыі", — паведаміў старшыня.

Надзвычай прыемна было наведаць гаспадарку, людзі якой, добрыя, гасцінныя, таленавітыя, прыкладаюць так шмат намаганняў, каб не толькі ўзбагаціць сваю краіну, але і стварыць яе імідж за мяжой. І верыцца: наша літаратура таксама будзе неад'емнай часткай гэтага іміджу. Бо да ўжо напісаных дабавяцца новыя добрыя і праўдзівыя творы, і людзі ва ўсім свеце будуць прыгадваць іх аўтараў, пачуўшы назву нашай краіны — Беларусь.

Сябры «ЛіМа»

# «Мы выбіраем толькі самае лепшае і цікавае»

**Мікола МЯТЛІЦКІ, галоўны рэдактар часопіса «Полымя», распавядае пра планы на другое паўгоддзе:**

— Гэты год асаблівы для ўсёй нашай літаратуры. Мы напярэдадні юбілеяў класікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Відавочна, наш часопіс не мог абысці іх увагай. Мы падрыхтавалі для публікацыі навуковыя даследаванні, падзеліся вынікамі "круглага стала", прысвечанага літаратурнай спадчыне Янкі Купалы і праведзенага разам з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі і часопісам "Нёман". Чытачоў чакаюць новыя артыкулы Вячаслава Рагойшы і Яўгена Гарадніцкага. Мы распавядзём пра славутыя Акопы на Лагойшчыне, дзе былі напісаныя Купалаў "Курган", "Паўлінка"… Да таго ж, сёмы нумар "Полымя" адкрываецца вершаваным вянком прысвечаннях класіку, усхваляваных, шчырых, створаных паэтамі розных пакаленняў.

Не забываемся і пра ўшанаванне спадчыны Якуба Коласа. З ужо надрукаванага — успаміны дачкі Янкі Маўра Наталлі Іванаўны Міцкевіч, якая стала нявесткай Коласа. У гэтых публікацыях можна пабачыць, як ядналіся думкі, пачуцці нашых класікаў. А ў другім паўгоддзі сваімі ўражаннямі пра "Новую зямлю" падзеляцца карыфеі айчыннай навукі і культуры.

Мы рыхтуемся і да ўшанавання юбілею Максіма Танка, паэта, асабліва звязанага з часопісам "Полымя", галоўным рэдактарам якога ён быў васямнаццаць пасляваенных гадоў. Так што, традыцыйна, у дзявятым нумары будуць вершы Танка і літаратуразнаўчы погляд на яго творчасць.

Дарэчы, рухаючыся да 90-годдзя часопіса, вырашылі распавесці пра выбітных суайчыннікаў, шчыльна звязаных з "Полымем". Так, пра трагічны лёс Цішкі Гартнага вельмі дакладна і годна распавёў у чацвёртым нумары Серафім Андраюк. Белых плям не павінна застацца ў нашай памяці! Так што ў другім паўгоддзі абавязкова раскажам пра не менш драматычны лёс першага рэдактара часопіса Платона Галавача.

Акрамя таго, звяртаемся да літаратуры тых краін, да якіх раней "не дацягваліся": да кітайскай, турэцкай, не кажучы ўжо пра славянскія, дзе мы ўвесь час плённа супрацоўнічаем.

Вялікае значэнне маюць для нас празаічныя творы, якія ў "Полымі" заўсёды былі ўзорнымі. Мы надрукуем працяг хронікі Уладзіміра Гніламёдава — раман "Ліхалецце", пра вайну і тое, што адбывалася ў Заходняй Беларусі падчас акупацыі. Упэўнены, што чытачы, якія пазнаёміліся з папярэднімі часткамі, ужо чакаюць працягу. Вернемся да рамана Віктара Праўдзіна "Нелюбімыя гінуць". Першая частка была надрукавана даўнавата, але выклікала шырокі грамадскі рэзананс, закранаючы праблемы барацьбы з сексуальным рабствам. Цяпер аўтар завяршае працу над другой часткай, якая, упэўнены, таксама стане значнай падзеяй.

Да 75-годдзя старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца мы рыхтуем публікацыю яго рамана "Сыны" на беларускай мове. Гэта будзе яшчэ адзін крок да паяднання беларускамоўнай і рускамоўнай літаратуры Беларусі. Да слова, мы працягваем рубрыку, дзе прапануем пераклады вершаў тых нашых творцаў, якія працуюць па-руску.

Лічу, што другі сшытак часопіса будзе не менш цікавы за першы. Плануем распавесці больш пра гарады і гістарычныя мясціны Беларусі, адкрыем на сваіх старонках новыя імёны не толькі ў галіне літаратуры, але і сярод маладых сацыёлагаў, палітолагаў, гісторыкаў.

Плошчы часопіса невялікія, таму мы выбіраем толькі самае лепшае і цікавае! Падпісацца на "Полымя" варта, каб ведаць, што адбываецца ў сур'ёзнай літаратуры. Тыя, хто пазіраюць на яе скептычна, робяць гэта па няведанні. А прыгожае пісьменства мусіць быць у цэнтры ўвагі нашага суайчынніка — чалавека, далучанага да духоўнага жыцця сваёй Бацькаўшчыны.

**Афіцыйным дэлегацыям, шматлікім гасцям сталыя супрацоўнікі рэдакцыі паўжартам напамінаюць: "«Звязда» — самая багатая газета ў Беларусі. У нас ёсць свой праспект, фірменны цягнік і нават востраў…" І гэта сапраўды так. Адзін з праспектаў сталіцы носіць імя старэйшай газеты краіны. Кожныя суткі па прасторах СНД курсіруе цягнік "Звязда" "Мінск — Санкт-Пецярбург — Мінск". Востраў Зыслаў у Любанскім раёне — другая радзіма "Звязды-партызанкі", дзе пабачылі свет 105 яе накладнікаў і 39 нумароў "Чырвонай змены".**



ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

ЗВЯЗДА

Орган Мінскага Гаркома КП(б)Б

№ 1 ЧЭРВЕНЬ 1942 г.

ТАВАРЫШЫ!

РЭДКАЛЕГІЯ.

1942 ГОД ПАВІНЕН БЫЦЬ ГОДАМ ПОЎНАГА РАЗГРОМА ВОРАГА! СМЕРЦЬ НЯМЕЦКІМ АКУПАНТАМ!

ШЫРЭЙ ПАРТЫЗАНСКУЮ БАРАЦЬБУ!

БЛІЗКІ ЧАС АСЛАБАНЕННЯ

Нямецка-фашысцкая грабежніцкая армія церпіць паражэнне за паражэннем. Пад ударамі Чырвонай Арміі яна адкатываецца на захад. Адступаючы, фашысцкія орды знішчаюць і паляць нашы гарады і сёлы. Дарослых мужчын і жанчын яны гоняць у Германію на катаржныя работы, у концэнтрацыйныя лагеры, забіваюць нашых дзяцей і рабуюць усё да ніткі.

Браты і сёстры-беларусы! Не давайце гітлераўскім бандытам паліць вашы хаты. Не давайце вывозіць ім награбленае дабро. Арганізуйце абарону населеных пунктаў.

Доблесныя палкі і дывізіі Чырвонай Арміі надйшлі да роднай нашай Беларускай зямлі. Блізкі час аслабанення! Настаў час расплаты з крывавым ворагам.

Падымайцеся ўсе, каму дорага наша Радзіма, на ўсенародную барацьбу супроць нямецка-фашысцкіх акупантаў!

Бязжаласна знішчайце фашысцкіх гадаў! Пашырайце партызанскую барацьбу. Зрабеце ўсё, каб прыблізіць час разгрома і гібелі крывавага фашызму!

(САКРАТАР … КП(б)Б)

ВЕСТКІ З ФРАНТОЎ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

# Да штыка прыраўнялі пяро

## 70 гадоў таму ў акупаваным Мінску выйшаў першы нумар падпольнай "Звязды".

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота Кастуся Дробава**

Выхад першага нумара газеты-партызанкі, газеты-падпольшчыцы інакш як цудам назваць нельга. Пазней гісторыкі назавуць гэты факт прыкладам мужнасці і гераізму савецкіх людзей. Увявіце сабе: тэксты набіраюцца ў друкарні, падуладнай немцам. У горадзе што ні дзень — арышты, расстрэлы, павешанні. І раптам як гром сярод яснага неба "Звязда" абвяшчае: "1942 год павінен быць годам поўнага разгрому ворага! Смерць нямецкім акупантам!" Другі нумар газеты выходзіць пад шапкай "Беларусь была і будзе савецкай!"

Не дзіўна, што за звесткі пра знаходжанне рэдакцыі гітлераўцы аб'явілі ўзнагароду ў 75 тысяч марак. Дакладна вядома, што першы нумар падпольнай "Звязды" набіраў у Доме друку камсамолец Барыс Пупко (да вайны ён працаваў наборшчыкам лідскай раёнкі. Калі пачалася вайна, спрабаваў эвакуіравацца, але трапіў у палон, а пасля фашысты накіравалі яго ў Мінск). Гэты выпуск газеты быў тайна надрукаваны на канспіратыўнай кватэры Міхаіла Воранава тыражом 2500 экзэмпляраў. Міхаіл Пятровіч і яго сын Міхаіл былі закатаваны фашыстамі ў канцы 1942 года.

Падрыхтоўкай і выданнем "Звязды" кіраваў Уладзімір Амельянюк — студэнт Камуністычнага інстытута журналістыкі, выдатнік вучобы, праходзіў практыку ў Беластоку ў абласной газеце. У чэрвені 1941 г. вярнуўся ў Мінск, яму была даручана арганізацыя падпольных друкарняў. Літаральна праз некалькі дзён пасля адраджэння "Звязды" ў падполлі У. Амельянюк загінуў. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 8 мая 1965 г. Уладзіміру Сцяпанавічу пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Ён — адзіны рэдактар у былым СССР, удастоены такой узнагароды.

Уладзімір Амельянюк нарадзіўся 15 ліпеня 1917 года. Скончыў педагагічныя курсы, працаваў піянерважатым, настаўнікам, а потым і рэдактарам Дзяржынскай раённай газеты. У акупаваным Мінску выдаў чатыры нумары "Звязды". Пяты нумар быў падрыхтаваны да друку, але не выйшаў з-за масавых арыштаў мінскіх падпольшчыкаў. Гісторыя сведчыць: для гітлераўцаў выхад газеты быў падобны да выбуху магутнай бомбы. Кожнаму падпольшчыку было зразумела, што іх чакала ў выпадку правалу. Ніякіх ілюзій не існавала, людзі свядома рабілі свой выбар. У. Амельянюк пісаў: "Партызан! Ты бачыш, што на фронт цягнуцца нямецкія эшалоны, гружаныя салдатамі, боепрыпасамі і тэхнікай! Узрывай чыгуначнае палатно, масты, пушчай пад адхон саставы — гэтым ты палегчыш наступленне Чырвонай Арміі. Бачыш тэлефонны кабель — рві яго, гэтым перарэжаш сувязь і ўнясеш замяшанне ў асяроддзе ворага.




*Помнік газеце на вуліцы Кульман.*

Ты чуеш, у тваёй краіне крычаць салдаты і афіцэры гітлераўскай грабармії! Знішчай іх як шалёных сабак! Радзіма толькі тады ўздыхне свабодна, калі на яе зямлі не застанецца ніводнага акупанта" ("Звязда", 1942, № 1).

На галоўнай плошчы беларускай сталіцы, плошчы Незалежнасці, усталяваны помнік журналістам-падпольшчыкам — на месцы, дзе 26 мая 1942 г. загінуў першы рэдактар падпольнай "Звязды". Помнік яму ўстаноўлены і ў пасёлку Самахвалавічы, побач са школай, дзе ён вучыўся. Бадай, не буду памылкаю сцвярджаць, што няма ў свеце ніводнага перыядычнага выдання, якому народ паставіў бы столькі помнікаў (10!). І гэта не выпадкова. У гады фашысцкай навалы газета разам са сваім народам змагалася з лютым ворагам. Помнік "Звяздзе" на мінскай вуліцы Кульман сведчыць, што на гэтым месцы (тагачасная Выдавецкая, 10) у доме падпольшчыцы Тацяны Якавенкі знаходзілася друкарня, дзе летам 1942 г. друкавалася "Звязда".

Мемарыяльная дошка ўстаноўлена і на вуліцы Беламорскай, 7, дзе стаяў дом Пятра і Альбіны Хадасевічаў. Тут быў надрукаваны чацвёрты нумар падпольнай газеты. Ёсць у беларускай сталіцы і помнік Хасану Александровічу, які набіраў другі, трэці і чацвёрты нумары.

З 27 студзеня 1943-га па 1 ліпеня 1944 г. "Звязда" выдавалася ў партызанскай зоне на востраве Зыслаў Любанскага раёна Мінскай вобласці. Там створаны мемарыяльны комплекс (стэла-абеліск, помнік на брацкай магіле, памятны знак на месцы былога аэрадрома, шэсць адноўленых партызанскіх



*Помнік ля Чырвонага касцёла.*

зямлянак). У той час газету рэдагаваў Міхаіл Барашкаў.

Мне пашчасціла неаднаразова сустракацца і гутарыць з Амяльянам Шурпачом — партызанскім журналістам і друкаром, надзвычай цікавым і арыгінальным чалавекам. Некаторыя яго ўспаміны прывяду…

"…25 студзеня 1943 г. Той ноччу быў самалёт з Вялікай зямлі. Увечары мы ехалі ў напрамку глухой вёсачкі. Спыніліся ў дзвюх крайніх хатах, у якіх жылі салдаткі Марфа Мігун і Марыля Бубіч. Тут адбылося наша знаёмства з Міхаілам Барашкавым, будучым рэдактарам "Звязды". Умовы работы і побыту былі суровыя. Мы не мелі права нікуды адлучацца, нікому гаварыць пра свой занятак… Кароткія зімовыя дні. Ледзь паспявалі да прыцемкаў набраць газету. Вярсталі, правілі і друкавалі пры дрыготкім святле смалякоў. Днём часу для адпачынку таксама не ставала. Шчарбатаў, Касцюкавец, Сакевіч і я адпраўляліся па атрадах і брыгадах па матэрыял, Міхаіл Парфёнавіч рыхтаваў наступны нумар. Ён перапісваў для набору ўсе матэрыялы. "Звязда" выходзіла два разы на тыдзень — у суботу і сераду, а "Чырвонка" — раз, у нядзелю. Хутка "Звязда" завалявала шырокага чытача. За дзень да выхаду газеты ў штабе ўжо сядзелі сувязныя з розных брыгад, атрадаў, падпольных арганізацый гарадоў і вёсак.

<…> Наступны наш прыпынак быў у вёсцы Рэпін. Гаспадары хаты — стары рускі салдат дзед Сямён і яго бабка Ганулія — умелі трымаць язык за зубамі. Тут мы, як кажуць, працавалі ў поўную сілу, хоць цяжкасцей было шмат. Не ставала шрыфту на дзве паласы. Трэба было набіраць і друкаваць адну, потым разбіраць шрыфт і набіраць другую.

Як ні зручна і выгадна было жыць і працаваць пад дахам хаты, але трэба было перабірацца ў больш зацішнае месца. Нямецкія самалёты падазрона зачасцілі сюды. У адну з чэрвеньскіх начэй партызаны зняліся з месца і падаліся ў напрамку Чорнага балота. Там падрыхтавалі новую стаянку для "Звязды"… Гэта быў ускраек вялікага балотнага вострава. Пад магутным дубам прытулілася варыванька, перанесеная сюды на плячах па бервяне. У ёй размясціўся "наборны" і "друкарскі" цэхі нашай друкарні. Міхаіл Парфёнавіч аблюбаваў сабе месца пад пышным арэхавым кустом. Убіў два калы, прымацаваў дошку — гэта быў яго пісьмовы стол. Астатнія ўладкоўваліся дзе каму даспадобы.

…Цяжка было даставаць паперу, друкарскую фарбу. Але партызанская кемлівасць выручала. Фарбу, напрыклад, рабілі наступным чынам. Спальвалі пад дашчаным каўпаком аўтамабільныя пакрышкі. Затым сажу вышкрабалі са сценак каўпака, змешвалі яе з тлушчам — і фарба гатова. Паперу даставалі рознымі шляхамі. Захоплівалі штабныя машыны, куплялі ў фашыстаў. Друкар Алесь Канаплянік завёў знаёмства з нямецкім кладаўшчыком у Слуцку, які вельмі ўпадабаў самагонку.

…У рэдакцыі скончылася папера. Але застацца ў такі час без газеты нельга. Пайшлі ў ход вучнёўскія сшыткі, кавалкі шпалер. Каб вытрымаць фармат, клеілі невялічкія лісты ў большыя аркушы. "Звязда" па-ранейшаму была з партызанамі, падпольшчыкамі, насельніцтвам.

…У канцы студзеня 1944 г. мы размяшчаліся на Чорным балоце. Усе навакольныя вёскі былі заняты фашыстамі, на балоце сабралася некалькі тысяч партызан і сялян, пераважна жанчын, старых, дзяцей. Прыйшла і наша чарга змяніць верстакі і алоўкі на аўтаматы…

…Горш за нямецкія кулі касіў партызан тыф. Злёг і Міхаіл Парфёнавіч. Нягоды апошніх дзён, адсутнасць медыкаментаў дапамаглі лютай смерці. 22 лютага 1944 г. не стала нашага рэдактара, уважлівага і чулага дарадчыка, умелага выхавальніка, бясстрашнага змагара Міхаіла Парфёнавіча Барашкава. На высокім грудку пад трыма стройнымі хвоямі вырас магільны курганок…

Немцы кінулі супраць партызан каля пяці дывізій з танкамі, самалётамі. Праўда, нам цяпер было намнога лягчэй. Лес апранаў зялёны ўбор, пад кожным кусцікам быў прытулак і схованка. У час гэтай блакады мы вымушаны былі закапаць сваю рацыю і архіў. У трывозе не запрыкмецілі добра таго месца, бо літаральна праз тры дні нашы пошукі паспеху не прынеслі. Так дзесьці і сёння тоіць палеская зямля аддзяны ёй на схованку скарб…"

Вось так нараджалася і развівалася партызанская "Звязда", на старонках якой друкаваліся і палымяныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, А. Куляшова, П. Глебкі, К. Крапівы, іншых класікаў беларускай літаратуры.

"Звязда" была і застаецца сапраўдным летапісцам Беларусі, жыцця народа. Яна — унікальны феномен гісторыі, культуры нацыі.

# Капітан Франц і… «9 рота»

**Валянціна ШЧАКАЦІХІНА, метадыст Гомельскай ЦГБ імя А. І. Герцэна**

**Фільм "9 рота" рэжысёра Фёдара Бандарчука вядомы многім. У ім распавядаецца пра бой на вышыні 3234, дзе дзявятая рота 345-га дэсантнага палка больш як суткі стрымлівала рэгулярны полк "Камандас" Пакістанскай арміі.**

У тым баі загінула шэсць чалавек, двое — беларусы. Гэта ўраджэнец Магілёва Андрэй Мельнікаў, якому пасмяротна прысуджана званне Героя Савецкага Саюза, і Уладзімір Крыштопенка з пасёлка Лянок Крупскага раёна, ён удастоены ордэна Чырвонай Зоркі.

У кнізе Рыгора Андрэяўца "Капитан Франц", прэзентацыя якой адбылася ў Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна, таксама распавядаецца пра даўнія афганскія падзеі.

Дзявятая рота тады вымушана была пакінуць вышыню. Ноччу 8-га студзеня пайшоў густы снег, мароз больш як 15 градусаў. А дэсантнікі ўсё яшчэ былі ў летнім…

Вышыню пакідалі без альпійскага рыштунку. На руках неслі забітых і параненых…

Увесь гэты час, пакуль не ўвайшлі ў мёртвую зону, капітан Франц ішоў замыкаючым групы. Такім быў яго характар: весці калону на першай машыне, а спускацца з гор пад абстрэлам "духаў" апошнім. Капітан Франц — гэта Франц Адамавіч Клінцэвіч, ураджэнец вёскі Крэйванцы Ашмянскага раёна. Цяпер ён жыве ў Маскве, з'яўляецца дэпутатам Дзяржаўнай Думы, намеснікам старшыні камітэта па абароне, лідарам Саюза афганцаў Расіі.

На Афганскай вайне капітан Клінцэвіч быў разведчыкам. Самыя складаныя разведаперацыі ён праводзіў са сваёй любімай дзявятай ротай.

Кніга "Капитан Франц" Рыгора Андрэяўца — не чарговы баявік, дзе герой паказвае цуды смеласці і мужнасці. Галоўнае ў ёй — асэнсаванне тэмы Афганскай вайны, філасофскі роздум пра адказнасць за лёсы людзей. Пра гэта гаварылі на прэзентацыі кнігі кіраўнік Саюза афганцаў Гомельскай вобласці, старшыня абкама прафсаюза работнікаў культуры М. Жукевіч, вядомы бізнесмен з Масквы, былы афганец В. Дулебянец, паэт М. Болсун, празаік В. Ткачоў і іншыя. Пісьменнік, артыст Гомельскага драмтэатра А. Бычкоў прачытаў урыўкі з кнігі.

# Дзіцячая драматургія на тэму Вялікай Айчыннай

**У часы СССР пісьменнікі пастаянна звярталіся да падзей, звязаных з гісторыяй савецкай дзяржавы. Пачынаючы з 1940-х гадоў да рэвалюцыйнай тэматыкі дадалася тэма вайны. Адлюстраванне яе ў творах было разнастайным: ад рэальнага паказу трагічных падзей да падфарбаваных прымітыўнай героікай твораў.**

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

Як заўважае кінакрытык В. Нячай, і "ў дзіцячым кіно Беларусі спалучаліся і суіснавалі дзве асноўныя тэндэнцыі ў аповедзе пра падзеі рэвалюцыі і вайны. Першая тэндэнцыя — працяг традыцый гісторыка-рэвалюцыйных і дыдактычных фільмаў-плакатаў, фільмаў-ідэалагічных схем, дзе маленькія героі былі "паменшаным варыянтам" персанажаў дарослых карцін. Адметнасць такіх стужак — толькі ў тым, што ў іх дзеці здзяйсняюць вялікія подзвігі, якія, пэўна, па плячы толькі дарослым, яны ўсе падаюцца "маленькімі-вялікімі героямі". А іх праціўнікі, наадварот, у параўнанні з імі выглядаюць нібы "паменшанымі" — занадта прасталінейнымі, нязграбнымі, іх можна лёгка ашукаць і перамагчы. Такая своеасаблівая экранная "гульня ў гісторыю" нагадвае дзіцячыя гульні "ў вайну" ці "ў Чапаева", якія былі ўласцівы падлеткам тых часоў. Другая тэндэнцыя звязана з новым поглядам на ролю чалавека (у тым ліку і маленькага чалавека, падлетка) у гісторыі. Гэты падыход адрозніваецца ўвагай да псіхалогіі герояў, улікам асаблівасцей іх узросту, разуменнем псіхафізіялагічнага складу дзіцячай натуры, рамантызму светаўспрымання нават у жорсткіх гістарычных абставінах. <…> У іх (фільмах — **А. Т.**) адчуваецца рэальная атмасфера часу і праўдзівасць характараў герояў". Падобная ж сітуацыя назіралася і ў драматургіі для дзяцей.

Дзве п'есы, створаныя на рэальнай фактаграфічнай аснове, — "Юныя мсціўцы" А. Гутковіча і У. Хазанскага (пастаўлена ў 1957 г.) і "Марат Казей" В. Зуба (пастаўлена ў 1962 г.) — адрозніваюцца сваім гучаннем, хоць і абедзве прасякнутыя антываенным пафасам.

Першая з іх распавядае пра падпольную барацьбу Обальскай арганізацыі "Юныя мсціўцы". У п'есе няблага перададзена складаная атмасфера ваеннага часу, якая патрабавала пільнасці, створаны варункі, у якіх востра выяўляецца сутнасць чалавека. Гэта дасягаецца перадусім натуральнасцю характараў герояў і іх узаемаадносін. Варта адзначыць, што ў драматургаў, якія, дарэчы, у многім былі піянерамі гэтай тэмы ў дзіцячай драматургіі, хапіла сродкаў, каб стварыць цэлую галерэю персанажаў.

Праблемы сяброўства і кахання непасрэдным чынам прысутнічаюць у творы, асабістыя стасункі персанажаў уплываюць на агульнае развіццё падзей. Больш за тое, вайна запатрабавала канкрэтнага акрэслівання чалавечых стасункаў, ад шчырасці якіх у экстрэмальнай сітуацыі залежала жыццё. У мірны час здрада сяброўству абарочвалася непрыемнасцямі іншага парадку, чым той, які быў "уведзены" ў паўсядзённую рэчаіснасць вайной.

Фабула п'есы знешне простая: у падпольную арганізацыю трапляе здраднік, што прыводзіць да яе разгрому. Аднак аўтарскае акцэнтаванне псіхалагічных перыпетый надае твору вялікую ступень драматычнасці. Канфлікт існуе не толькі паміж персанажамі, носьбітамі пэўных ідэй, ён у душы саміх герояў, бо адданасць справе часта разыходзіцца з пачуццямі.

Заблытанасць сітуацыі, якую стварыла вайна, выяўляюць і характары дзейных асоб, іх успрыманне таго, што адбываецца. Тут і калабарацыяністы са сваімі хцівымі мэтамі (Куцак, Міша Грачулін), і дзяўчына Тука, якая згубіла маральныя арыенціры і жыве адным днём, і пацыфістычна настроены вораг (Фрыш), для якога найбольшай каштоўнасцю была сям'я, якую ў яго забрала вайна, і, зразумела, моладзь, якая жыве і змагаецца. Як бачым, для некаторых персанажаў вайна перакрэсліла гуманістычную мараль, сапраўдныя каштоўнасці, але многія толькі ў вайну здолелі адэкватна іх ацаніць: "Раней мы не маглі зразумець, якое гэта шчасце — мір". Ужо ў камеры моладзь зноў вяртаецца да гэтай, блізкай кожнаму, філасофіі. Шчасце — "гэта проста... духмяныя травы ў лузе, гэта зоркі ў небе, жыта ў полі, чыстыя воды нашай Абалянкі, гэта... школа, кнігі..."



*Кадр з фільма "Іванава дзяцінства" (рэжысёр А. Таркоўскі).*

> *Пры ўменні ствараць псіхалагізм у дзіцячай п'есе на тэму вайны, якім авалодалі беларускія драматургі, некаторым творам уласцівыя пэўны схематызм у канструяванні ментальна-эмацыянальнага зместу вобразаў і надуманасць у дзеяннях.*

П'еса В. Зуба "Марат Казей" — твор прыгодніцкага кшталту. Многія дэталі, сюжэтныя павароты выглядаюць не зусім праўдападобнымі, нягледзячы на тое, што п'еса была напісана на падставе багатага фактычнага матэрыялу. Можна канстатаваць, што імкненне аўтара надаць напружанасць дзеянню дамінавала над астатнімі важнымі складнікамі драматургіі. Спроба стварыць разнастайнасць у характарах (што атрымалася ў "Юных мсціўцах") не ўдалася. Прычыны гэтага даследчык С. Лаўшук бачыць у тым, што драматургу неставала арыгінальнасці ў бачанні праблемы геройчнага, "таму, відаць, і не ўдалося пранікнуцца яму непаўторнасцю характараў герояў, адметнасцю сітуацый, якія ён паклаў у аснову сюжэтных калізій твора". Як пісаў тэарэтык літаратуры А. Караганаў, "нельга стварыць паўнавартасны драматургічны вобраз, не паказаўшы рух чалавечай псіхалогіі, працэсы ўнутранага жыцця, дыялектыку душы выяўляемага чалавека". Якраз гэтага і бракавала п'есе В. Зуба.

"Не мастацкімі якасцямі, а важнасцю самой тэмы вызначаецца месца гэтай п'есы", — заўважае Э. Гурэвіч, чые словы ў дадзеным выпадку можна і патрэбна аспрэчыць. Бо крытэрыем драматургічнага твора з'яўляецца не значнасць тэмы, "першараднае значэнне мае канфлікт, на падставе якога толькі і магчыма развіць драматургічнае дзеянне" (К. Крапіва). А канфлікт у сваю чаргу характарызуецца шчыльнай карэляцыяй з экспазіцыяй характараў, бо, паводле А. Белай, "не столькі характар рухаецца разам з падзеямі, а тым больш услед за імі, колькі падзеі — праз характар".

> *Галоўная вартасць гэтых твораў у тым, што яны адыгралі прынцыпова значную ролю ў працэсе гуманізацыі літаратуры для дзяцей, у многіх выпадках нават адсунулі на другі план ідэалагічную рэгламентацыю.*

Публіцыстычная драма-казка Н. Мацяш "Крок у бессмяротнасць" (1977) цікавая найперш сваёй арыгінальнай кампазіцыяй і жанравай задумай. У п'есе прысутнічаюць два планы: рэальны (дзеянні партызанаў) і алегарычна-містычны (барацьба Памяці супраць Свастыкі і Смерці). Іх спалучэнне выглядае недапрацаваным. Мала таго, што фабула скапіраваная з легенды пра Сусаніна, дык і адносіны дзейных асоб (Цішкі і Бусліка) да ваенных перыпетый месцамі бянтэжаць сваёй несур'ёзнасцю, між тым героям пагражае смяротная небяспека. Здзейсніць подзвіг, прынесці сябе ў ахвяру, паводле твора, — псіхалагічна лёгка. Дый алегарычны канфлікт Памяці і Свастыкі як увасаблення архетыпаў Дабра і Зла можна было б развіць, не абмяжоўваючыся іх дыялогамі пра каштоўнасці. Менавіта праз адсутнасць псіхалагізму не ўдаецца арганічна сумясціць два розныя паводле свайго характару планы.

Праўдзіва перададзеная псіхалагічная атмасфера ў драмах А. Махнача ("Шпачок", пастаўлена ў 1964-м) у нейкай ступені нівеліруецца злоўжываннем прыгодніцкімі і малаперакаяўчымі элементамі.

Бесчалавечнасць, жорсткасць у творы суседнічае з праяўленнямі гуманізму, бязмежнага па сваёй сіле і несмяротнага па сваёй сутнасці, бо без яго людзі страцілі б людскасць.

С. Лаўшук драму "Шпачок" справядліва называе "адной з самых характэрных п'ес беларускай дзіцячай драматургіі, прысвечаных героіцы Вялікай Айчыннай вайны", адзначаючы пры гэтым, што "напісана яна з добрым разуменнем дзіцячай псіхалогіі". З першых старонак перад чытачом паўстаюць выразныя характары. Зразумела, найбольш вылучаецца постаць пратаганіста — Васілька. Тым не менш рэалістычнасць вобразаў станоўчых герояў не зусім стасуецца з шаржыраванымі партрэтамі ворагаў. Дый першыя іншы раз "пакутуюць" на плакатнасць.

Складанасць вайны, яе ўздзеянне на чалавека, нягледзячы на надуманасць пэўных момантаў у развіцці падзей, проста і пераканаўча выяўляюцца ў геройчнай драме А. Махнача "Гаўрошы Брэсцкай крэпасці" (1974). На вайне страшна, бо "кожнаму жыць хочацца" — тэзіс, асэнсавання якога так не хапала героям разгледжаных вышэй п'ес. Вайна штурхае дзяцей на зусім не дзіцячыя развагі: "Гэта вельмі страшна, калі людзі забіваюць сонца, зоркі, неба! Гэта вельмі страшна, калі людзі спальваюць казку, калі людзі забіваюць людзей і ласку! Для чаго?! Хто даў права такое?! Хто?!" Вайна каталізавала працэсы сталення, гэта ілюструюць словы з драмы А. Махнача "Шпачок":

**"Вацлаў** *(здзіўлена)*. Дзіця… колькі табе год?

**Васілёк.** Калі фашысты забіваюць і спальваюць людзей, дык не пытаюцца пра іх узрост. У вайну і дзеці другія".

І характары "гаўрошаў Брэсцкай крэпасці" з'яўляюцца найлепшым мастацкім адлюстраваннем таго сталення.

А. Махнач глабалізуе развагі персанажаў з дапамогай алюзій на нашых класікаў. Відавочная прысутнасць багдановічаўскіх матываў: "Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам лячым да зор?" Так і хочацца дадаць шамякінскае: калі ўсе мы — "дзеці аднаго дома".

У п'есу А. Петрашкевіча "У спадчыну — жыццё" (пастаўлена ў 1985-м) перавандравалі многія рысы папярэднікаў. Пры ўменні ствараць псіхалагізм у дзіцячай п'есе на тэму вайны, якім авалодалі беларускія драматургі, некаторым творам (у прыватнасці гэтаму) уласцівыя пэўны схематызм у канструяванні ментальна-эмацыянальнага зместу вобразаў і надуманасць у дзеяннях. Псіхалагізм базіруецца хутчэй на драматычна-трагічных калізіях ваеннага кантэксту, чым на супярэчнасцях характараў. Тым не менш А. Петрашкевіч, як і многія іншыя яго калегі па пяры, у сваёй п'есе стварыў атмасферу, прасякнутую гуманістычным, антываенным пафасам.

П'есы на ваенную тэматыку, самую папулярную з тэматычнага спектру беларускай драматургіі для дзяцей 60 — 80-х гадоў, неаднaзначныя паводле мастацкіх якасцей. Паводле праўднаму ўдалых п'ес — і ў сэнсе сюжэтнага развіцця, і ў сэнсе стварэння паўнавартасных характараў — было няшмат. Але галоўная вартасць гэтых твораў у тым, што яны адыгралі прынцыпова значную ролю ў працэсе гуманізацыі літаратуры для дзяцей, у многіх выпадках нават адсунулі на другі план ідэалагічную рэгламентацыю. Іншым разам і прынцып гістарызму быў прынесены ў ахвяру рэалізацыі мастацкай задумы. Тут варта прыслухацца да аўтарытэтных даследчыкаў літаратуры. С. Лаўшук, абапіраючыся на словы В. Гюго пра тое, што драма пакідае гісторыі знешняе і бярэ сабе ўнутраны, жыццёвы бок, дэкларуе: "Не трэба шукаць чыстай гісторыі ў гістарычных п'есах, як не трэба пісьменнікам некрытычна ісці за падзеямі, за дакументальнасцю. Задача мастака перш за ўсё ў выяўленні ўнутранай, гуманістычнай сутнасці гістарычнага факта, якая можа быць перададзена толькі праз душу непасрэдных удзельнікаў адлюстроўваемага".

# Загартаваныя атрутай




Соф'я МАРОЗАВА

Чацвёрты нумар “Полымя” парадаваў чытачоў добрай псіхалагічнай прозай. Гэта і творы Уладзіміра Гаўрыловіча і Леаніда Левановіча, а заканчэнне рамана Зінаіды Дудзюк “Слодыч і атрута”. З апошнім чытач меў магчымасць пазнаёміцца яшчэ ў 2010 годзе: у 3-м і 4-м нумарах друкавалася часопісная версія першай кнігі. Сёлета пісьменніца прапанавала на суд чытацкай аўдыторыі скарочаны варыянт другой (заключнай) часткі рамана, часавыя межы якога ахопліваюць усё ХХ стагоддзе.

Эпахальнасць твора адчуваецца нават у часопіснай версіі. Тут і жыццё ў Заходняй Беларусі пад Польшчай, і акупацыя ў Вялікую Айчынную, раскулачванне, турма, лагер і вяртанне на радзіму, шматразовая перамена палітычных парадкаў, атмасфера даносаў і шматступеньчатая помста. Геаграфія рамана сягае ад вёскі Крачкі ажно да Нью-Ёрка. Але асноўная ўвага ўсё ж засяроджаная на чалавечых адносінах, а менавіта — на стасунках і лёсах Зосі і Гардзея Рахубаў.

“Атруту”, заяўленую ў назве, можна разумець як метафарычна, так і цалкам матэрыяльна. Нездарма гераіня ў цяжкую хвіліну падумае: “Божа літасцівы, пакараў ты мяне за мае вялікія грахі. Я вытручвала сваіх ненароджаных дзяцей, а цяпер мой атручаны муж атруціць мне ўсё маё астатняе жыццё”. Як бы камічна ні выглядала гэтая фраза па-за кантэкстам, варта толькі прачытаць раман, каб пераканацца, што так яно на самай справе і было. А пацвярджаюць гэта звесткі пра рэальную жыццёвую аснову паказаных у рамане падзей (у эпілогу нават згадваецца рэальная асоба, якая мае апасродкаванае дачыненне да гэтай гісторыі, — сучасны расійскі вучоны-геафізік).

Галоўны мужчынскі вобраз рамана Гардзей Рахуба — няўрымслівы шукальнік, з тых, хто “пры ўсялякай уладзе мусіць у турме адседзець”. Паводле смеласці фантазіі і нязломнасці духу ён нагадвае славутага беларускага мастака і летуценніка Язэпа Драздовіча. Падчас цяжкай працы ў шахце Гардзею Рахубу ўдаецца стварыць уласную тэорыю ўтварэння карысных выкапняў у нетрах Зямлі, а таксама тэорыю паходжання планет. Неўзабаве па сканчэнні тэрміну ён дашле сшытак з падрабязным тлумачэннем у Акадэмію навук, аднак навукоўцы не прымуць яго ідэі ўсур'ёз. Складанасць натуры, прадпрымальнасць, ледзь не каракевічаўскі запал героя (чаго вартае выказванне: “Прызнаюся шчыра, што з радасцю памяняў бы сваю пасаду селяніна на пасаду сеймавага дэпутата ці нават самога Пілсудскага…”) маглі б надаць аповеду прыгодніцкі акцэнт, аднак ураўнаважваюцца гаротнай доляй акаляючых Гардзея гераінь. Часта дзеянне паказваецца іх вачыма, што робіць раман у пэўнай ступені “жаночым”. Хапае ў творы і спатканняў, і светлых хвілін пачуццёвай і духоўнай блізкасці, што і ўтвараюць слодыч жыцця.

З найбольш запамінальных месцаў аповеда — апісаны з цёплай іроніяй збор грошай на заснаванне партячэйкі на самым золку камуністычнай агітацыі ў Заходняй Беларусі. Не звыклыя да палітычнай справы вяскоўцы надаюць гэтаму свой, хрысціянскі сэнс (“дамо нейкі грош, і, можа, ён выратуе жыццё якому чалавеку. Нам добры наш учынак залічыцца на тым свеце, а мо і на гэтым”), дзяўчаты звяртаюцца з гэтай мэтай да моладзі на Вяліксдзень, а ўзамен ад іх просяць песню — і дзея ператвараецца ў сапраўднае валачобніцтва (прычым гераіня зацягвае замест валачобнай песню сіроцкую, а хлопцы ёй падпяваюць!). Цікавы і эпізод з прыпозненай рэабілітацыяй Гардзея, што сталася досыць неадназначнай; і лячэнне Зосі знахаркай; і дзённік Гардзея, што паказвае яго духоўны шлях да апошніх дзён жыцця.

У героях Зінаіды Дудзюк ёсць крыніца жыццёвай стойкасці, той “невынішчальны прыродны агонь жыцця”, які так уласцівы людзям ХХ стагоддзя і якога часам бракуе ў наш час. Зведаная цяжкая праца і выпрабаванні загартоўваюць іх, а бліжэй да старасці — робяць светлымі. Але не ўсіх. Таму сямідзесяцігадовая Каця кідаецца душыць сястру, згадаўшы мінулыя крыўды. Зрэшты, яе паводзіны ў творы псіхалагічна абгрунтаваныя.

Калі раман Зінаіды Дудзюк “Слодыч і атрута” пакідае ўражанне цэльнасці і завершанасці, то аповесць У. Гаўрыловіча “Анёлак мой, анёлак...” — салодка-шчымлівае адчуванне недасказанасці. Успаміны чаргуюцца з падзеямі рэальнага часу, закручваючы спіраль аповеда ўсё мацней, нагнятаючы напружанне і набліжаючы развязку. Галоўныя героі тут — мужчына, жанчына і лёс. А іх намаганне “выправіць памылку” выліваецца ў кароткую, але шматзначную сустрэчу.

# Бубен ці Бульбовіч?




Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

“Тоўстыя” літаратурныя часопісы традыцыйна асацыіруюцца ў чытачоў з сур'ёзнай літаратурай, якая ў будучым прэтэндуе на статус класічнай. Адпаведна, аўдыторыя такіх выданняў, да якой часцей за ўсё належыць інтэлігенцыя, складваецца гадамі і не вельмі змяняецца з часам. Усцешна бачыць, што супрацоўнікі часопісаў імкнуцца пашырыць кола сваіх чытачоў. Праявай такой тэндэнцыі стала публікацыя ў красавіцкім нумары “Нёмана” кінааповесці Сяргея Трахімёнка “Феномен Бубна”.

Жанр, выбраны аўтарам, нельга лічыць выпадковым. Вядомы пісьменнік-дэтэктыўшчык, С. Трахімёнак ужо паўтара дзесяцігоддзя плённа працуе як сцэнарыст кіно і відэафільмаў. Большасць з іх мае відавочна дакументальны характар. У адрозненне ад іх, “Феномен Бубна” больш блізкі да мастацкага твора. Згодна з сюжэтам, галоўны герой Барыс Бульбовіч працуе вядучым праграмы на мінскім прыватным канале “Факел”. Ён апынуўся ў сталіцы тры гады таму, але зусім не памятае свайго мінулага. Дырэктар канала з дапамогай пэўных крыніц прыходзіць да высновы, што Барыс трапіў у Мінск з Брэста. Імкнучыся раскрыць таямніцу ў лёсе свайго падначаленага, ён прапануе Бульбовічу выправіцца ў горад над Бугам, спадзеючыся, што той згадае знаёмыя мясціны…

Калі параўноўваць кінааповесць з архітэктурным будынкам, то “Феномен Бубна”, несумненна, належыць да кірунку функцыяналізму, дзе форма вызначаецца функцыяй. Так, аповесці ўласцівыя рысы, якія праяўляюцца ў большасці дэтэктыўных твораў: імклівае разгортванне сюжэта, халаднавата-стрыманы мужчынскі стыль, здольнасць пісьменніка трымаць чытацкую ўвагу. Аднак паколькі кінааповесць напісаная вельмі ўпэўненай, прафесійнай рукой, у ёй няма штучных і непатрэбных элементаў сюжэта, паводзіны герояў абгрунтаваныя, а кожная рэпліка толькі развівае дзеянне.

Пры шэрагу станоўчых рыс твор не пазбегнуў двух спрэчных момантаў. У фінале машыну галоўнага героя і яго сяброў пераследуюць двое мужчын, адзін з якіх мае з сабой армейскі гранатамёт “муха”:

“— Слушай, — сказал бывший начальник (службы бяспекі. — **Д. М.**) мужику на заднем сидении, — а может, не надо. Петруха погиб, пусть они живут, ведь заказ некому проконтролировать.

— Заказ оплачен, — ответил мужик, — значит, я его выполню”.

Праз пэўны час здзяйсняецца спроба забойства. Барыс “под шуршащий звук летящей к цели гранаты” выцягвае ўсіх з салона. Пасля выбуху машына знішчана. Героі застаюцца жывымі і працягваюць сваё падарожжа. Наколькі верагодны такі “хэпі-энд”? Вядома, патэнцыяльныя гледачы фільма будуць толькі ў захапленні. Але лагічна, што пры такіх аперацыях прафесіяналы заўсёды ўпэўніваюцца ў выніках сваёй працы, каб выключыць неспадзяванае выратаванне ахвяр.

Падаецца спрэчнай і іншая сітуацыя. Бульбовіч цалкам забыўся пра сваё мінулае і страціў усе аператыўныя навыкі. Аператыўнік Міхаіл кажа яму ключавое слова, пасля якога ў свядомасці Барыса ўключаецца закадзіраваная праграма, і ён ператвараецца ў супергероя Бубна. Кіруючыся праграмай, Бульбовіч перамагае сваіх канкурэнтаў. А вось потым робіцца незразумела, хто ў кінааповесці дзейнічае далей: Бубен ці Бульбовіч. З аднаго боку, ён, кіруючыся логікай Бубна, збівае дырэктара і сваю жонку Аліну, якіх абвінавачвае ў здрадзе. З другога боку, праз пэўны час Барыс, які пераўвасобіўся ў Бульбовіча, ужо не здагадваецца, хто гэта зрабіў. Пасля галоўны герой, які нібыта зноў становіцца Бубнам, ужо разважае пра фонд у паўмільярда долараў. Магчыма, у фільме, які можа быць зняты паводле кінааповесці, такія пераходы будуць абыграныя або праз спецэфекты, або праз асобу выканаўцы. Але ў часопіснай публікацыі яны не абгрунтаваныя і таму выклікаюць непаразуменне.

Па вялікім рахунку, рысу пад “Феноменам Бубна” можна будзе падводзіць толькі пасля выхаду фільма на экран. Таму выніковую ацэнку працы С. Трахімёнка як сцэнарыста лепш адкласці. Але зыходзячы з уласна літаратурнага аспекта, з упэўненасцю канстатую: “Феноменам Бубна” пісьменнік пацвердзіў сваю прыналежнасць да беларускай дэтэктыўнай эліты.

# Невыносная крохкасць быцця




Алена КАРП

Цэнтральным творам красавіцкага нумара “Маладосці” падаецца аповесць Андрэя Федарэнкі “Дзікі Луг”.

Наважыўшыся аналізаваць яе, можна спрабаваць вызначыць месца твора, запісаўшы яго, напрыклад, да “нямоднай” вясковай прозы, і здзівіцца смеласці аўтара: на гэтай дзялянцы хіба магчыма знайсці вольнае месца? Ды ўрэшце высветліцца, што вёска тут далёка не галоўнае.

Можна намагацца ўпісаць аповесць у кантэкст ранейшых творчых набыткаў А. Федарэнкі, але, наравістая, яна ўсё адно будзе трошку асобна, не стане ўшчыльную з нібыта такой блізкай аповесцю “Вёска”. У апошняй вёска для героя — месца выгнання. Інтэлігент у першым пакаленні, ён асэнсоўвае сябе, сваё асяроддзе, Беларусь, а праз яго асабістую гісторыю праходзіць гісторыя краіны. У “Дзікім Лузе” вёска — самае што ні ёсць натуральнае асяроддзе, сацыяльныя зрухі абазначаныя, але ўвага на іх не акцэнтуецца. Новая аповесць будзе трымацца бліжэй да апавядання “У Крыме” з досыць простым сюжэтам, але выключным стылем і нечаканай для такой няхітрай гісторыі роздумнасцю.

Сюжэт у творы наогул ледзь не ігнаруецца. Героі вымкнутыя са знешняга свету, вывезеныя ў “зямны рай” — Дзікі Луг, адпаведна ніякай падзейнасці, нічога з гэтымі людзьмі ў раі не здарыцца, і “вялікая зямля” ніяк не можа даць пра сябе знаць. І вось гэтай цішынёй, супакоенасцю карыстаецца Федарэнка-стыліст, каб выпісаць кожны характар так, што чытачу нічога іншага не застанецца, акрамя як паверыць. Праз дэталі, партрэты, мову, акалічнасці часам перакручаных лёсаў героі бачацца жывымі і адметнымі, матывацыя іх учынкаў зразумелая, а заганы і слабасці ўраўнаважваюцца станоўчымі якасцямі.

Гэткай самай жывой бачыцца і прастора, у якой існуюць героі. І вось парадокс: пры вонкавай цішыні, беспадзейнасці гэтыя выразныя, дэталёвыя апісанні, аб'ёмны мастацкі свет, які ўзнікае дзякуючы ім, пакідаюць уражанне хараства і багацця жыцця. Гэтым жа адчуваннем, прынамсі, у дзень пакосу, жывуць героі: “…людзі адчувалі кожны адно і тое ж — паўнату жыцця, якога так многа вакол, якое і ў стракатанні конікаў, і ў гэтай цыбуліне, у хрумсце, з якім яе грызуць, і ў тым, як чарка перадаецца з рук у рукі, і ў вогнішчы, якое гарыць сабе, падымаецца дымок над ім…”

Закалыханы такой ідыліяй чытач ужо гатовы паверыць, што сэнс напісанага толькі ў тым, каб расплюшчыць яму вочы, паказаць, якім паўнакроўным можа быць жыццё. Тым больш што падкупляе гумар аўтара, мяккі і незласлівы (ёсць у творы і пазнавальнае, знаёмае ўжо з “Рэвізіі” пакепліванне з легкаважкага, бяздумнага пісьма: “Калі б у Кулінічаў была дачка, дык вось ён гатовы, апрабаваны сімвал: каліна — дзяўчына. Дрэўца расце і квітнее, і разам з ім дачушка… Але Васілёк быў мужчынскага полу, таму гэты варыянт не спрацоўвае, на жаль”). Тым больш за шэсць гадоў у вёсцы нічога не змяняецца, толькі малыя падрастаюць, а дарослыя старэюць. Бадай, самае нечаканае ў тэксце — уварванне аўтара, які да гэтага быў толькі наратарам, але не ўдзельнікам: “Неяк у жніўні, увечары, сонца заходзіла за хаты, я, босы на цёплым вулічным пяску, спыніўся перад калінай… І так сэрца забалела!.. <…> Адкуль гэтае адчуванне, якое не магло ва мне ўзнікнуць з нічога? Гэта чужое адчуванне — таго, хто жыў да мяне, я цвёрда ведаю, яно перайшло, пасялілася ў маім целе, я проста яго нашу ў сабе, як чужую рэч, а потым яно таксама пяройдзе ў чыёсьці цела, і ўжо той будучы чалавек будзе замірацца ад салодкага і жахлівага болю ў сэрцы…”

Падобная думка яшчэ будзе паўтораная аўтарам: “…такое хараство было разліта вакол, што не дапускала яно думкі пра смерць; ды не бывае яе, не можа яе быць у гэтай зорнай бясконцасці, сярод вечнай гармоніі…” Аднак пачынае пакрысе, неўпрыкмет змяняцца танальнасць аповесці. З'яўляецца драматычнае і ўсё адно спакойнае (магчыма, таму, што мы помнім і пра хараство, і пра бессмяротнасць) адчуванне жыцця, узнікае матыў памірання — гібель вёскі, “першыя яе перадсмяротныя сутаргі”, актуалізуюцца ўсе тыя знакі, што раскіданыя ў тэксце: перарэзаны вужык, каліна як прадвесце няшчасця, урэшце сама касьба як метафара смерці, знішчэння.

Жыццё аказваецца хісткім, непрадказальным: хто быў узнесены, той зрынуты, і наадварот. Нібы на шалях, пераважвае то адзін, то другі прынцып: умей бачыць і чуць гэтае жыццё, цешся яму і “не забывайся, хто ты ў гэтым свеце”, пераважваюць то жыццё, то смерць. Магчыма, задачай аповесці і было сцвердзіць, сфармуляваць гэтае пачуццё хісткасці і прывабнасці жыцця, адчуванне адвечных шаляў, перад якімі і застаецца ў задуменні чытач: “А можа, ён хацеў сказаць, што ж гэта за штука такая жыццё, як жа ж яно ўмее падманваць, то ўзносячы чалавека высока, а затым непазбежна апускаючы ўсё ніжай, ніжай, ніжай?..”




## Ляцяць дзьмухаўцы

*Дзесьці лівень мочыць разнатраўе…*
*Тата згроб пакосы у стажкі.*
*І мядзее над узгоркам ранне,*
*І ляцяць бязважка дзьмухаўцы.*

*А ў мурах яскрава грэе сонца —*
*І вятры з паўднёвай стараны.*
*Як у нас, не пахнуць тут журботна*
*Надвячоркам сінім палыны.*

*Шум аўто і мітусня людская…*
*Хуткім рытмам поўніцца жыццё.*
*Безразважна, покуль маладая,*
*Я зрабіць магу амаль ўсё!*

*Толькі дзесьці мільгаціць ліхтарык,*
*Сыпле дождж ядлоўцава-грыбны…*
*І вісіць, як месяц, позні яблык,*
*І ляцяць бязважка дзьмухаўцы.*

## Рамонкі лугавыя

*Яшчэ не раз убачымся с табой,*
*Няхай не родныя, але і не чужыя.*
*Заліты сонейкам абшары гарадоў —*
*І ў гладышы рамонкі лугавыя.*

*Святлом тваім сагрэтая ў жыцці,*
*Таму бяды, нібыта, не спазнала.*
*І кожны парастак, радок зямны,*
*Што клаўся на паперу, шанавала.*

* * *

*Сустрэла — і адчула, як зямля*
*З-пад ног бянтэжна ў нікуды знікае.*
*…Нібыта сарамлівая вясна*
*Цябе праз час мне ластаўкай вяртае.*
*Ды толькі не ўцякаю з небыцця,*
*Гляджу ў бяздонне шчасця ненарокам,*
*І адгарае промень пачуцця —*
*Як хараша цвітуць сады высока!*

*Ты з успамінаў прышласці і страт!*
*Такі святы, аднак усё ж далёкі.*
*І не прыняць абачлівых парад,*
*Не натуліцца ад нябачнай спёкі.*

*Не варажу на тое, чым жыву,*
*Надоўга боль і радасць прымірыла.*
*І спадзяюся: ўсё-ткі разлюблю,*
*Каго яшчэ душою не забыла.*

## Матчына святло

*Заспявай, як у дзяцінстве, мне песню*
*Пра наш край, што я шчыра люблю.*
*Ах, матуля, якое прадвесне!*
*Зелянее навокал узлессе!*
*І цяпло бласлаўляе зямлю.*

*Столькі сцежак прайшла, а нанова*
*Вымяраю адвечны свой шлях!*
*Вось пясчаная ў вёску дарога.*
*І жытнёвая зноўку трывога*
*У матуліных ясных вачах.*

*Не хвалюйся! Здалёк прывітаю —*
*І тваю я развею тугу.*

*Ты ўсю ночку мяне калыхала,*
*Я радзімы другой не шукала —*
*І святло праз гады берагу.*

*Заспявай,*
*бы ў дзяцінстве, мне песню*
*Пра наш край,*
*што я дужа люблю.*

## Зямля цвіце

*Цвіце зямля рамонкамі і мятай,*
*Маліннік заплятаецца ў жыццё.*
*Мне не парушыць*
*радасці і свята,*
*Калі яно на сконе дзён тваё.*

*А далягляд імжыць над цішынёю*
*Сунічнай. І ніколі не збяднець,*
*Як поле узыходзіць збажынаю,*
*Так будзе ўсход гулліва ружавець.*

*Прыйду на міг,*
*застацца каб навечна*
*І любавацца дзіўнай старанай.*
*Звіняць лугі вярбовыя надрэчна —*
*Зямля цвіце сівою даўнінай…*


Фота Кастуся Дробава

## Дэбют




Вершы касцюковіцкай паэткі Наталлі Азаранкі, аўтаркі зборніка "Небесных мыслей зеркала", не пакінуць абыякавым ніводнага аматара паэзіі, бо напісаны ад душы і для душы простай, даступнай і шчырай мовай з самай глыбіні жаночага сэрца.

**Наталля ДРОБЫШАВА**

## Падкова

*Падкову знайшоў у расе чалавек:*
*— Навошта мне шчасця так многа?*
*Ён кінуў штосілы знаходку уверх,*
*І — трапіла шчасце да Бога.*

*А Бог падарункаў такіх не чакаў,*
*Тым болей ад чалавека,*
*Ён шчасця ўсім людзям з нябёсаў паслаў,*
*А першы зрабіўся паэтам!*

*І неба не раз на зямлю прынясе*
*Майстроў беларускага слова.*
*Няхай жа яна зіхаціць у расе,*
*Мая залатая падкова!*

## Квітней, мая Беларусь!

*Белых яблык духмяны наліў*
*Зноў зямельцы паклон адбівае,*
*Дыванамі яе прыбірае*
*Восень шчодрая з золатам ніў.*

*Чараўніца, бы з казкі, — зіма*
*Ручнікамі прасторы ўсцілае.*
*Прыгажэй я не ведаю краю!*
*І бялейшага ў свеце няма!*

*Заквітнее мой велічны край —*
*Яркі май у правы заступае,*
*Як прыгожа на скрыпачцы грае*
*Салавейка! Яму падпявай!*

*І рамонкавы белы узор*
*Лёгкі ветрык у полі хвалюе.*
*Вечар неба пяшчотай малюе.*
*Ноч расквеціцца бісерам зор.*

*Незалежнасць святкуе народ*
*У разгары квяцістага лета,*
*Звонка песня гучыць у паветры,*
*І дзяўчатам вадзіць карагод.*

## Просты… Шчыры…

Алесю Пісьмянкову

*Яснавокі, прыгожы, бялёсы.*
*Срэбра чыстых крыніц у душы.*
*Быў падобны на светлыя вёсны —*
*Ён з Радзімай у сэрцы пражыў.*

*Легкакрылы, з манерамі бусла,*
*Кветкавей, салавей, снегавей*
*Паланілі і розум і вусны, —*
*Чуў ён шоргат блакітных завей.*

*Песняра нам дало Прыбяседдзе,*
*Меў жа сілу жытнёвых палёў.*
*Быў ён блізкі чужым і суседзям,*
*Просты, шчыры Алесь Пісьмянкоў!*

*Нам знаёмствам не грэх ганарыцца, —*
*Светлы талент, запал і спакой.*
*Дзесьці ў шумнай, прывабнай сталіцы*
*Помніў ён пра сваіх землякоў.*

*Яму зоры вянок завівалі*
*І па Бесядзі ночку плылі…*
*Гэта нашая памяць святая*
*Не загіне на роднай зямлі.*




## 20 студзеня 2011 года

*Свой дзень народзінаў без маці*
*я адзначаю ўпершыню.*
*І не святочна*
*ў родлай хаце,*
*і я не радуюся дню,*
*якім пачаў*
*свой век жыццёвы,*
*каб крочыць сёння*
*па зямлі.*
*Мяне віншуюць,*
*толькі словы*
*не саграюць зусім,*
*калі*
*не чую іх ад маці болей*
*у хаце роднай, як хацеў.*
*І сэрца працінае болем:*
*асірацеў...*
*асірацеў...*

* * *

*На жыццёвых хвалях гушкаў*
*лёс мяне. Сказаць жа шчыра:*
*я ўтрымаць не змог жар-птушку —*
*і яна зляцела ў вырай.*

*Мне зіму дала на роздум,*
*каб, вярнуўшыся вясною,*
*зразумець, ці ўсё сур'ёзна*
*паміж ёй было і мною;*

*каб адчуць, ці так мне скрушна*
*без яе было пад небам,*
*і даведацца: жар-птушка*
*трэба мне альбо не трэба...*

* * *

*Пражыў імгненне — і яно*
*ужо становіцца мінулым,*
*ці то пазначаным вясной,*
*ці то зімой,*
*наскрозь прадзьмулай.*

*Імгненне ёсць імгненне — ты*
*яго не сціснеш, не расцягнеш,*
*няхай хоць будзе залатым,*
*ды знікне ўсё ж,*
*нібыта ў багне...*

* * *

*Быццам ліхтары пад поўняй,*
*тут, у садзе родным, між сукоў,*
*бацька вывесіў шпакоўні*
*і чакае з выраю шпакоў.*

*Дачакаецца крылатых —*
*пасвятлее раптам на душы.*
*Птушкам бацька вельмі рады,*
*а яшчэ — што да вясны дажыў.*

* * *

*А гэта звычайная з'ява,*
*і верыш ты ў тое нібы,*
*што маеш законнае права*
*кахаць і каханаю быць.*

*Ты права кахаць скарыстала,*
*ды ў любячым сэрцы — туга.*
*Каханай, на жаль,*
*ты не стала —*
*каханы цябе не кахаў.*

*А кажуць, звычайная з'ява —*
*у роўнай ступені нібы*
*мы маем законнае права*
*кахаць і каханымі быць...*

* * *

*Такая ноч была, такая —*
*з цяплом і прахалодай,*
*што я і сёння ўспамінаю*
*ноч тую з асалодай.*

*І ты была, была такая,*
*з якой не засумуеш.*
*Я іншай ночы не жадаю —*
*мне б паўтарыць зноў тую.*

# У рэтраспектыве летапісу

**Напярэдадні 1150-гадовага юбілею самага старажытнага горада Беларусі — Полацка — у выдавецтвах краіны пабачыла свет шмат кніг, прысвечаных гораду над Дзвіной, яго гісторыі, культуры, знакамітым палачанам. І гэта цалкам заканамерна. Полацк — калыска беларускай духоўнасці, нездарма ж ён першы сярод беларускіх гарадоў на год стаў Культурнай сталіцай краіны. Кожная з новых кніг адметная, як па змесце, так і па фармаце. Да прыкладу, Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі выпусціла ўнікальны альбом "Полацк. 1150". На гэтую незвычайную кнігу мы і звернем больш пільную ўвагу.**

**Юзэфа ВОЎК**

Альбом (а яго аб'ём больш як 500 старонак) можна смела назваць летапісам Полацкай зямлі. Але летапісам асаблівым. Тут мінуўшчына і сучаснасць знітаваныя не толькі ў тэкстах, але і ў шматлікіх фотаздымках. Яны нагадваюць пра старажытныя часы — крыж Еўфрасінні Полацкай, Барысавы камяні, старыя фрэскі, іконы — і акрэсліваюць месца нашай генерацыі ў канве больш як тысячагадовай гісторыі горада і дзяржавы.

— Альбом "Полацк. 1150" уключае тэксты, падрыхтаваныя супрацоўнікамі Інстытута гісторыі, Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы, Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, Полацкага нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Усе матэрыялы былі па-мастацку апрацаваныя вядомым пісьменнікам, палачанінам Навумам Гальпяровічам. А фотаздымкі для праекта зробленыя вядучымі фотамастакамі з Мінска і Полацка, — распавядае галоўны рэдактар выдавецтва "БелЭн" Ларыса Языковіч. — У гэтым выданні мы паспрабавалі паказаць гісторыю Полацка, прадставіць яе ў папулярным выглядзе. Думаю, што наша задумка рэалізаваная. Аўтары ў сваіх матэрыялах звяртаюць увагу на адметныя моманты мінуўшчыны, пачынаючы з першых паселішчаў на берагах Палаты, утварэння Полацкага княства, знаходжання полацкіх земель у складзе Вялікага Княства Літоўскага, становішча ў рэгіёне ў часы розных войнаў. Завяршаецца расповед ужо нашымі днямі, мы звяртаем увагу і на перспектывы развіцця горада як гістарычнага і турыстычнага цэнтра.

Гэты альбом — сумесная праца вялікага калектыву аўтараў. У іх ліку — вядомыя даследчыкі гісторыі і мастацтва Тамара Габрусь, Вольга Ляўко, Дзяніс Дук, Сяргей Тарасаў, Вячаслаў Даніловіч і іншыя. Хоць вынік іх працы — фотаальбом, па сутнасці папулярнае выданне, ён мае сур'ёзную навуковую базу. Над мастацкім афармленнем працавалі Усевалад Свентахоўскі і Павел Семчанка. Асобныя тэксты выдавецтва атрымала з




Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, дапамогу ў зборы матэрыялаў аказалі Полацкае кніжнае выдавецтва і рэдакцыя газеты "Полацкі веснік", а Нацыянальны мастацкі музей прадаставіў карціны мастакоў-палачан. Альбом "Полацк. 1150" пабачыў свет пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта, Полацкага гарадскога выканаўчага камітэта.

Што да зместу выдання, то тут таксама ёсць свае адметнасці. Так, у альбоме ўпершыню змешчаны пераклад "Жыція Еўфрасінні Полацкай" на сучасныя беларускую і рускую мовы. Аўтар перакладу — даследчык даўняй літаратуры, доктар філалагічных навук Іван Саверчанка. Кнігу адкрывае прывітальнае слова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі.

— Мы пастараліся паказаць чытачу-гледачу ўсе помнікі культуры, усе музеі, што ёсць у Полацку, прадставіць вельмі багатую гісторыю горада і яго слаўных жыхароў — Усяслава Чарадзея, Еўфрасінню Полацкую, Францыска Скарыну, Сімяона Полацкага, — зазначае Ларыса Уладзіміраўна.

Можна заўважыць у кнізе і іншыя адметнасці. Да прыкладу, нумарацыя старонак падаецца паралельна ў двух варыянтах: арабскімі лічбамі і спецыяльнымі значкамі, якімі ў стараславянскай мове абазначалі нумар. Тут можна знайсці цытаты з работ вядомых гісторыкаў, прысвечаных Полацку, прачытаць цікавыя факты пра старажытны горад.

Але з падрыхтоўкай вялікага альбома праца над "полацкай тэмай" у выдавецтве "БелЭн" не скончылася. На аснове вялікай кнігі зрабілі і маленькую, яна пабачыла свет у межах серыі "Маленькі прафесар". Выданне "Знакамітыя палачане" распавядае пра трох знакавых асоб у гісторыі Полацка— Усяслава Чарадзея, Еўфрасінню Полацкую і Францыска Скарыну. З мінуўшчынай самага старажытнага горада з дапамогай гэтай кнігі змогуць пазнаёміцца і дзеці.

*Прэзентацыя*

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Слова пра зброю

Як выглядалі воіны Полацкага княства? Якую зброю яны выкарыстоўвалі? Наколькі магутным было княжацкае войска? Думаецца, гэтыя аспекты існавання сярэднявечнага грамадства цікавяць не толькі спецыялістаў-гісторыкаў і сяброў клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі, але і больш шырокае кола патэнцыяльных (ці сапраўдных) аматараў мінуўшчыны. Адказы на іх можна знайсці ў кнізе кандыдата гістарычных навук, загадчыка аддзела археалогіі, нумізматыкі і зброі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Мікалая Плавінскага "Войска Полацкага княства: ад часоў Рагвалода да эпохі Усяслава Чарадзея". Прэзентацыя гэтага выдання прайшла ў Полацку падчас Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Полацк у гісторыі і




культуры Еўропы", прымеркаванай да 1150-годдзя самага старажытнага горада Беларусі.

Навуковыя і навукова-папулярныя работы, прысвечаныя пытанням развіцця ўзбраення, стратэгіі і тактыкі старажытных часоў і эпохі Сярэднявечча, нязменна карыстаюцца папулярнасцю. Але тут беларускаму чытачу пашанцавала менш, чым аматарам гісторыі вайсковай справы з іншых еўрапейскіх краін, бо ў айчыннай гістарыяграфіі спецыяльныя даследаванні ў гэтай галіне вельмі нешматлікія. Таму кніга "Войска Полацкага княства: ад часоў Рагвалода да эпохі Усяслава Чарадзея", багата ілюстраваная не толькі здымкамі артэфактаў, але і аўтарскімі рэканструкцыямі, можа хаця б у некаторай ступені кампенсаваць гэты недахоп.

— У гэтым кароткім даследаванні сцісла распавядаецца пра шырокае кола пытанняў, звязаных з гісторыяй узбраення і рыштунку полацкага войска, яго тактыкі, а таксама пра фартыфікацыю Полацкай зямлі, — зазначае Мікалай Плавінскі. — Кніга хоць і пазіцыянуецца як навукова-папулярнае выданне, можа быць цікавай нават спецыялістам-гісторыкам.

На пытанне пра ўзровень арганізацыі войска ў Полацкім княстве ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі краінамі аўтар адказвае:

— Наяўнасць добрага войска была ўмовай існавання дзяржавы. Сярэднявечча — час войнаў усіх супраць усіх. І калі дзяржаўнае ўтварэнне не мела сталай і развітай вайсковай сістэмы, яно не магло нармальна існаваць. У кожным рэгіёне Еўропы былі адметнасці развіцця вайсковай справы, але агульныя рысы прыкладна аднолькавыя. Калі згадаць падзеі, звязаныя з імем князя Усяслава Брачыславіча "Чарадзея", які на працягу амаль 15 год вёў бесперапынныя войны на ўсходнееўрапейскім абшары, можна зрабіць выснову, што Полацк меў магутны вайсковы і эканамічны патэнцыял, дастатковы для ўтрымання войска такога высокага ўзроўню арганізацыі і падрыхтоўкі.

Пры напісанні работы дапамаглі прадметы, знойдзеныя падчас археалагічных раскопак. Самі артэфакты дазваляюць рэканструяваць знешні выгляд тагачасных людзей. Аўтар працаваў і з пісьмовымі крыніцамі. Гэта летапісы, берасцяныя граматы, а таксама скандынаўскія сагі.

*У падтрымку чытання*



**Генеральны дырэктар РУП «Белпошта» Ірына Саксонава:**

## «Сёння хочацца класікі»

Нягледзячы на тое, што інфармацыйныя тэхналогіі распаўсюджваюцца і моладзь імкнецца больш чытаць у інтэрнэце, попыт на кнігі застаецца і захоўваецца многія гады. Бо ні з чым не параўнальна — проста ўзяць у рукі кнігу і чытаць яе. Думаю, што кніга жыла і будзе жыць як самае вялікае багацце чалавецтва.

Бабуля навучыла мяне чытаць, калі мне было пяць гадоў. Мая мама ўсё жыццё працавала бібліятэкарам. Гэта сфарміравала ў нашай сям'і любоў да кнігі, якую мы перадаём з пакалення ў пакаленне.

У дзіцячыя гады больш за астатнія падабаліся кнігі Віталя Біянкі, Джэралда Дарэла пра жывёл. У юнацтве — рамантыка падарожжаў Джэка Лондана, а сёння хочацца класікі.

Кнігі люблю розныя: чытаю і фантастыку, і дэтэктыў — каб атрымаць разрадку (вельмі напружаная работа). Самы любімы беларускі аўтар — Уладзімір Караткевіч. У мяне дома поўны збор яго твораў, якія толькі можна было некалі набыць. Шмат разоў іх перачытвала. Ён настолькі праўдзіва, пранікнёна і моцна апісвае Беларусь, што чытаеш і адчуваеш трапятанне душэўнае. Вельмі люблю Максіма Багдановіча. Дзеля таго, каб яго чытаць, трэба настроіцца на асаблівы лад: каб супакоене было, ціхая радасць. Люблю Якуба Коласа, асабліва "Новую зямлю". Цытаты з паэмы можна прымяняць да нашага сучаснага жыцця — там такі цудоўны беларускі гумар.

# Чэмпіён эпохі гусінага пяра

**Сёлета спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння знакамітага польскага пісьменніка Юзафа Ігнацыя Крашэўскага (1812 — 1887), жыццё і дзейнасць якога звязаныя не толькі з Польшчай, але і з Беларуссю. Ён аўтар 223 аповесцей і раманаў, у тым ліку 88 гістарычных. Аднак Юзаф Крашэўскі вядомы не толькі як пісьменнік, паэт, драматург, публіцыст, але і як літаратуразнаўца, этнограф, выдавец, музыкант, мастак і мастацтвазнаўца. Усе напісаныя ім працы маглі б скласці каля 600 тамоў. Нездарма ў "Кнізе рэкордаў Гінеса" ён адзначаны сярод "самых пладавітых аўтараў" як "чэмпіён эпохі гусінага пяра".**

**Алена ЦІТАВЕЦ,**
**загадчык сектара кнігазнаўства аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі**

З нагоды памятнай даты ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі арганізавана выстаўка "Юзаф Крашэўскі ў люстэрку гісторыі". На ёй прадстаўлены выданні XIX — XXI ст. з фондаў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў, перш за ўсё — прыжыццёвыя выданні твораў Юзафа Крашэўскага на польскай мове і ў перакладах на еўрапейскія мовы, а таксама даследаванні, якія распавядаюць пра жыццё і творчасць пісьменніка.

Юзаф Крашэўскі нарадзіўся 28 ліпеня 1812 г. у Варшаве, але, паводле вядомага польскага даследчыка жыцця і творчасці пісьменіка Вінцэнта Данэка, "не быў і не адчуваў сябе варшавянінам, таму што яго бацькі жылі ў вёсцы Доўгае ў Пружанскім павеце на тэрыторыі Гродзенскай губерні Расійскай імперыі". Бацька, Ян Крашэўскі, быў харунжым Пружанскага павета. Маці, Зоф'я Крашэўская, дачка землеўладальніка з Раманава (тэрыторыя Варшаўскага княства), падчас ваеннай завірухі 1812 г. пакінула Доўгае, каб нарадзіць дзіця ў больш бяспечным месцы.

Дзяцінства Юзафа прайшло ў Раманаве на Падляшшы і ў маёнтку каля вёскі Доўгае. Аповеды бацькі і яго суседзяў пра даўнія часы, жыццё шляхты, магнацкі род Радзівілаў зарадзілі ў хлопчыку цікавасць да гістарычнай мінуўшчыны.

Будучы пісьменнік пачаў навучанне ў 1882 г. у бялападляскай школе (Люблінскае ваяводства). Пра яе ён пісаў: "Ах! у гэтай Бялай я прабыў лепшыя з маіх дзіцячых гадоў, у ёй мая душа адкрылася свету, тут упершыню я адчуў жаданне пісаць і ўпершыню ўзяў у рукі пяро".

У 1826 — 1827 гг. Юзаф набываў веды ў Люблінскай ваяводскай школе, потым скончыў знакамітую Свіслацкую гімназію — адну з найлепшых навучальных устаноў на беларускіх землях. Гэта была першая свецкая школа, яе заснавальнік, граф Вінцэнт Тышкевіч, сабраў там найлепшых педагогаў. Пра ўражанні Юзафа Крашэўскага ад гімназіі і настаўнікаў распавядаецца ў "Аповесці без тытулу" ("Powieść bez tytułu"), прадстаўленай на выстаўцы. У цыкле нарысаў "Вобразы з жыцця і падарожжаў" ("Obrazy z życia i podróży") ён пісаў: "У гэтым ціхім і спакойным мястэчку… я працаваў як ніколі, але зменіў кірунак: у Бялай мы больш забаўляліся, чым вучылі фізіку і хімію, у Любліне мучыліся матэматыкай, у Свіслачы я як след заняўся мовай і літаратурай".



Вывучэнне розных моў юнак прадоўжыў у Віленскім універсітэце, ён па-ранейшаму захапляўся гісторыяй, жывапісам, пачаў выдаваць літаратурныя творы. Знакаміты ўніверсітэт яму не ўдалося закончыць. Перад паўстаннем 1830 — 1831 гг. Юзафа арыштавалі за антыўрадавую агітацыю і пасадзілі ў турму, у 1832 г. вызвалілі і пакінулі ў Вільні пад наглядам. Пасля вызвалення ад паліцэйскага нагляду Юзаф паехаў у Доўгае, у 1835 — 1836 гг. жыў у Вільні, даследаваў гісторыю горада. Усе лепшыя творы пісьменніка былі напісаныя вельмі хутка, за 10 дзён створаны раман "Паэт і свет", які пры жыцці аўтара быў перакладзены на 9 моў і прынёс яму еўрапейскую вядомасць.

Далейшае жыццё Юзафа Крашэўскага было звязана з Валынню, Варшавай, Дрэздэнам. Пісьменнік памёр 19 сакавіка 1887 г. у Жэневе, 18 красавіка адбылося ўрачыстае пахаванне ў Кракаве.

На выстаўцы ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі шырока прадстаўлены прыжыццёвыя выданні твораў пісьменніка. Сярод аповесцей прыцягваюць увагу кнігі, выдадзеныя ў Беларусі, — "Два багі, дзве дарогі: сучасная аповесць" ("Dwa bogi, dwie drogi: powieść współczesna") (Мінск, 1881), "Уляна: палеская аповесць" ("Ulana: powieść poleska") (Пецярбург — Магілёў, 1855), а таксама знакавы ў лёсе аўтара твор "Паэт і свет" ("Poeta i świat") (Львоў — Варшава, 1872.). У гісторыю польскай літаратуры Юзаф Крашэўскі перш за ўсё ўвайшоў як аўтар гістарычных раманаў. У экспазіцыі — "Старая гісторыя: аповесць з IX стагоддзя" ("Stara baśń: powieść z IX wieku") (Кракаў, 1876.), "Божы гнеў: аповесць гістарычная" ("Boży gniew": powieść historyczna) (Варшава, 1886), "Доля і нядоля: аповесць пра апошнія гады XVIII стагоддзя" ("Dola i niedola: powieść z ostatnich lat XVIII wieku) (Варшава, 1864) і іншыя. Звяртае на сябе ўвагу драматычны твор "Палюбоўнік: драматычная камедыя ў трох актах" ("Panie kochanku: anegdota dramatyczna we trzech aktach") (Познань, 1867).

На паліцах — навуковыя работы па гісторыі і літаратуразнаўстве "Польшча ў часы трох падзелаў 1772 — 1799: вывучэнне гісторыі духу і звычаяў" ("Polska w czasie trzech rozbiorów 1772—1799: studia do historyi ducha i obyczaju") (Познань, 1874), "Новае літаратуразнаўства" ("Nowe studja literackie") (Варшава, 1843), "Гутаркі пра літаратуру і мастацтва" ("Gawędy o literaturze i sztuce") (Львоў, 1857).

У экспазіцыі — малюнкі Юзафа Крашэўскага, імі ілюстравана праца беларускага археолага, гісторыка, этнографа Канстанціна Тышкевіча "Вілія і яе берагі" ("Wilija i jej brzegi…"). Дарэчы, гэта кніга была выдадзена Юзафам Крашэўскім у Дрэздэне ў 1871 г. На выстаўцы — факсіміле гэтага выдання (2008 г.) з прадмовай пісьменніка. Вядома, што сваімі малюнкамі Юзаф Крашэўскі аздабляў і некаторыя ўласныя кнігі.

Асобны раздзел прысвечаны дзейнасці Юзафа Крашэўскага ў якасці рэдактара. Тут прадстаўлены экзэмпляры літаратурнага часопіса "Athenaeum" (Вільня, 1841, 1846), у якім ён працаваў у 1841 — 1851 гг. Дарэчы, у гэтым выданні былі ўпершыню надрукаваныя творы Уладзіслава Сыракомлі, Яна Баршчэўскага. Рэдактарскую дзейнасць Юзафа Крашэўскага адлюстроўвае і перакладное рускамоўнае выданне "Рассказы о польской старине. Записки XVIII века Яна Дуклана Охотского с рукописей, после него оставшихся, переписанныя и изданныя Ю. Крашевським" (Санкт-Пецярбург, 1874. Т.1).

Наступны раздзел экспазіцыі прысвечаны перакладам твораў пісьменніка. Самы ранні ў фондзе бібліятэкі — пераклад на чэшскую мову гістарычнай аповесці пра асаду Чанстаховы "Кардэцкі", які выйшаў у Празе ў 1861 г. Выданнямі 1956 — 2011 гг. прадстаўлены пераклады на рускую мову раманаў, аповесцей, а таксама паэм і вершаў.

Упершыню на беларускую мову вершы пісьменніка "Дзед і баба", "Ці ты знаеш старонку" пераклаў Янка Купала. Свой варыянт перакладу верша "Дзед і баба" прапанаваў літаратуразнаўца і паэт Уладзімір Мархель ("Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай", Мінск, 1998). У экспазіцыі — пераклады празаічных твораў — святара, паэта Пятра Бітэля ("Хата за вёскай", 1989), перакладчыка Васіля Сёмухі ("Апошнія хвіліны князя ваяводы (Пане Каханку) — у часопісе "Крыніца", 1998, № 3), беларускага картографа Льва Казлова ("Кароль у Нясвіжы" — у часопісе "Маладосць", 2009, № 2 — 6). Літаратуразнаўца Міхась Кенька пераклаў на беларускую мову гістарычныя аповесці "Маці каралёў (Ягайлавы часы)", "Паперы Глінкі", "Кароль у Нясвіжы", "Апошняя са слуцкіх князёў" (яны выйшлі ў двух кнігах у серыі "Скарбы сусветнай літаратуры" у 2007, 2009 гг.). Творамі Юзафа Крашэўскага захапляліся Уладзіслаў Сыракомля, Янка Купала, Янка Брыль, што пацвярджаюць іх выказванні.

Дарэчы, Юзафу Крашэўскаму пашчасціла адчуць асалоду ад папулярнасці сваіх твораў і атрымаць прызнанне яшчэ пры жыцці. У выданні "Кніга ў гонар юбілею Ю. І. Крашэўскага 1879 года" ("Księga pamiątkowa jubileuszu J. I. Kraszewskiego 1879 roku") (Кракаў, 1881) распавядаецца, як у 1879 г. адзначаўся 50-гадовы юбілей творчай дзейнасці пісьменніка. Для ўдзелу ва ўшанаванні Юзафа Крашэўскага з'ехаліся літаратары з розных краін. Як сведчанне высокай адзнакі яго творчасці да юбілею былі адліты медаль з сілуэтамі Адама Міцкевіча і Юзафа Крашэўскага.

Пісьменнік увайшоў у гісторыю польскай літаратуры як заснавальнік нацыянальнага рамана, сваім настаўнікам яго лічылі Эліза Ажэшка, Генрык Сянкевіч, Баляслаў Прус. Але, як напісала даследчыца Руслана Гусева, "быў час, калі ў маладосці… ён называў сябе "ліцвінам", пісаў "Гісторыю Літвы", называў Вялікае Княства Літоўскае "загінутай Атлантыдай", спачатку прымусова паланізаванай, а потым русіфікаванай. Ды і па ўсім сваім жыцці ён крэўна звязаны з нашымі мясцінамі".

## На паліцы

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Светлыя мары вясны




***Міраслаўвіч, А.** Вясна: прыродазнаўчыя нататкі: для дзяцей сярэдн. шк. узросту. / Андрэй Міраслаўвіч; маст. Галіна Іванова. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012.*

Новы выдавецкі праект "Літаратуры і Мастацтва" "Поры года" з'яўляецца крыху нечаканым. Прызнацца, калі аглядаць здабыткі ў кнігавыданні некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў, можна заўважыць, што ў нас брακуе мастацкай і публіцыстычнай літаратуры для дзяцей на прыродазнаўчыя тэмы на беларускай мове. Так, сёе-тое зроблена ў прадстаўленні жывёльнага і раслiннага свету праз казкі і вершы. Можна згадаць такіх аўтараў, як Алена Масла, Віктар Гардзей, Раіса Баравікова, Людміла Рублеўская. Карыстаючця папулярнасцю кнігі Алеся Бадака з серыі "Усім пра ўсё": "Расліны", "Жывёлы", "Птушкі", "Насякомыя". І ўсё ж катастрафічна не хапае кніг, праз якія можна было б шукаць адказы на пытанні, звязаныя са зменамі ў прыродзе, з тымі характарыстыкамі, што вылучаюць поры года менавіта ў Беларусі.

Андрэй Міраслаўвіч першую кнігу серыі "Поры года" прысвяціў вясне. Зразумела, зборнік прыродазнаўчых нататак "Вясна" (жанравае вызначэнне, як мне асабіста падаецца, лепей было б ахарактарызаваць так: "прыродазнаўчыя замалёўкі" альбо "замалёўкі пра прыроду") складаецца з наступных раздзелаў: "Сакавік", "Красавік", "Май". Кожнаму з іх папярэднічае ў якасці эпіграфа верш. "Сакавік" адкрываюць "Праталіны" Янкі Купалы, урывак з паэмы "Яна і я". "Праталіна лягла на гонейках, // Збудзілася пралесачка ад сна… // Устань, устань, маё ты сонейка! // Залатаструнная іграе ўжо вясна".

Якімі з'явамі, асноўнымі падзеямі характарызуе пісьменнік, напрыклад, май — апошні месяц вясны? "Зялёныя назвы вясны" — пра тое, што доўгі час на беларускіх землях апошні месяц вясны называўся травень. "Мая — ахоўніца зямлі" — была такая багіня Мая. "…Рымляне атаясамлівалі грэчаскую німфу з італьянскай багіняй Маяй (Маестай), якая апекавалася плоднасцю зямлі. Якраз у першы дзень трэцяга месяца вясны і года рабілі ахвярапрынашэнні гэтай багіні. З той даўніны на кантыненце традыцыйна 1 мая ладзяцца розныя ўрачыстасці і святкаванні. У Беларусі адзначаюць цяпер Свята працы". "Маёвы росквіт" — пра кветкі, якія ў маі зацвітаюць, увогуле пра майскі перыяд росквіту. Замалёўка гучыць як падказка: азірніцеся навокал, заўважце прыгажосць яблыневай квецені, белы вэлюм слівы, вішні, пушыстыя кветкавыя гронкі бэзу!.. "Сонца, дождж і вецер" — сапраўды пазнавальны нарыс пра зменлівыя прыродныя з'явы. "Салаўіныя песні" — замалёўка, прысвечаная прылёту ў Беларусь птушак у маі: стрыжоў, ластавак, мухаловак, казадояў, івалгаў. У гэтым раздзеле — і пра салаўёў, якія найлепшыя свае рулады спяваюць якраз у маі. "Мацярынскі клопат" — пра звярыныя клопаты, пра тое, у якіх жывёл нараджаюцца дзеткі ў апошні месяц вясны. Асобна А. Міраслаўвіч расказвае пра паводзіны зубра — "Гонар Беларусі". А завяршаецца майская частка кнігі замалёўкай "Пачатак лета".

Несумненна, у "Вясны" павінен быць цікаўны да прыроды, да самых розных праяў у жывёльным і раслінным свеце чытач. Магчыма, з развіццём серыі "Поры года" выдавецтва пашырыць ілюстрацыйны складнік. У кнігах такога характару (ілюстрацыі як сімпатычныя застаўкі да раздзелаў "Сакавік", "Красавік", "Май" зрабіла мастак Галіна Іванова) адных малюнкаў, прысвечаных месяцам пары года, вельмі і вельмі мала. Можна толькі ўявіць, якія графічныя вырашэнні ў прыродазнаўчым выданні з такім шырокім і цікавым зместам прынялі б кнігавыдаўцы і кніжныя мастакі, прыкладам, у Швецыі.

# Роман без Мастера

Ольга ПОЛОМЦЕВА

“В памяти каждого человека есть тупик Позора, куда он изо всех сил старается не заглядывать, предпочитая прогуливать сытые мысли, скажем, по бульвару Добродетели или проспекту Взятых Вершин…” Строка **Юрия Полякова**, автора “Ста дней до приказа”, не утратила своей лёгкости и в романе **“Конец фильма, или Гипсовый трубач”** — завершающей книге сатирической эпопеи о конце советских времён с их яркой и узнаваемой символикой. Как и остальной прозе Полякова, “Концу фильма…” присущи искромётный юмор, социальная острота, политическое ехидство.



Со времён Михаила Булгакова в недра писательской среды таким пристальным взглядом, пожалуй, не заглядывал никто. Хотя главный герой произведения на роль Мастера явно не подходит, а значит, и бессмертного творения, рукопись которого пламени не подвластна, человечеству не оставит. “Писодей” Андрей Кокотов, как именует его Юрий Поляков, автор “Жадной нежности”, “Беса наготы”, “Сумерек экстаза”, “Заблудившихся в алькове” и прочих творений серии “Лабиринты страсти”, увлечён начинающимся романом с влиятельной дамой Натальей Павловной Обояровой, обладательницей “скифского взгляда” и множества других неоспоримых достоинств. Фоном романа служит жизнь творческого окружения в богатые на смену картинок девяностые. В доме творчества “Ипокренино” кипят нешуточные страсти. Писодеи и игроводы (режиссёры), ловкие предприниматели, вчерашние учёные, богатые наследники известных художников, очаровательные “бывшие пионерки” — забавная портретная галерея романа не раз заставит читателя хохотать до слёз.

Например Гелий Захарович Меделянский, младший научный сотрудник, мирный домохозяин при супруге-стоматологине, к которому во время влажной уборки квартиры вдруг приходит идея сказки о Змеюрике — чудом уцелевшем кетцатлькоатле. Идеологически выдержанное творение, в котором американская девочка Саманта Смайл помогает верному другу из России пионеру Юре Шмакову, доверенному лицу КГБ, спасти мир от нового оружия — летающих ящеров, “перегнав” их на дружественную СССР Кубу, приносит автору неплохую прибыль. Гелий Захарович начинает стричь купоны за использование наивными предпринимателями популярного героя — мелькнёт ли созданный им динозаврик на вывеске ресторана, женском белье или тюбике зубной пасты. И даже перемены на политической арене не остановили предприимчивого Меделянского: он изящно вносит коррективы в сказку “Друзья и враги Змеюрика”, столь дорогую целому поколению детишек. Теперь Юра и Саманта с помощью диссидентов спасают динозаврика от коммунистов и перемещают в оплот свободы — Америку. И хотя международная детвора новой версии “Змеюрика” предпочла “Гарри Поттера”, Меделянского это не огорчило: орден “За заслуги перед Отечеством” на родине и золотой диплом “Верный друг Америки” с пожизненной въездной визой пришлись как нельзя кстати.

Как и положено, герои живут на пределе: сочиняют сценарии, интригуют, попадают в психушку, заболевают смертельными болезнями, замышляют убийства, судятся, опять интригуют… Чем всё закончится? Юрий Поляков гарантированно удержит читательское внимание до последней страницы романа.



## Посадить нельзя помиловать

Данила АРТИМОВИЧ

С какими писателями у вас ассоциируется польская литература? Интеллектуалы и специалисты с филологическим образованием наверняка назовут имена Адама Мицкевича, Юлиуша Словацкого или Витольда Гомбровича. Но вот те читатели, кому интересна современная литература, сразу же вспомнят Януша Леона Вишневского и **Иоанну Хмелевскую**. Творчество первого требует отдельного разговора, а сейчас остановимся на пани Иоанне. Уроженка столичной Варшавы, дочь директора банка, она мечтала стать архитектором и даже поступила в соответствующую Академию. Но однажды, путешествуя по Франции, увидела в коммуне Орли небольшую часовню. Поражённая её красотой, Хмелевская поняла, что такого архитектурного уровня ей не достичь, и сменила профессию. А поскольку её тётка была журналистом, не удивительно, что гены сыграли свою роль.

В 1964 году, когда Хмелевской исполнилось тридцать два года, был издан её первый роман “Клин клином”. С того времени вышло более 60 книг (в основном детективов). Написанные с иронией, они стали открытием для русскоязычных читателей. Один из последних — роман **“Девица с выкрутасами”**, переведённый с польского Н. Селивановой.

Главная героиня Стася Руцкая больше всего на свете ценит свою... девственность и носится с ней как с писаной торбой. Её будущий избранник должен был оценить в ней именно это качество и быть благодарен Стасе по гроб жизни. Свои надежды девушка связывает с Климчаком. Однако после романтической ночи героиня приходит в полицию с заявлением об изнасиловании. Положение осложняется тем, что стражи правопорядка имеют с героем давние счёты. Раньше Климчак участвовал в ограблении банка, но полиция сумела обвинить его только в незаконном хранении оружия. Кроме того, главный герой сидел в тюрьме за сбыт краденого и за подделку свидетельств об окончании школы. Неудивительно, что полицейские просто мечтают упрятать Климчака за решётку.

Существует ещё один фактор. Разумеется, женский. В деле оказывается замешана сладкая парочка: стерва Патриция, работающая журналисткой, и донжуан Костусь, являющийся прокурором. Они заключают пари: виноват ли Климчак. Действительно, кто такая Стася: жертва коварных подружек или злодейка, задумавшая погубить ни в чём не повинного парня?

Если вы всё ещё сомневаетесь, открывать ли книгу, предложу несколько дополнительных аргументов. Во-первых, об уровне Хмелевской свидетельствует тот факт, что она является обладательницей множества литературных премий, в том числе Премии Председателя Совета Министров за творчество для детей и юношества (1989), и двукратным лауреатом премии “АО ЭМПиК” (крупнейшая в Польше сеть продажи медиа-носителей) (2000, 2001). А во-вторых, если вы когда-то уже попали под воздействие писательского таланта Иоанны Хмелевской, то обязательно останетесь верными её творчеству.

# Ключ к миллионам

Чеслава ПОЛУЯН

Кто пишет детективы лучше — мужчины или женщины? Думаю, найти точный ответ на этот вопрос достаточно сложно, но всё же возможно — путём сравнения. Хотя бы двух новых книг ООО “Харвест” — романа **Елены Михалковой “Комната старинных ключей”** и книги **Вадима Елфимова “Нищая Миллионерша”** (серия “Современный детектив. Библиотека Союза писателей Беларуси”).

Объявление в газете “Требуется экономка в загородный дом. С проживанием...”, загадочный хозяин, который по телефону даёт краткую точную характеристику Полине, главной героине романа, угрюмый водитель со шрамом на лице, дом, полный запертых дверей и тайн... Любители детективов могут просто упиваться атмосферой, с удовольствием рассматривать декорации. Тут есть и старинные часы, и таинственные комнаты, ключи-помощники, орден Привратников, спаситель из Французского Легиона, замок в Венгрии, убийство в прошлом и много-много всего. Речь идёт о книге Елены Михалковой “Комната старинных ключей”, а уж этот автор знает толк в расследованиях и загадках.

Елена Михалкова по образованию юрист. Одно время она работала помощником следователя в РОВД. Оказавшись как-то летом в глухой деревне без детских книжек для маленькой дочери, решила придумать для неё стихи. Они были неожиданно заменены несколькими детскими журналами. Потом писала сценарии для детских телевизионных передач, а свой первый детектив создала на спор с мужем. Издаётся с 2007 года, кстати, очень успешно. К настоящему времени совокупный тираж её книг составил более миллиона экземпляров. Как отмечают критики, “…романы Елены Михалковой — это жизненные детективы, в которых каждый герой, даже второстепенный, обладает своей историей, вызывающей не меньший интерес, чем основная сюжетная линия”.



А теперь — о книге Вадима Елфимова “Нищая Миллионерша”. “Утреннее сообщение телевизионных новостей: …Только что из дежурной части милиции поступила срочная информация! Сегодня ночью в Москве совершено дерзкое покушение на одного из влиятельнейших в стране банкиров…” Интригующее начало романа, не так ли? А если ещё учесть, что в нём речь пойдёт не только о деньгах, финансовых махинациях, делах мафии, но и, конечно, о любви, совсем интересно становится.



Бесспорно, Вадим Елфимов очень неплохо разбирается в международных финансовых делах. Он выпускник факультета международных отношений и международного права Киевского государственного университета, окончил аспирантуру, защитил кандидатскую диссертацию. В настоящее время — доцент политологии, эксперт на телевидении и радио. Детективы публикует с 2004 года. И они очень успешно продаются. К примеру, четыре романа (вышли под псевдонимом Вадим Вершинин) дважды переиздавались в российском издательстве “Эксмо”. Публикуются его романы и в Минске. Елфимов — член Союза писателей и Союза журналистов Беларуси.

Что предпочесть — женскую эмоциональность или мужскую логичность? А может, наоборот — женский холодный расчёт или мужскую горячую чувственность? В любом случае — выбор за читателем. А лучше обратить внимание на обе книги.




# Трыкатажныя душы

## *Апавяданне*

Праявам гэтага расповеда дала пачатак недарэчная перабудова з наступным распадам Савецкага Саюза…

Коціць на ўласнай блішчаста-чорнай "Волзе" па сваім базавым гарадку генеральны дырэктар трыкатажнага аб'яднання, але ні вадзіцельскіх правоў, ні тэхпашпарта на машыну ніколі з сабою не бярэ — лічыць, што яны яму, вядомаму на ўсю акругу, непатрэбныя.

Раптам яго ўпершыню спыняе міліцыянер-сержанцік і патрабуе прад'явіць дакументы.

Ад абурэння мычыць, хто ён, ды сур'ёзны сяржант, бліснуўшы сталёвымі вачыма, камандуе:

— Праедзем у аддзяленне!

— Як знаеш! — з найгранай абыякавасцю годзіцца правінавачаны, але ў яго кіруюча-пастаўленай барытанальнасці гучаць нядобрыя ноткі.

Як толькі дзяжурны па райаддзеле крамяны капітан кідае зыркі позірк на арыштаванага, у яго ад здзіўлення ледзь вочы на лоб не лезуць, усхопліваецца, аддае чэсць, зласліва зірнуўшы на сяржанта і, мармытнуўшы: "Адну хвілiначку", кулём кідаецца з пакоя.

Па яго следзе ў дзяжурку шыбае ўстрывожаны дзябёлы палкоўнік. Ліслiва вітаецца з насупленым гендырэктарам, намерваецца апраўдацца, што сяржант новы, нетутэйшы, яшчэ нікога не ведае, але той вызвяраецца:

— Палу-учыш ты ў мяне цяпер дапамогу на канцтавары, на аргтэхніку, на рамонт машын, на рацыі — на ўсё палучыш!
— І з ганарлівай самаўпэўненасцю ідзе да машыны.

Зніякавелы начальнік міліцыі спаганяе злосць на сяржанце і звальняе яго з работы, маўляў, не вытрымаў выпрабавальнага тэрміну…

Дома дырэктара нецярпліва чакае старэйшы сын са сталіцы — палепшаны прыродаю, адштукаваны ўзор халоднага бацькавага аблічча з больш выпешчанымі рысамі: белатвары, белацелы, санавіты, з ужо крыху расплывістымі лініямі акруглага твару і прытоенай адлучанасцю ад роднага гнязда. Адчужанасць яго хутчэй манерная, чым сапраўдная, і прычынілася ад амаль паўтарагадовага жыцця ў сталіцы. Насамрэч жа ён цалкам быў і ёсць залежны ад бацькі: ніколі не спазнаў ні нядолі, ні нястачы, ні цяжкасцей — усё ў яго было, усяго яму хапала, усё яму дазвалялася. Пасля школкі ж перад ім насцеж расчыніліся дзверы бацькавай альма-матар — тэкстыльнага інстытута, адкуль ён нядаўна выскачыў адразу кандыдатам навук, заадно жанатым з аднакурсніцай-паўночніцай з лялечным тварам і прывабнай паставай.

З такімі прыбыткамі родны мястэчковы гарадок яго ўжо не задавальняе. Асядае ў Мінску на кватэры. Бацька па-за чаргою ўладкоўвае яго ў будаўнічы кааператыў на чатырохпакаёўку ў Малінаўцы…

Прыезд сына развейвае непрыемны асадак ад затрымання міліцыянерам, цёпла ўсміхаецца, пытае, ці будуецца кватэра, і падае руку.

Нашчадак пачціва яе паціскае:

— Будуецца, тата, не хвалюйся, хутка во пераеду, але гэта дробязь, цяпер, тата, пра іншае трэба думаць…

— Пра што ж? — загараецца тата; яму даспадобы ідэі маладых, але калі гэтыя маладыя — яго сыны.

Сын, паядаючы тату вачыма, тлумачыць:

— Цяпер, ва ўмовах палітычнага і эканамічнага разброду, самы прыдатны момант заняцца прадпрымальніцтвам і завесці сваю справу, не хачу працаваць на дзяржаву. У Мінску вунь хлопцы якія толькі фірмы не адкрываюць! Чым мы горшыя! Але лепш за ўсё — малое прадпрыемства, бо фірма — назва замежная і выклікае ў нашых людзей непрыязь; дарэчы, тым, хто вырабляе свой тавар народнага ўжытку, даюць крэдыты на развіццё; можна ўзяць ды па сённяшнім блытаным часе не аддаць — банк спіша на палітычнае становішча…

Бацька гарэзліва ўсміхаецца:

— Практычна! Дзелавіта! Па-мойму! Але што ты збіраешся выпускаць?

— Та-та! — сарамліва ўпікае яго сын. — Мы ж трыкатажнікі, а трыкатаж заўсёды ходкі! Хачу для пачатку арганізаваць невялікую майстэрню ці вытворчасць па вырабе і продажы жаночых плісіраваных спадніц на падкладцы, яны, мне здаецца, добра пойдуць; улезла ў спадніцу, накінула да яе на плечы якую кофтачку ці блузку, глядзіш, і апранутая — просценька і з густам!

— Так-то яно так! — годзіцца бацька, — але на што ты разлічваеш — патрэбны ж палатно, тая ж самая падкладка, швейныя машыны, аверлакі, спецыялісты, памяшканне; за што ты ўсё гэта думаеш набыць?..

Сын засмучаецца, насупліваецца, пасля кароткага маўчання выпальвае:

— У мяне ж тата генеральны дырэктар трыкатажнага аб'яднання!..

Малады ды ранні сынок трапляе туды, куды мецiць, і кранае прыхаваныя струны спагадлівай бацькавай душы. Генеральны дырэктар мае падвышанае зямное пачуццё абавязку перад сваімі дзецьмі за кошт свайго, то бок дзяржаўнага, аб'яднання і беспярэчна ўспрымае ўразлівую рэмарку сына як заклік да дапамогі, да дзейства.

— Давай прыкінем усё гэта наглядна!..

З алоўкамі і калькулятарамі яны карпеюць над папераю ўсю аксамітна-цёмную веснавую ноч: мяркуюць, спрачаюцца, даказваюць, але галоўным козырам іхняга доследу з'яўляецца не глыбокае эканамічнае абгрунтаванне намечанай вытворчасці з усімі належнымі патрабаваннямі, у тым ліку і заробку швачак і астатніх наймітаў, але ўласны прыбытак. Толькі пад раніцу са зморанымі тварамі запэўнілі сябе, што прадпрыемства будзе апраўдана…

Неўзабаве ў двух першапавярховых класах адной са сталічных школ у раёне камвольнага камбіната пачала дзейнічаць вытворчасць па вырабе і продажы жаночых спадніц з поўным пакетам належных дакументаў, з адпаведным тэхналагічным абсталяваннем і наймітамі.

Не трэба мець лоб на сем пядзей, каб зразумець, што галоўная заслуга ў яе адкрыцці належыць бацьку — кіраўніку таранна-валявога тыпу: вязальныя станкі, швейныя машыны, аверлакі і ўся астатняя тэхналагічная неабходнасць перакачавалі з яго аб'яднання, ды і рэгістрацыя з подпісамі такіх ухапістых устаноў, як пажарная, санстанцыя, ахова прыроды і іншыя, рабіліся толькі пры яго ўдзеле.

Дзякуючы яму фінансавы капітал сына бярэ станоўчы пачатак, расце і развіваецца, а сам ён увесь час пасецца на татавым аб'яднанні, скубе з дзяржаўнага стога ўсю неабходную надобу, ганарыцца татам і расхвальвае яго, бы якое ўзвышанае недасягальна-завоблачнае бажаство.

На недалёкім часе плісіраваныя спадніцы ў новаспечанага бізнесмена ўжо ў сентэнцыёзнай і сентыментальнай гісторыі. Ладзіць бурны паток жаночых паўшарсцяных касцюмаў, трымае некалькі гандлёвых пунктаў для іх продажу, абслугоўвае без касы спекулянтаў, яго грашовыя справы растуць і шырацца.

У асабістым жа плане ў яго нараджаецца наследнік, адыстар бацька, ён з сям'ёю пераязджае ў сваю пабудаваную чатырохпакаёўку, аздабляе яе шыкоўным еўрарамонтам з цёплай падлогаю, абстаўляе замежнай мэбляй, каб пабольшыць кухню, выразае вентыляцыйны кораб, перакрыўшы паступленне вольнага паветра чатыром суседзям знізу, здзяйсняе юнацкую мару — набывае джып. Доўгае чорнае паліто, скураны партфель з доларамі, укормлены белы твар — грамадства на сваю галаву займела дзялка новай беларускай фармацыі.

Разам са сваімі значнымі дасягненнямі характар яго непапраўна псуецца. Калі напачатку збольшага прытрымліваўся прыстойнасці, то, багацеючы, скупее, сквапнее, крывадушнічае і махлярыць, вядзе скажоную бухгалтэрыю і справаздачу, каб утойваць сапраўдныя даходы і менш аддаваць падаткаў дзяржаве, рабочым жа, пры ўсіх жорсткіх патрабаваннях, плаціць зусім мала. "Калонія строгага рэжыму!.." — горка жартуюць яны. Праўда, на сваіх ён аднойчы нарываецца. Сяльчане спальваюць яго цэх у вёсцы, дзе ён, думаючы, што знайшоў дурняў, амаль нічога не плаціць мясцовым наймітам.

Яго баявая жоначка, расіянка-паўночніца, з простай сям'і: маці — бібліятэкарка, бацька — інвалід без адной нагі, — але дальнабачная. Яшчэ ў інстытуце падатлівасцю, пакорлівасцю і жаночай пяшчотаю прывабіла да сябе перспектыўнага дырэктарскага сынка, цяпер жа, калі ён стаў багацеем, паказала свой сапраўдны характар — цалкам падпарадкавала яго сабе. Яна, як некалі кампартыя пры саветах, стала яму адзінай натхняльнай і кіруючай правіцельніцай, без яе ведама ён не вырашае ніводнага пытання, а сейф з неафармленымі доларамі прыхавала ў сваім пісьмовым стале, ключ ад яго трымае толькі пры сабе. Іншым разам яна раптам беспрычынна ўзвесяляецца, асабісты кіроўца вязе яе ў цэнтр горада, яна яму з адухоўленым тварам гаворыць, калі яе забраць, і вясёлай хадою кудысь крочыць…

Алгарытмы ж яе мужа пастаянна і настойліва цярэбяць яго свядомасць у пошуках спосабу вялікага ўзбагачэння, пакуль не позна, праз роднага бацьку. Калі чалавек увесь час пра нешта думае, то ён абавязкова штосьці прыдумае. Прыдумаў і ён. Браць на бацькавым аб'яднанні слынны на ўвесь былы Савецкі Саюз жаночы, дзіцячы і мужчынскі трыкатаж і вывозіць яго на продаж з добрымі надбаўкамі ў неабсяжную Расію, ды не клункамі, як мізэрныя спекулянты, а машынамі.

Атрымаўшы згоду падатлівага таты, які мае да сына трапяткую слабасць і дзеля яго ідзе ўразнос, купляе два МАЗы з даўжэзнымі крытымі фурамі па восемдзесят з гакам кубаметраў ёмістасці кожная, біткам набівае іх таварам і адпраўляе з даверанымі экспедытарамі і кіроўцамі машын у гандлёвыя вояжы на Усход. Адтуль хлопцы прывозяць свайму гаспадару кейсамі долары, акурат як у іншаземных фільмах пра бандытаў.

Зусім яшчэ зялёны камерсант без працоўнага стажу і жыццёвага понюху разам з такой жа зялёнаю жонкай нарываюцца на шалёныя грошы. Не ад Бога яны, ад д'ябла.

Падаткі дзяржаве з іх не плацяць, выкарыстоўваюць толькі на свае патрэбы, ды ён вывозіць іх партфелямі за мяжу па адкрытым яму на мытні калідоры. Для адводу вачэй здаюць у банк сумкамі беларускія рублі ўсё за той жа бацькаў трыкатаж, які таксама вывозяць фурамі ў Мінск і ў раёне камвольнага камбіната ў дзяржаўным праектным інстытуце прадаюць. Але іх ужо голымі рукамі не зловіш — слізкія, як уюны, забарыкадаваныя ўплывовымі знаёмствамі і ўтоеныя надзейнай страхою ў выглядзе палкоўніка абласной міліцыі.

Жыццё ў ранейшых рамках малога прадпрыемства і панэльнай чатырохпакаёўкі ім ужо не падыходзіць. Ствараюць сваю уласную самую сапраўдную трыкатажную фабрыку з замежным тэхналагічным абсталяваннем і выхадам жаночых касцюмаў па пяцьсот адзінак і болей за суткі і будуюць сабе маёнтак на беразе вялікага штучнага возера з ладным катэджам, адасобленымі саўнай, басейнам, спартыўнай залай, абгароджаным суцэльным плотам.

Але ў такой раскошы яны дарэшты каснеюць, у аснове іх жыццёвага прынцыпу ляжыць нажыва любым шляхам, поўная знявага да сваіх грамадзянскіх абавязкаў, да людзей і нават да сваіх блізкіх.

Скончыўшы малодшы брат бізнесмена, малы-недарослы са смуглым апатычным тварам, сямейную альма-матар, ну і, вядома, прыязджае да свайго старэйшага брата, каб на яго ўласнай фабрыцы набрацца вытворчага вопыту. Папрацаваўшы колькі і нагледзеўшыся на братнія справункі, прыспічвае і яму стаць гаспадаром. Звяртаецца да таты-завадатара, каб яго старэйшы па-брацку з ім падзяліўся і аддаў адзін цэх. Карміцель ахвотна падтрымлівае ідэю, і яны заяўляюцца да багацея са сваёй прапановаю. Адно ж толькі заікнуліся, як той узбурваецца і, пачырванеўшы ад іхняга нахабства, лаецца на папрасімцаў і выганяе прэч: "Ходзяць тут ро-озныя!.."

З тае пары няма паміж імі ні блізкасці, ні ладу, а толькі халодныя нацягнутыя адносіны, дакладней, іх зусім няма. Тата, вядома, не кідае свайго малодшанькага на волю лёсу, стварае і яму трыкатажную фірму і будуе ў маляўнічым куточку ля возера асабняк.

Дзякаваць Богу, што ў яго толькі два сыны, а то б яшчэ даіў бязбожна айчыну. Ды колькі ж ужо можна! Усё ж гэта адбываецца на вачах у людзей, а яны ж не сляпыя — усё бачаць, і не дурныя — усё разумеюць. Ды і што тут разумець кладаўшчыкам ці грузчыкам, калі яны ўжо два ці тры гады ўзапар адпускаюць і грузяць фуры ажно пад самы дах — адных тавара-транспартных накладных на кожную машыну таўшчынёй з добрую кніжку. Альбо што тут разумець кранаўшчыкам з транспартнага цэха ці спецыялістам з будаўнічага, калі ім выпісваюць камандзіроўкі як на дзяржаўную работу, а пасылаюць будаваць катэджы сынам генеральнага. Вядома, пайшла пагалоска, што іх генеральны дырэктар, мякка кажучы, злоўжывае службовым становішчам на карысць сваіх сыноў, і ў душах рабочых і служоўцаў аб'яднання зарадзіўся да свайго кіраўніка недавер і адказнасць перад грамадою за яго дзеянні. Першым ачухваецца начальнік збыту і перастае адпускаць фуры трыкатажу без папярэдняй аплаты, а гэта камерсанту не па нутры. За ім узбунтоўваецца намеснік галоўнага інжынера — лепшы яго сябар і ўвішны памагаты — і разрывае з ім адносіны. Бацька на іх націскае, але атрымлівае адпор і нават папярэджанне, каб пайшоў з пасады, інакш — "заложаць". Але пагалоска перасягнула межы аб'яднання, дайшла да грамадства горада і дэпутатаў, і яго арыштоўваюць.

Ды што яму арышт! Спрацоўвае сяброўская ўзаемавыручка — і ён на волі. Толькі займаць ранейшую пасаду не выпадала. Сышоў, як той казаў, на заслужаны адпачынак і, каб не цвяліць праўдалюбцаў, пераехаў у Мінск і патрануе малодшаму сыну.

Старэйшы жа носу не паказвае, быццам у яго няма і ніколі не было таты.

Крыўдна бацьку, стараўся дзеля яго, сваё імя зганіў, перажыты арышт і крах адбіліся на яго самаадчуванні, цяпер бы яму сама патрэбнай была сямейная еднасць і аднадушша, а іх няма. Капаючыся ў памяці, заснавальнік трыкатажнай дынастыі не можа адшукаць тую ўпушчаную магчымасць, што прагледзеў, празяваў і не выкарыстаў у выхаванні старэйшага сына.

А таму як з гусі вада, цяпер нашпігоўвае сваімі махлярскімі прамудрасцямі ўжо дарослага сына.

Які хуткаплынны час! Зусім жа нядаўна быў малы і з дзіцячай непасрэднасцю адказваў па тэлефоне: "Тата падысці не можа, ён какае!..", а ўжо скончыў сямейную альма-матар, стаў трыкатажнікам ды на спартыўным аўтамабілі ганяе, што той Шумахер. Досыць бойкі і кемлівы хлапчына. Такія развітыя багацейскія дзеці часцяком кіруюцца не пустымі татавымі павучаннямі, але яго жыццёвымі паводзінамі, то не выключана мажлівасць таго, што гэты пястун удачлівага махляра ўтворыць з ім тое ж самае, што ён утварыў са сваім татам…

## На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі

# Голас жывы над зямлёй

**"Паранены звон" — мемарыяльны комплекс цыкла работ "І памятае свет уратаваны" (2005 — 2009), за які заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, скульптар Уладзімір Слабодчыкаў і архітэктар Ігар Марозаў вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.**

Ізяслаў КАТЛЯРОЎ,
г. Светлагорск

Гэта ўжо відавочна: у Светлагорску з'явіўся адзін з самых праўдзівых і шчырых па сваёй адпаведнасці хрысціянскім традыцыям мемарыялаў, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне. Сюды ў святочныя дні ідуць з кветкамі ўдзячныя жыхары і госці горада. А здаецца, зусім нядаўна мы зацікаўлена абмяркоўвалі ў райвыканкаме эскіз будучага помніка, прадстаўлены вядомымі беларускімі творцамі — скульптарам Уладзімірам Слабодчыкавым і архітэктарам Ігарам Марозавым. Задума ўражвала. Многія пагадзіліся тады са мной, што калі яна будзе ажыццёўлена, то аўтары змогуць прэтэндаваць на атрыманне Дзяржаўнай прэміі.

І вось у святочны дзень 9 мая мы ўбачылі не толькі ўвасабленне задуманага, а нешта больш значнае, велічнае, што адразу ж было ўспрынята як неад'емная частка гарадской набярэжнай. І гэта пры тым, што побач узвышаецца помнік воінам-інтэрнацыяналістам, а трохі далей — таксама высокі — каталіцкі касцёл. "Апранутая" ў бетон набярэжная, здавалася б, ніяк не спрыяе суседству мемарыяла. Але аўтары таленавіта ўлічылі ўсе архітэктурныя і ландшафтныя асаблівасці прасторы. Помнік (а гэта амаль дзевяцітонны бронзавы звон) — надзвычай арыгінальны. Расколаты, быццам паранены выбухам, ён уладна падпарадкаваў сабе і абноўленую плошчу, і скрыжаванне дзвюх вуліц, і нават бетонны бераг Бярэзіны.

Калі прыглядаешся, дык расколіна звона нагадвае жураўля, які імкнецца ўвышыню. Зрэшты, і на самім звоне ёсць выявы трох такіх птушак. Чацвёрты журавель, пазначаны толькі сілуэтам, сімвалізуе агульнавядомае: кожны чацвёрты (або трэці?) жыхар Беларусі загінуў у полымі жудаснай вайны.

І наогул, вобразнай, паэтычнай сімволікі ў мемарыяле багата. Ды і сам помнік у выглядзе Звона — ужо сімвал. Расколіна ў ім — не толькі паветраны сілуэт птушкі. Гэта і ўваход у Звон, які можна назваць яшчэ і капліцай, бо знутры на сценах чытаем вайсковыя званні і прозвішчы 264 савецкіх воінаў, якія загінулі пры вызваленні Шацілак і пахаваныя ў брацкай магіле.

Уладзімір Слабодчыкаў расказвае:

— Так, рэаліі дыктуюць сваё. Помнік проста мусіў быць музеем на дакументальным. Вось чаму ніякіх адступленняў ад таго, як былі апранутыя нашы вайскоўцы, чым узброеныя. Ды і саму хроніку вайны я прызнаць не мог. Тым не менш у скульптурна-пластычным вырашэнні без паэтычнай сімволікі ніяк не абысціся. Яна ва ўсім. Нават плошча з яе падыходамі, з наўмысна няроўна пакладзеным брукам, з пяццю гранітнымі блокамі, на якіх трымаецца Звон і якія ўвасабляюць пяць ваенных гадоў, — таксама сімвал.

Я заўважаю, як гэтыя блокі нібы адрываюць Звон ад зямлі, вяртаючы яму хоць бы частку назаўжды страчанай вышыні. Ды і сваім прыродным мякка-чырванаватым колерам яны выдатна спалучаюцца з бронзавымі пералівамі помніка. Паліраваная, сечаная, нібыта аскепкавая паверхня граніту таксама падкрэслівае трывожны эмацыянальны фон успрымання мемарыяла. Нават, здавалася б, бессістэмна раскіданыя каменныя аскепкі мімаволі наводзяць на думку пра скалечаныя вайной лёсы.

Скульптар звяртае маю ўвагу на дамінанту кругавога гарэльефа, якой з'яўляецца скульптурная кампазіцыя: медсястра падтрымлівае загінулага вайскоўца, а побач — супрацьтанкавыя збудаванні, пражэктары, спаленая вёска, ахопленая полымем царква... Толькі два словы, таксама адлітыя з бронзы, дапаўняюць выяву: "Слава загінуўшым".

— Калі ісці вакол помніка з усходу на захад, то на ім можна ўбачыць усю гісторыю вайны: ад сыходзячых у нябыт першых абаронцаў Радзімы да тых, хто салютуе Перамозе на прыступках рэйхстага, — удакладняе У. Слабодчыкаў. — Мне вельмі хацелася аб'яднаць магчымасці аб'ёмнай пластыкі і шматпланавага гарэльефа.



Сам помнік пацвярджае, што Уладзіміру Слабодчыкаву гэта ўдалося. На мемарыяльным Звоне — каля 100 кампазіцыйных выяў. Але вельмі арганічна захоўваецца адчуванне прасторавасці помніка, яго цэласнасці. Гэта новае мастацкае асэнсаванне вайны і яго таленавітае ўвасабленне. Аднак пры відавочнай манументальнасці галоўным усё ж застаецца само месца пахавання вайскоўцаў. Гранітная хвалепадобная надмагільная пліта падзеленая на 264 квадраты (адпаведна ліку загінулых і пахаваных тут). Да яе насамперш і нясуць вянкі ўдзельнікі ўрачыстасцей, калі ідуць да мемарыяла, у свой час асвечанага Арыстархам — архіепіскапам Гомельскім і Жлобінскім.

Вось уражанне архітэктара Ігара Марозава:

— У нас з Уладзімірам Слабодчыкавым у Светлагорску ўсё атрымалася найлепшым чынам. Супалі і жаданне мясцовых улад узвесці такі мемарыял, і ўхвала нашага эскізнага праекта, і аператыўнасць вытворцаў, якія паспелі завяршыць мастацкае ліццё ў сціслыя тэрміны. Светлагорцам давялося рэканструяваць плошчу. Ды і сам мантаж помніка аказаўся працаёмкім, вымагаў вялікага майстэрства... Мастацкае вырашэнне манумента падтрымліваецца скверам, які не страчвае сваіх рэкрэацыйных якасцей і злучае жылыя кварталы з набярэжнай. Архітэктурна-ландшафтную кампазіцыю арганічна завяршае адмысловае асвятленне ў сярэдзіне звона і за яго межамі.

Мы гутарым, а над намі ўсхвалявана плывуць адвечныя гукі. Адкуль яны ў скалечаным і знямелым Звоне? Так-так, з яго! Паводле арыгінальнай задумы аўтараў, у ім, расколатым, параненым, ёсць і невялікі жывы звон, які сваім гучаннем нагадвае пра тое, што нельга забываць ні Вялікую Айчынную вайну, ні яе вялікія ахвяры.



# Усе жанры на палітры

Сяргей ГАЛОЎКА,
кіраўнік народнага мужчынскага вакальнага ансамбля прафесараў і дацэнтаў БДЭУ, заслужаны работнік культуры Беларусі, прафесар

**Творчы вечар кампазітара Эміля Наско адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. У праграме пад назваю "Бяссоніца мая" бралі ўдзел многія салісты, вядомыя харавыя калектывы, прадстаўнікі прафесійнага і самадзейнага мастацтва, члены сям'і Наско. Эміль Наско — член двух творчых саюзаў — кампазітараў і музычных дзеячаў, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, лаўрэат некалькіх рэспубліканскіх творчых конкурсаў, у тым ліку пераможца конкурсу, прысвечанага 500-годдзю Францыска Скарыны.**

Ён пішаў многіх музычных жанрах. І што б гэта ні было — сімфоніі, інструментальныя канцэрты, хары ці вакальныя творы — яго музыка вызначаецца непаўторнай аўтарскай інтанацыяй.

Доўгае і плённае сяброўства звязвае кампазітара з Нацыянальным акадэмічным народным хорам імя Г. Цітовіча. У рэпертуары калектыву нямала твораў Э. Наско: "Тры хоры на словы М. Багдановіча", "Чатыры беларускія калядныя песні", "Сказ-балада памяці Г. Цітовіча" (словы У. Карызны), кантата "Надзя-Надзейка" на вершы П. Броўкі — для двух салістаў, народнага хору, флейты, аргана і ўдарных інструментаў, "Ратуй нас, Божа" (словы Т. Глазоўскай) — балада для салістаў і народнага хору без суправаджэння. Яркім інтэрпрэтатарам творчасці Э. Наско з'яўляецца знакаміты хор БДУ культуры і мастацтваў "Дабравест" пад кіраўніцтвам Альбіны Пякуцькі, які адкрыў філарманічную вечарыну кампазітара. Гучалі яго творы "Бацькоўскі край" (словы Х. Жычкі), "Ратуй нас, Божа" (словы Т. Глазоўскай), а таксама харавыя апрацоўкі. Музыка Э. Наско ў розных жанрах была прадстаўлена лаўрэатамі і дыпламантамі розных вакальніцкіх конкурсаў. Сярод іх — У. Курак, Н. Чыжова, А. Грыневіч… Пералік атрымаецца доўгі.

Эміль Вікенцьевіч больш як 20 гадоў працуе канцэртмайстрам у народным мужчынскім вакальным ансамблі прафесараў і дацэнтаў Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. І тут выявіўся яго творчы талент, адчуваюцца шчырыя адносіны да апрацоўкі песень — не толькі народных беларускіх, але і створаных замежнымі кампазітарамі: польскімі, французскімі, нямецкімі. Напрыклад, вядомы французскі кампазітар Франсіс Лемарк напісаў у свой час "Песню шафёра" на свае ж словы. Эміль Наско так пераклаў яе на чатырохгалосны вакальны ансамбль, што праз песеньку "дальнабойшчыка" адчулася і "музыка" яго прафесіі: рух па бясконцых дарогах і тармажэнне на крутых паваротах.

Сёння ў фанатэцы Беларускага радыё багата песень Эміля Наско. Ёсць і нямала зробленых ім апрацовак, у якіх — прыгажосць і адметнасць.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота аўтара

Сёння ў межах асноўнай конкурснай праграмы 65-га міжнароднага Канскага фестывалю, які праходзіць у кінасталіцы Францыі з 16 па 27 мая, адбудзецца паказ фільма "У тумане". Упершыню стужка сумеснай вытворчасці Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" і кінакампаній еўрапейскіх краін дэманструецца на такім прэстыжным узроўні. Над фільмам, знятым паводле аднайменнага твора класіка беларускай літаратуры Васіля Быкава, працаваў вядомы рэжысёр Сяргей Лазніца (ураджэнец Баранавіч), выканаўца галоўнай ролі — наш акцёр, выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Свірскі. На фестывалі ўжо традыцыйна прадстаўлены Нацыянальны павільён Беларусі, арганізаваны Міністэрствам культуры краіны і кінастудыяй "Беларусьфільм". Гэты павільён дае магчымасць не толькі паказаць набыткі нашага кінематографа, але і пашырыць замежныя творчыя кантакты айчынных спецыялістаў экраннага мастацтва.

Прэм'еру камедыі становішчаў "Аднакласнікі" паказаў Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача. Напісаў і паставіў п'есу Юрый Кулік, мастак — Дар'я Волкава. Смешная гісторыя з любоўнай здрадай і каханнем з першага позірку адрасуецца тым, каму "пасля 16".

Сярод самых адметных вясновых праектаў сталічнай галерэі "Універсітэт культуры" — выстаўка твораў кітайскага мастака Сяо Юя. Пяцідзесяцігадовы майстар прадставіў свае лепшыя работы, выкананыя тушшу і мінеральнымі фарбамі на адмысловай паперы ў традыцыйнай тэхніцы гохуа. Метафарычная вытанчанасць яго пейзажаў (шань-шуй) ды вясновых матываў у жанры "кветкі-птушкі"



*Сяо Юй "Без назвы" (папера, кітайская акварэль, 2011 — 2012).*

(хуаняо), віртуозныя выявы найважнейшага сімвала старажытнай культуры — лотаса нібы запрашаюць гледача да маўклівага філасофскага дыялогу. Загадкавая дасканаласць карцін Сяо Юя, напоўненых мудрай усходняй вобразнасцю, падкрэсліваецца густоўным афармленнем паспарту з выкарыстаннем шоўку, што стварае далікатнае светлаказнае атачэнне для графічнага малюнка. Сяо Юй два гады таму стаў лаўрэатам прэміі "Лепшыя дасягненні ў кітайскай культуры і мастацтве". Сваю мінскую выстаўку, названую "Прадчуванне вясны", ён прымеркаваў да 20-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Кітайскай Народнай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь.

Гастролі Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" прайшлі ў Чэхіі. Нашы артысты паказалі спектакль "Сродак Макропуласа" паводле класіка чэшскай літаратуры К. Чапека ў рэжысуры Таццяны Траяновіч. Плануецца візіт у Чэхію ўжо на новы сезон — са спектаклем "№ 13" паводле п'есы англічаніна Р. Куні.

**Прапануем увазе чытача працяг тэатральных нататак Фрыдрыха Модаля, першыя два раздзелы якіх надрукаваныя ў нумарах за 27 красавіка і 11 мая.**

**Аддзел мастацтваў «ЛіМа»**

# Сучасная казка

## Дыялог з іншапланецянамі

Фрыдрых МОДАЛЬ

Жыццё склалася такім чынам, што я гадаваўся і потым працаваў у асяродку настаўніцкай і мастацкай інтэлігенцыі ў вялікім мегаполісе. Адсюль і пэўныя асаблівасці светапогляду. У Мінску гэта звычайная з'ява.

Але сталася так, што нейкі час мне давялося папраўляць здароўе ў адным пакоі з тымі людзьмі, якія не хлусяць і шмат працуюць на роднай зямлі, вырабляючы хлеб, малако і сала… Яны ганарыліся тым, што жывуць і робяць у вёсках рукамі сваімі безліч самых патрэбных спраў. Яны размаўлялі на трасянцы і не саромеліся безліч разоў ужываць "Я", не прасілі прабачэння за ненарматыўную лексіку. У іх былі хворыя рукі і мужныя твары. І на дзіва мяккія спагадлівыя сэрцы. Мужыкі бясконца распавядалі пра вясковую працу, спажывецкія якасці рапсу, працавітасць трактароў "Беларус" і айчынных камбайнаў. З жаноцкай руплівасцю дапамагалі адзін аднаму і даглядалі мяне, як малое дзіцё.

— Мікола, — спытаў я ў суседа. — Ты ў тэатры бываў?

Той, напэўна, палічыў мяне за іншапланецяніна. Іншыя суседзі, сярод якіх быў нават намеснік дырэктара буйной гаспадаркі Алесь, дакладна патлумачылі мне, мінчуку недасведчанаму, пра свой лёс і працу. Яны жылі на іншай планеце — планеце Зямля. Мне, безумоўна, даводзілася чытаць айчынную мастацкую літаратуру. Але ў палаце 718 я прайшоў акадэмію: для мяне большасць атрыманай інфармацыі была адкрыццём. Падалося, што мы і сапраўды жывём на розных планетах, на жаль.

— Я вучыцца не хацеў. Любіў працаваць. Настаўніца мне казала, што у мяне ёсць здольнасці, я на слых хутка запамінаў урок, калі на яго прыходзіў. Школу механізатараў скончыў з самым вышэйшым разрадам. Трактары і камбайны ведаю лепей за галоўнага інжынера.

Мой суразмоўца насамрэч, як высветлілася, ведаў шмат рознага. Ён быццам бы выхопліваў з жыцця тое, што патрэбна менавіта яму: прыводзіў цытаты з твораў Аркадзя Гайдара, чытаў "А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе…", валодаў моцным голасам і любіў спяваць у кабіне камбайна і па святах. І калі я прачытаў яму трыялет Максіма Багдановіча, Мікола ўважліва выслухаў радок "Ды ўсё ж душа яе пачула…" і адразу зразумеў, што менавіта душа адгукаецца на думку.

Ад яго я даведаўся, як на вёсцы шануюць народныя традыцыйныя святы: Пасху, Вялікдзень, Сёмуху… З гонарам апавядаў мой сусед, як за выдатныя працоўныя дасягненні яго ды іншых ўзнагароджвалі. На жаль, ні прафесійных артыстаў не прывозілі на святы, ні ў горад паглядзець сапраўдны тэатр не выпраўлялі.

— А калі б на свята ці так прыехалі артысты ці кіраўнікі вашы запрасілі б наведаць сапраўдны тэатр, ты адмовіўся б?

— Мусіць, не… Але і начальства таксама па тэатрах не шастала: трэба было працаваць.

Словы яго пацвердзіў Алесь:

— Я з пяці гадзін раніцы пачынаў свой тэатр, пакуль усе дзіркі не агледзіш… Амаль ноччу прыцягваўся дахаты… Такое вось сапраўднае жыццё… Цяпер адпачываю.

Мікола са шкадаваннем распавёў, што раней па вуліцах вёсак гуляла моладзь і спявала, танчыла… Апошнім часам навокал робіцца ўсё цішэй. Звычка спяваць песні для ўсіх, хто пачуе, чамусьці адыходзіць: "Мо ў тэатр пабеглі?"

Для мяне гэта быў накаўт.

Найвыдатнейшыя майстры сцэны, якія сапраўды патрэбныя людзям, бывае, невядомыя патэнцыяльнаму гледачу.

На прэм'ерах адзін і той жа бамонд. Гэты глядач смяецца, пяе і спачувае разам з героямі спектакля… Але ён робіць усё гэта з фантомамі, а не з жывымі людзьмі. І яшчэ невядома, ці ён сам можа або ці мае намер і магчымасці рэальна ўключыцца ў радасці, турботы і драмы жыцця, што цячэ побач і зараз. У час, калі граф Люксембургскі прыгожа ўзнімае на катурны свае тэатральныя жарсці, побач пакутуе нехта, каго абразіла адукаваная дзяўчына, якая разважае ў антракце пра памылкі і недахопы пастановачнай канцэпцыі, пра тое, "дацягнуў" ці "не дацягнуў" артыст… У гэты час абавязкова некаму патрэбная дапамога, водгук сэрца. Глядач у ролі "чалавека з наваколля" можа і адгукнуцца, можа і абысці праблему на цацкіх лапках. І знайсці сабе апраўданне. Гэта залежыць і ад таго, пачула душа голас мастацтва ці не. Такое — звычайнае жыццё. І ведаць яго можна. Не пашкодзіць.

# Пра ластаўчына гняздо

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва

**На паўднёвым узбярэжжы Крыма ёсць прынадны для турыстаў аб'ект: мураваны псеўдагатычны замак над морам, што прыляпіўся да скалы, нібы ластаўчына гняздо. Помнікам архітэктуры ён не з'яўляецца, але каштоўны як ландшафтная адметнасць, на фоне якой ахвотна фатаграфуюцца экскурсанты. Чарнаморскаму замку "Ластаўчына гняздо" пашанцавала быць заўсёды ў цэнтры ўвагі. Яго не абмінаюць іншаземныя госці, пра яго дбаюць "гаспадары жыцця", ім апякуюцца рэстаўратары. А вось нашаму "ластаўчынаму гнязду", што за паўсотні кіламетраў ад беларускай сталіцы, пашанцавала менш, хаця паводле сутнасці сваёй гэта каштоўны гістарычны аб'ект сусветнай мастацкай культуры.**

**Да "ластаўчынага гнязда"** ля берагоў Волмы выправіліся мы ў суправаджэнні экскурсавода Чэрвенскага раённага краязнаўчага музея Ірыны Вабішчэвіч. Аўтобус шнураваў па шашы, а мы слухалі розныя цікавыя гісторыі. Пра тое, як падзяліўся стары Ігуменскі тракт паміж цяперашнімі вуліцамі Маякоўскага, Чыжэўскіх ды Магілёўкай. Пра тое, адкуль паходзіць назва горада Ігумена, з дня першай дакументальнай згадкі пра які (27 красавіка 1387 г.) надаўна мінула 625 гадоў. Пра неверагодную абачлівасць тутэйшых самавітых пчаляроў, якіх палохаў наступ цывілізацыі, таму, каб "адвесці шкоду" ад бортніцкай гаспадаркі, яны хітрасцю дамагліся пераносу будаўніцтва чыгункі ў абход — праз Пухавічы. Пра перайменаванне Ігумена ў часы барацьбы з "рэлігійнымі забабонамі" ды з назвамі, што супярэчылі духу новага жыцця. У гонар 9 ліпеня 1920 г. (дня вызвалення мястэчка ад чужынцаў) яго хацелі перайменаваць у Ліпень, ды аказалася, што такую назву ўжо "аддалі" вёсцы Халуі. Тады ўспомнілі пра розніцу між старым ды новым летазлічэннем і назвалі горад Чэрвенем. У гады станаўлення суверэннай Рэспублікі Беларусь была сур'ёзная спроба праз галасаванне грамадзян вярнуць спаконвечнае імя: Ігумен. Энтузіязму "запярэчылі" лічбы — велізарных фінансавых выдаткаў вымагала замена назвы. Аднак патрыёты ігуменскага краю спадзяюцца, што рост дастатку ў краіне



*Дзіцячы партрэт Станіслава Манюшкі, намаляваны бацькам кампазітара.*

паспрыяе ўрэшце аднаўленню гістарычнай справядлівасці.

Не заязджаючы ў Смілавічы, мы дзякуючы сваёй дасведчанай спадарожніцы здзейснілі экскурс у гісторыю гэтага паселішча, гаспадарамі якога ў розны час былі Радзівілы, Манюшкі, Ваньковічы і дзе яшчэ можна аднавіць прыгожы шляхецкі замак. Слынныя прозвішчы! Аднак не з імі звязана цікавасць турыстаў. У Смілавічах нарадзіўся яшчэ адзін сусветна знакаміты наш зямляк: мастак Хаім Суцін, які чамусьці не згадваў пра сваю малую радзіму. Пры фінансавай падтрымцы ЮНЕСКА тут створаны адзіны ў свеце яго музей, які займае два пакоі ў будынку Цэнтра дзіцячай творчасці. Экспазіцыя аформлена шыкоўна, у чаканні гасцей (нярэдка замежных) дзяжураць высокакваліфікаваныя гіды. Адна зала зроблена ў стылі парыжскага кафэ "Ратонда" часоў Суціна, тут можна пасмакаваць адмыслова прыгатаваную каву...

**Мы абмінулі Смілавічы,** бо накіроўваліся ў іншы музей — таксама адзіны ў свеце і звязаны з імем знакамітага земляка, выдатнага кампазітара, музыканта-педагога, дырыжора і асветніка, узгадаванага на беларускім песенным, інструментальным і паэтычным фальклоры, — класіка беларускай і польскай музыкі Станіслава Манюшкі. Яго імя нават нададзена Інстытуту славянскай культуры ў сталіцы Японіі.

Музей С. Манюшкі ствараў у школе пасёлка Азёрны Васіль Несцяровіч — настаўнік-патрыёт, краязнаўца і асветнік ласкаю Божай. З таго часу, калі давялося тут пабываць, мінула больш як 20 гадоў. Помніца, тады экскурсію для мінскіх гасцей праводзіла яго зусім яшчэ маладзенькая дачка — Ірына Серада. Сёння яна, дырэктар установы, што цяпер з'яўляецца філіялам Чэрвенскага раённага краязнаўчага музея, таксама сустракае гасцей, паказвае ўнікальную экспазіцыю, дзеліцца сваімі энцыклапедычнымі ведамі пра жыццё і творчасць С. Манюшкі, у душы і ў музыцы якога Беларусь пакінула яскравы след, што



*У экспазіцыі музея — сцэнічныя касцюмы з пастановак Манюшкавых опер.*



*Прапагандыст музыкі С. Манюшкі — заслужаны артыст, лаўрэат Дзяржаўных прэмій Беларусі Віктар Скарабагатаў.*

прызнаюць і польскія даследчыкі.

Фармальна музей можна лічыць паспяховым. На працягу года сюды наведваюцца экскурсійныя групы, колькасць якіх заўважна павялічваецца ўлетку, калі ажывае прылеглая зона адпачынку. Але будынак школы, якую мусілі зачыніць з-за яе малакамплектнасці, купіў багаты расіянін — праўда, з умовай, што пакладзіцца пра размешчаны тут музей. Ды новы гаспадар плануе перарабіць набытую камяніцу пад камфартабельны дом для аматараў адпачываць на рыбных азёрах, сярод шчодрага лесу. Дом з канцэртнай залай. Добра, калі будуць ладзіцца ў ёй камерныя музычныя вечары, праграмы з удзелам лаўрэатаў конкурсу "Убельская ластаўка", загучаць у жывым выкананні творы Манюшкі, а то і пастаноўкі яго аднаактовых опер... А калі да музея прысуседзіцца дыскатэка? І які лёс той памятнай мясціны, што зусім непадалёк ад музея, — лапіка зямлі, дзе яшчэ да пачатку Вялікай Айчыннай вайны стаяла колішняя радзінная сядзіба Манюшкаў — Убель? Усе яе пабудовы знішчыла артылерыя. Але на ўзгорку ў засені дрэў яшчэ можна "прачытаць" абрысы падмурка гаспадарскага дома. Сёння гэтая тэрыторыя належыць транспартнаму прадпрыемству; наўкруг — высокая глухая агароджа, і чалавек староннi нават не здагадаецца, што за ёю знаходзіцца памятная стэла, якая пазначае месца былой сядзібы...

Раней агароджы не было. Дэлегацыі дзеячаў культуры з розных краін, экскурсанты неслі сюды кветкі — са спадзевам, што праз нейкі час тут зноў паўстане сядзіба Убель, зусім такая, як на малюнку Напалеона Орды, і адкрыецца дом-музей, і ў летні час з яго вокнаў будзе гучаць музыка, і яе пачуюць нашчадкі той легендарнай убельскай ластаўкі, што некалі прадказала яскравы творчы лёс таленавітаму немаўляці, майструючы гняздо над яго калыскай...

Усё ж мы патрапілі да сцэлы і моўчкі ўсклалі кветкі.

# Хто адновіць традыцыі?

Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ

**Полацк мае старажытную тэатральную гісторыю. Пачынаючы з XVI стагоддзя ў гэтым слынным горадзе пры Іезуіцкім калегіуме дзейнічаў школьны тэатр (як мяркуюць даследчыкі — да 1819 г.), а таксама тэатр пры Галоўным народным Полацкім вучылішчы (1789 — 1792 гг.).**





*На здымках: — артысты тэатра "Пілігрым" Полацкага гарадскога палаца культуры ў спектаклі "Дзядзечкаў сон".*

**Школьныя тэатры** на тэрыторыі Беларусі былі часткай культуры эпохі барока. Як адзначаў Гурый Барышаў, разглядаючы дзейнасць тэатраў на нашых землях у XVI — XVII стагоддзях, Полацку "была наканавана роля інтэлектуальнага цэнтра: у межах Рэчы Паспалітай школьныя тэатры былі роўныя і адрозніваліся толькі працягласцю свайго існавання і тэхнічнымі магчымасцямі". Вывучаючы нешматлікія эскізы і накіды пастановак тэатраў таго часу, пераконваешся, што ў Полацкім школьным тэатры вялікая ўвага надавалася сцэнаграфіі. Пабудова сцэны была прадумана да дробязей. Відавочна, што вельмі важным было раскрэсліванне яе на шахматныя квадраты. Гэта давала магчымасць адводзіць канкрэтнае месца для хору і дакладна выстройваць балет і яго перамяшчэнні па пляцоўцы.

Самым распаўсюджаным для афармлення сцэнічнай прасторы школьнага тэатра быў павільён, на кожным з бакоў якога былі намаляваныя розныя месцы дзеяння: ці то ўтульны пакой, ці то плошча перад старажытным замкам. Актыўна выкарыстоўваліся жывапісныя палотны, якія былі рухомыя: на іх размяшчаліся выявы архітэктурных пабудоў і паўставалі дзівосныя прыўкрасныя краявіды. У апошняй чвэрці XVIII стагоддзя на сцэне школьнага тэатра з'яўляюцца дэкарацыі усіх тыпаў: кулісныя, аб'ёмна-жывапісныя і аб'ёмна-фактурныя. Абавязковым атрыбутам школьнай сцэны быў люк-праваль, які, у асноўным, размяшчаўся пасярод сцэны. Адтуль з'яўляліся страшныя пачвары, размаляваныя д'яблы, каб забраць з сабой грэшнікаў ды знікнуць. Не менш цікавым і неабходным складнікам школьнага тэатра быў "вал". Ён размяшчаўся ў верхняй частцы машынерыі і служыў для таго, каб паводле дзеяння праведнікі ўзносіліся на нябёсы. Сцэна школьнага тэатра распрацавала і ўпарадкаваную сістэму асвятлення, якое складалася з трох тыпаў: адно было агульнае і асвятляла ўсю пляцоўку, другое — дэкаратыўнае, што стваралася пры дапамозе разнастайных выразных жырандоляў, і, нарэшце, — эфектнае, якое ўтварала цені і падсветку твараў пры дапамозе жырандоляў-свечак і сафітаў.

Спецыяльныя касцюмы для школьнай сцэны не канструяваліся і не шыліся. Галоўная ўвага пры апрананні персанажаў надавалася атрыбутам, зброі, побытавым прадметам, з якімі героі выходзілі на сцэну і карысталіся імі ў тых ці іншых карцінах пастановак. Тым не менш асобныя дэталі касцюмаў мусілі захоўвацца: парыкі, камзолы, кафтаны, спадніца-тонеле. Усё гэта давала магчымасць прадстаўляць вобразы і падзяляла адзенне для ігры ў бытавых камедыях і ў рымскіх трагедыях. Дарэчы, усе названыя дэталі сцэнічнага касцюма перайшлі і ў сучасны тэатр і, напэўна, так і будуць пераходзіць са стагоддзя ў стагоддзе.

**На школьнай сцэне** Полацкага тэатра ішлі спектаклі самых розных жанраў: пасійныя, масленічныя, канікулярныя драмы, панегірыкі — жанры запазычаныя са школьнага заходнееўрапейскага тэатра. Пазней з'явяццапольска-беларускія камедыі, якіх не ведала ранейшая тэатральная культура Вялікага Княства Літоўскага. Паступова тэатр, на сцэне якога выкарыстоўваліся толькі музычныя інструменты (адзначу, што ў асобных выпадках яны былі проста аздобай), запаўняецца музыкай і такім чынам набывае эмацыянальнае гучанне. Пастаноўкі дапаўняюцца хорам, і відовішчы такога кшталту набываюць назву — "оперы". У гісторыі тэатра ёсць яркі прыклад спектакля-оперы: "Язон з Калхіды". На некаторых іншых школьных сцэнах ужывалася назва "Трыумф Язона з Калхіды". Спектакль быў адметны і па выкарыстанні тэхнічных сродкаў. З нябёсаў пад гукі труб і літаўраў, пад спевы хору з'яўлялася чароўная Палада. Яна ва ўласным сольным нумары ўслаўляла геній Язона, які ўзыходзіў на карабель і пачынаў сваё падарожжа. Арыі-дыфірамбы нязменна суправаджалі героя на працягу ўсяго спектакля. Яны выконваліся таксама і ў гонар магната ці прадстаўніка знатнага шляхетнага роду, калі спектакль замаўляўся такім чалавекам і паказваўся ў яго маёнтку.

Відовішчным складнікам спектакля школьнай сцэны паступова становіўся балет. У асобных спектаклях гэта быў хорбалет, таму што ў такіх паказах танцоўшчыкі былі адначасова і вакалістамі. У сярэдзіне XVIII стагоддзя харэаграфія робіцца настолькі моцнай, што пачынае існаваць як асноўны складнік спектакля і ёй надаецца галоўнае значэнне. Пачынаюць з'яўляцца і сольныя балетныя партыі.

Некалькі фактаў — і ўжо відавочна, што школьны тэатр Полацка быў у нашай айчыннай тэатральнай культуры сапраўдны з'явай. Ён, нібы яркая стужка, звязваў пачатковыя тэатр сярэднявечча з тэатрам эпохі барока. І на апошніх прыступках свайго развіцця ён усё больш імкнуўся да строгіх законаў класіцызму.

**Як жа шкада,** што амаль да трыццатых гадоў мінулага стагоддзя гісторыя беларускага тэатра не мае звестак пра існаванне тэатральных калектываў на тэрыторыі Полацка. Зафіксавана дзейнасць Полацкага калгасна-саўгаснага тэатра з красавіка 1936 года па чэрвень 1941-га. Яго трупа складалася з былых акцёраў-аматараў Полацкага тэатра рабочай моладзі. Дзейнасць гэтага калектыву адыгрывала вялікую ролю ў культурным жыцці Палаччыны. Тэатр выступаў з канцэртамі, гастраляваў па Віцебскай вобласці. Яго пастаноўкі — "Хто смяецца апошнім" К. Крапівы, "Любоў Яравая" К. Транёва, "Шасцёра закаханых" і "Таня" А. Арбузава, "Беспасажніца" А. Астроўскага ды іншыя паказваліся ў Верхнядзвінску, Асвеі, Ветрыне, Расонах, іншых гарадах і вёсках. Такім чынам адбывалася масавае знаёмства з мастацтвам тэатра. У пасляваенны час (1948 год) быў створаны Полацкі народны тэатр гарадскога Дома культуры. Рэпертуар складалі сучасныя п'есы, нацыянальная і замежная класіка. На яго сцэне ў розны час ішлі "Прымакі" Янкі Купалы, "Мікітаў лапаць" М. Чарота, "Выбачайце, калі ласка!" А. Макаёнка, "Не верце цішыні" паводле І. Шамякіна, "Позняе каханне" А. Астроўскага, "Ягор Булычоў і іншыя" М. Горкага, "Машачка" А. Афінагенава і шэраг іншых вядомых твораў.

У сучасным горадзе ўжо шмат сезонаў пачынаючы з 1975 года працуе народны тэатр "Пілігрым" Полацкага гарадскога Палаца культуры. Яго арганізатар — В. Нагорны. Праз чатыры гады дзейнасці калектыву надалі званне народнага. Рэпертуар яго вызначаецца разнастайнасцю жанраў, уключае нацыянальную, рускую і замежную класіку, сучасную драматургію: "Вішнёвы сад" А. Чэхава, "Мандат" і "Самазабойца" М. Эрдмана, "Манумент" Л. Андрэева, "Да трэціх пеўняў" В. Шукшына — творы, вартыя і прафесійнай сцэны!

Нельга недаацэньваць ролю тэатра ў культурным жыцці сучаснага Полацка, у падтрымцы творчай атмасферы сярод моладзі, у задавальненні яе імкнення да тэатральнага мастацтва, да вывучэння класікі, адкрыцця новай драматургіі. Полацкая зямля багатая на таленты, мае слынную гісторыю тэатральнай культуры, якая зарадзілася тут многія стагоддзі таму. І застаецца невытлумачальна дзіўнай тая сітуацыя, што менавіта ў Полацку да нашых дзён не створаны прафесійны тэатр, хаця для гэтага ёсць усе падставы.

***Ад рэдакцыі***

*Тэатр "Пілігрым" Полацкага гарадскога палаца культуры выступаў летась у Мінску. Гэты заслужаны аматарскі калектыў Беларусі пад кіраўніцтвам рэжысёра Веры Кісялёвай адкрываў выніковую імпрэзу "Полацк — культурная сталіца краіны 2010". Артысты прадставілі на сцэне тэатра-студыі імя Е. Міровіча Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў спектакль "Дзядзечкаў сон" паводле Ф. Дастаеўскага.*

**Аддзел мастацтваў "ЛіМа".**

# Людзі прыдумалі зорку...

**Святлана ДАШКЕВІЧ, кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі НАДТ імя Якуба Коласа**

Яна пачала спяваць раней, чым хадзіць. Марыла стаць артысткай, таму адмовіла каханаму, калі той прапанаваў выйсці за яго замуж. Скончыла Гродзенскае вучылішча мастацтваў. Яе прынялі ў Коласаўскі тэатр на ролю Настачкі з легендарнай камедыі "Несцерка", але "Дарога з чорнага царства" прывяла ў "Стары дом", дзе "Жыла-была Сыраежка". Гэты акцёрскі жарт можна было б працягваць, прыгадаўшы ўсе 70 спектакляў, у якіх артыстка Святлана Жукоўская сыграла вельмі розныя ролі. Потым, разам з сяброўкай Раісай Грыбовіч, накіравалася ў Маскву. Абедзве паступілі ў знакаміты ГІТІС, на курс Эліны Быстрыцкай. Скончыўшы, вярнулiся ў "свой" тэатр, бо менавіта тут адчулі калісьці шчырую любоў і павагу з боку знакамітых коласаўцаў.

"На лёс не скарджуся! — не задумваючыся, гаворыць Святлана. — Бо тут, у сям'і коласаўскіх артыстаў, вучуся жыццю." Але яна ніколі не дазваляла сабе адпачываць. Не хапала роляў у тэатры — займалася спевамі. Невыпадкова ж у творчай скарбонцы артысткі дыпломы рэспубліканскіх фестываляў "Музыка і тэатр", "Спяваюць артысты тэатра і кіно" і перамога ў фестывалі-конкурсе "Спяваюць артысты драматычных тэатраў і кіно".

Настачку яна ўсё ж сыграла, праўда, амаль праз 10 год. Да гэтага часу назапасіла ў рэпертуары ролі не толькі дзяўчынак, а і жанчын рознага ўзросту. Зорная роля Катарыны ва "Утаймаванні наравістай", Разаліна ў трагікамедыі "Чума на вашы абедзве сям'і", Цэйтл у "Памінальнай малітве", Памэла ў камедыі "Ён. Яна. Акно. Нябожчык.", Аграфена Кандрацьеўна ў "Банкруце"... Любіць Святлана Жукоўская і сваіх няўдачлівых герaінь з сучасных камедый "Варвара і яе блудны муж" (Варвара), "Псіхааналітык для псіхааналітыка" (Вера Андрэеўна), "Аднакласнікі" (Таццяна). А вобраз Маці ў "Дацкай гісторыі" створаны праз уласны досвед Святланы, якая разам з мужам, артыстам Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Георгіем Лойкам, выхавала цудоўнага сына Мікіту. Ён цяпер вучыцца ў Мінску — будзе праграмістам.

Сёння, 25 мая, Святлана Жукоўская запрашае сяброў на свой юбілейны вечар, прымеркаваны да 30-годдзя яе творчай дзейнасці на Коласаўскай сцэне. Гэтай вясной у Міжнародны дзень тэатра старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дудараў уручыў ёй "Крыштальную зорку" — прыз надзеі. Надзеі на тое, што абавязкова спраўдзяцца самыя запаветныя мары ў творчасці.

На юбілейным вечары прагучыць маналог актрысы: "Усе думаюць, што я моцная, а я



слабая... Кожны справіцца са мной. А людзі прыдумалі сабе зорку, кабназіраць, як яна зіхаціць з апошніх сіл і гасне. Бо гэта для іх забава. Гульня з промнем святла... Мы — артысты. Што нас яднае? Нас яднае любоў да ТЭАТРА..." Так і хочацца ўдакладніць: да тэатра імя Якуба Коласа.

# Скарына вяртаецца

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Сярод ураджэнцаў Полацка, якія праславілі свой родны горад на ўвесь свет, адным з самых славутых з'яўляецца Францыск Скарына. Як адбываецца вывучэнне яго спадчыны ў межах Дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2011 — 2015 гады? Калі айчынныя чытачы змогуць пазнаёміцца з усімі выданнямі нашага першадрукара? Пра гэта чытачам расказвае Галіна Кірэева, загадчык навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**

— Як вядома, у жніўні 2017 года спаўняецца 500 гадоў з часу з'яўлення першай беларускай кнігі "Псалтыр", якую выдаў Ф. Скарына. Гэты юбілей як падзею сусветнага маштабу планецца адзначаць пры падтрымцы ЮНЕСКА. Між тым сітуацыя са спадчынай Скарыны, дакладней, тым, як яна прадстаўлена ў Беларусі, — далёкая ад ідэальнай. У наш час выяўлена каля 340 друкаваных экзэмпляраў і рукапісных спіскаў з кніг нашага першадрукара, якія знаходзяцца за межамі краіны: у бібліятэках і музеях Вялікабрытаніі, Германіі, Даніі, Літвы, Польшчы, Славеніі, Расіі і Украіны. У Беларусі толькі 12 (!) друкаваных і рукапісных спіскаў кніг, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Неабходнасць іх прысутнасці ў беларускай прасторы відавочная. Калі не непасрэдна, дык у электронным варыянце ці ў выглядзе факсіміле. Менавіта таму ў 2011 годзе супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі распрацавалі праект праграмы, разлічанай на 2011 — 2017 гады. Яе мэтай з'яўлялася стварэнне навуковай электроннай бібліятэкі, якая адлюстроўвала б усю спадчыну Скарыны, і далейшае факсімільнае выданне яго кніг. Гэта праграма стала асновай дваццаць пятага пункта Дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2011 — 2015 гады, якая прадугледжвала "Стварэнне электроннай бібліятэкі «Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар»".

У межах праграмы, каардынатарам якой выступае Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, вылучаюцца тры этапы. Першы з іх (2011) прадугледжваў падрыхтоўку плана па рэалізацыі праграмы, апісанне і характарыстыку асноўных бібліяграфічных прац, выяўленне апублікаваных тэкстаў. А таксама правядзенне перамоў з бібліятэкамі і музеямі Вялікабрытаніі, Германіі, Украіны, Даніі, Літвы і Расіі наконт правоў капіравання дакументаў.

У якасці прыкладу непасрэднай працы можна спыніцца на сітуацыі ў стасунках з Украінай. Пасля перамоў з Міністэрствам культуры і турызму Украіны навукоўцы прыйшлі да высновы: неабходна супрацоўнічаць з кожнай установай паасобку. Таму наладзілі кантакт з Адэскай нацыянальнай навуковай бібліятэкай імя Горкага, дзе захоўваюцца сем выданняў Скарыны; Харкаўскай дзяржаўнай навуковай бібліятэкай імя Караленкі, дзе маецца рукапісная копія, складзеная па выданні "Апостал"; Нацыянальнай бібліятэкай Украіны імя В. І. Вярнадскага, у фондах якой ёсць выданні скарынаўскай "Бібліі".

Наогул, у адносінах да кожнай краіны сітуацыя розная. Там, дзе атрымліваецца (напрыклад, ва Украіне), мы імкнёмся ажыццявіць раўназначны абмен: мяняем копію на копію. Дзе не атрымліваецца (напрыклад, у Расіі), спрабуем дамовіцца іншымі шляхамі. Гаворка хутчэй ідзе або пра платныя, або, калі паміж установамі заключаны дамовы па супрацоўніцтве, пра бясплатныя паслугі.

Асноўным элементам другога этапу (2011 — 2016) з'яўляецца стварэнне электроннай бібліятэкі. Яе мэта — інтэграваць электронныя версіі ўсіх выяўленых экзэмпляраў і рукапісных спіскаў XVI — XXI стагоддзяў, факсіміле і крытычныя выданні твораў Скарыны, даследчую і навукова-энцыклапедычную літаратуру пра яго (манаграфіі, артыкулы, даведнікі, бібліяграфія). Усе крыніцы павінны ўзнаўляцца з максімальнай паўнатой (асноўны тэкст, ілюстрацыйны шэраг, службовыя старонкі), з захаваннем арфаграфіі і пунктуацыі.

Сістэма будзе падтрымліваць гіпертэкставыя і гіпермедыйныя сувязі. Таму карыстальнікі электроннай бібліятэкі змогуць ажыццяўляць пошук, выкарыстоўваючы кірылічны або лацінскі алфавіт, камбінаваны пошук, сарціроўку яго вынікаў, экспарт інфармацыі.

Трэці, завяршальны этап (2016 — 2017), прадугледжвае факсімільнае выданне кніг Ф. Скарыны. Працу над праектам планецца завяршыць да юбілею выдання першай беларускай і ўсходнеславянскай кнігі, які будзе ўрачыста адзначацца ў Нацыянальнай бібліятэцы і ва ўсёй краіне, а таксама за яе межамі ў 2017 годзе. Калі ўсе пункты праграмы будуць рэалізаваныя, можна будзе з упэўненасцю сказаць, што Скарына цалкам вярнуўся ў беларускую культурную прастору.


Светого Иова
Поведаеть iако богать былъ светыи Иовъ • Иоудехъ его Иопировании ихъ Иıако дииаволъ з допущениıа божиıа погубилъ все имение его • Ичадıа его
Главıа
Человекъ некыи беше въ стране Оусенстидстеи именемъ Иовъ • И беше человекъ тои непороченъ и праведенъ • благочестивъ, и истиненъ • Боıаисıа бога и удалıаисıа от всıакого зла дела •

*Старонка з "Кнігі Іова", выдадзенай Францыскам Скарынам.*

Іосіф Рогаль

## Голас Еўфрасінні

*У адвечным Полацку храм Сафійскі ёсць:*
*Кожны, хто тут моліцца, ці жыхар, ці госць,*
*З паднябесся сіняга ў музыцы званоў*
*Еўфрасінні Полацкай голас чуе зноў.*

*Бы паходня зыркая, ён каторы век*
*Літасцю анёльскаю з цемрадзі заве.*
*Бо Гасподній ласкаю, як вясне ралля,*
*Нам вялікай спадчынай дадзена зямля.*

*Хай балоты вязкія, чараты, імхі,*
*Але тут пракладвае лёс твае шляхі.*
*Вось таму у дбайнасці ты шануй і знай,*
*Што ад неашчаднасці можа згінуць край.*

*Ды святая ўгодніца, молячы Хрыста,*
*Здолела нястомную нам аховай стаць.*
*І цяпер ёй творыца добры Божы цуд.*
*Еўфрасінні моліцца ўвесь Хрыстовы люд!*

# Крутая лесвіца пісьменства

**Падарожжа па Магілёўшчыне ўражвае штораз — незалежна ад таго, якімі дарогамі выпадае прайсці. Гэтым разам вандроўка палягала праз паўднёвую частку вобласці, на Быхаўшчыну. А менавіта — у некалькі населеных пунктаў, першым з якіх стала вёска Грудзінаўка, дзе захаваўся палацава-паркавы ансамбль XIX стагоддзя.**

Ірына ТУЛУПАВА

У звязе з напамінам мінулых гадоў і ствараецца сучасная гісторыя вёскі. Тут створаны новы від установы: бібліятэка-музей. Вопыт яе арганізацыі быў пад увагай удзельнікаў семінара "Бібліятэкі Магілёўшчыны ў інфармацыйна-культурным асяроддзі рэгіёна: стан, інавацыі, шляхі развіцця".

У полі зроку — вопыт працы бібліятэкі па захаванні і развіцці гістарычнай і культурнай спадчыны роднага краю: старажытная Быхаўская зямля мае шмат помнікаў духоўнай культуры, у тым ліку — прыгожага пісьменства.

Намеснік старшыні Быхаўскага райвыканкама Вадзім Рагавы паведаміў пра эканоміку і культуру краю, распавёў пра напрацоўкі ў гуманітарнай сферы.

Як адзначыла начальнік аддзела культуры райвыканкама Святлана Міхалькова, Быхаўскі раён — адзін з самых вялікіх у Магілёўскай вобласці. Тут працуюць 33 бібліятэкі, 31 установа клубнага тыпу, 3 школы мастацтваў, раённы краязнаўчы музей. Менавіта існаванне некалькіх кірункаў дзейнасці дазваляе гаварыць пра адмысловы цэнтр культуры і вольнага часу. Вось у такім цэнтры і размясцілася Грудзінаўская бібліятэка-музей.

Сёлета бібліятэка атрымлівае 20 перыядычных выданняў — для сельскай мясцовасці гэта выдатна! Але самае каштоўнае з вопыту — менавіта тое, што бібліятэка — адначасова і музей. Вялікую яго залу займаюць артэфакты. І бібліятэкар замаўляе дадатковыя плошчы — бо ўсіх экспанатаў у адным, няхай і асобным, пакоі не змясціць, шмат што знаходзіцца ў фондах.

Перадумовы стварэння бібліятэкі-музея пазначыліся ці не 20 гадоў таму. Тады ўжо існавалі этнаграфічныя куткі, дзе прадстаўляліся прасніка, прас, беларускія лялькі і лялькі народаў свету — усё гэта выкарыстоўвалася пры правядзенні экскурсій. Сярод асноўных мэт абавязкова поруч з выхаваннем павагі да свайго краю назавуць і выхаванне беражлівых адносін да кнігі. Тут ёсць клуб "Спадчына" і яго добрая традыцыя — запрашаць на пасяджэнні народных умельцаў: па саломапляценні, вышыўцы, вязанні, бісерапляценні. Праходзяць урокі радзімазнаўства, гадзіны Бацькаўшчыны. "У час адраджэння беларускай гісторыі ўзмацнілася цікавасць і да малой радзімы", — гаворыць бібліятэкар. Школьнікі папрасіліся быць вядучымі ў клубе "Спадчына". І выхавалася ўжо не адно пакаленне падрыхтаваных экскурсаводаў. Унікальны экспанат, які кідаецца ў вочы, створаны з запалак… Гэта макет "Грудзінаўка ў XIX ст.". Падарыў яго бібліятэцы наведвальнік, майстра Алег Кузьмін. Макет адлюстроўвае асаблівасці архітэктуры гэтага краю: калісьці ў вёсцы была царква з чатырма ўваходамі.

У цэнтры музейнага пакоя — круглы стол з самым сапраўдным самаварам. Сесці за стол і паслухаць, папіваючы гарбату, як жылі аднавяскоўцы, — мара тутэйшай дзятвы. Фарміраваць пакой дапамагалі супрацоўнікі краязнаўчага музея. Тут размясцілі розныя старадаўнія рэчы, якія выкарыстоўваліся ў побыце продкаў, вырабы сучасных майстроў: тканыя ручнікі, вышываныя карціны. Дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі Ілона Сарокіна звярнула ўвагу на тое, як арганізавана праца ў бібліятэцы не толькі па збіранні артэфактаў, але і дэталёвым іх апісанні, што абавязкова ў музеі.

Яшчэ адно з самых прыгожых месцаў Быхаўшчыны — у баравым лесе, дзе вельмі лёгка дыхаецца і самая прыемная атмасфера для адпачынку і працы. Сцежка сярод баравін выводзіць да будынку 1954 года — бібліятэкі! Гадылёва — не аграгарадок, а селішча, якое ўваходзіць у праграму развіцця малых гарадоў. Бібліятэка знаходзіцца ў адным памяшканні з Домам культуры.

У Гадылёўскую сельскую бібліятэку ідуць як у храм. Нешта падобнае захавалася нават у архітэктуры памяшкання. У залу з кніжнымі паліцамі трэба ўзнімацца па крутой лесвіцы. З тысячы чалавек, якія жывуць у вёсцы, больш як палова — чытачы бібліятэкі. Сама гісторыя бібліятэкі цесна звязаная з гісторыяй мястэчка. У пачатку 1950-х гг. на месцы былых балот быў пабудаваны торфабрыкетны завод, тады адкрылі і прафсаюзную бібліятэку. І толькі ў 1980 годзе яе фонд перадалі ў Быхаўскую цэнтралізаваную бібліятэчную сістэму, кіраўніком якой цяпер — Наталля Корза. Тады ж зразумелі: абавязкова трэба пісаць гісторыю паселішча. Найперш бібліятэкар скрупулёзна запісвала ўспаміны жыхароў. Вынікам сталі краязнаўчыя альбомы: па гісторыі Гадылёва, торфапрадпрыемства, пра людзей працоўнай славы, знаных землякоў, якія жывуць за межамі раёна. Памочнікамі ў краязнаўчай працы з'яўляюцца члены клуба "Гадылёўскія краязнаўцы". Пры бібліятэцы ён працуе з 2002 года.



# Зямля пад белымі крыламі

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Алесь Белакоз, настаўнік беларускай мовы і літаратуры, аўтар "Самарослай методыкі", краязнаўца, стваральнік музея ў вёсцы Гудзевічы (Мастоўскі раён), распавядае, якое велізарнае значэнне мае для яго і для беларускага народа ў цэлым вывучэнне гісторыі і культуры роднага краю:**

— Краязнаўства — наш быт, наша мінулае. Людзі, якія не маюць мінулага, адпаведна і не маюць будучыні. Што ў такім разе будзе з народам? Ён згіне, знікне. Беларусам проста жыццёва неабходна вывучаць свае карані. Гэта дапаможа нам застацца жывымі. Мала гаварыць прыгожыя словы пра Радзіму, іх трэба пацвярджаць канкрэтнымі дзеяннямі.

У 1968 годзе ў Гудзевічах я адкрыў музей. Сотні людзей уклалі працу і сродкі ў яго стварэнне. Гэта Зоська Верас, Юлія Бібіла, Ларыса Геніюш, Уладзімір Вашко, Вера Белакоз, Мікалай Белакоз і яшчэ каля дзвюх тысяч вучняў, пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, артыстаў, вучоных. Сёння музей ужо мае статус дзяржаўнага. Экспанаты збіралі разам з вучнямі. Таксама мы наладзілі выпуск часопіса "Праменьчык" і некаторых школьных газет. У гэтых выданнях друкаваліся вершы вучняў Гудзевіцкай школы, былі тут і мясцовая тапаніміка, і фальклор, і перапіска з пісьменнікамі. Немалым дасягненнем нашай сумеснай працы лічу выпуск 19 нумароў "Праменьчыка". Напачатку яго аб'ём складаў каля 35 — 40 лістоў, а пазней — 200 — 300 і нават даходзіла да 800 лістоў! Часопіс меў шэсць раздзелаў: "Паэзія", "Лепшыя сачыненні", "Тапаніміка", "Этнаграфія", "Фальклор", "У дапамогу для экскурсій". Прыкра, што цяпер часопіс не выходзіць.

Адным з найважнейшых момантаў работы нашага музея была перапіска з вядомымі пісьменнікамі. А менавіта з тымі, каго хвалявала пытанне мовы, — з Уладзімірам Караткевічам, Піменам Панчанкам, Янкам Брылём, Фёдарам Янкоўскім і інш. Сёння супрацоўнікі музея займаюцца вывучэннем антрапанімікі, гісторыі вёсак, іх культуры, фальклору. Тут можна знайсці шмат матэрыялаў, прысвечаных гісторыі Гудзевічаў, ёсць зала народнай медыцыны. Трэба згадаць і этнаграфічную хатку XVIII ст. У музеі — 15 залаў, у яго фондах знаходзіцца каля 20 тысяч экспанатаў.

## Баль у Тызенгаўза

У Ноч музеяў Гродзенскі музей гісторыі рэлігіі запрасіў на баль у Тызенгаўза. Удзень тут прайшлі майстар-класы народных майстроў і выстаўка-продаж іх вырабаў у межах абласной дабрачыннай акцыі "Анёл у тваім сэрцы", канцэрт. А ў 21.00 пачаўся баль. У двухпавярховым каменным палацы, які ў свой час належаў гродзенскаму старасту Антонію Тызенгаўзу, арганізатары мерапрыемства паспрабавалі ўзнавіць атмасферу старадаўняга свята. Саеё майстэрства паказалі танцавальныя і музычныя калектывы, у тым ліку польскі нацыянальны ансамбль песні і танца "Лехіці", ансамбль старадаўняй музыкі пад кіраўніцтвам Наталлі Гарбуновай, салісты Гродзенскай гарадской капэлы. Гледачы ўбачылі спектакль хатняга тэатра "Мар'ямеліца" па матывах твораў Адама Міцкевіча "Свіцязь. Гісторыя затопленага горада". Як і ў часы Тызенгаўза, на балі танчылі мазурку, паланэз, вальс, гулялі ў фанты.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Адкрыцці Ночы музеяў

**У Ноч музеяў Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь прапанаваў сваім прыхільнікам адлічыць час на 200 год назад і перанесціся ў эпоху напалеонаўскіх войнаў. Адчуць чаргаванне імгненняў спакою і вялікіх бітваў, весялосці, смутку і расчаравання дапамагла выстаўка "Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска" і праграма "Эпохі мімалётныя імгненні", падчас якой можна было не толькі агледзець экспазіцыю ўстановы, але і ўзяць удзел у розных гульнях і забавах.**

**Раіса МАРЧУК,
фота Кастуся Дробава**

Адметнасць сёлетняй Ночы — увага да аўдыторыі розных узростаў. У праграме прадугледзелі гістарычныя гульні для дзяцей, рамантычныя забавы для моладзі і інтэлектуальны клуб для людзей сталых.

Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікала выстаўка "Экспануецца ўпершыню". Гэтая экспазіцыя — чацвёртая ў серыі выставак доўгатэрміновага праекта, рэалізацыя якога пачалася тры гады таму. Асноўная мэта — пазнаёміць шырокую грамадскасць з новымі паступленнямі, а таксама выказаць удзячнасць людзям і арганізацыям, якія падарылі альбо дапамаглі музею набыць прадметы высокай культурна-гістарычнай вартасці.

Прадстаўленыя экспанаты — лепшае з таго, чым узбагаціўся збор музея ў перыяд з мая 2011-га па май сёлетні. Даўно фонды гэтай установы не мелі такога шчыльнага шэрагу музейных прадметаў першакласнай якасці, сабраных на працягу аднаго года. Для экспазіцыі адабралі прадметы з калекцый дакументаў, выяўленчага мастацтва, старадрукаваных кніг, фотапомнікаў, нумізматыкі, археалогіі і інш. Сярод прадстаўленых экспанатаў — калекцыя язычніцкіх амулетаў і хрысціянскіх нацельных крыжоў беларускага паходжання X — XVII стст., якая сталася з'явай еўрапейскага маштабу ў музейным свеце, нумізматычны збор III ст. новай эры. Музей атрымаў у дар калекцыю мастака Яўгена Куліка, дзе назапасіліся творы народнага выўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прадметы побыту, гістарычныя і фотадакументы высокай вартасці. Цікай сенсацыяй можна назваць экспанаванне фотаздымкаў 1930-х гадоў, на якіх захаваліся фрагменты легендарнага Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні (калекцыя Я. Куліка). Калекцыя стадрукаваных кніг папоўнілася каштоўнымі экзэмплярамі — двума тамамі "Усеагульнай схаластычнай тэалогіі" ("Universa Theologia Scholastica") аўтарства Адама Танера (1572 — 1632), надрукаванымі ў 1626 годзе ў Інгальштаце. Фаліянты — высокі ўзор паліграфічнага майстэрства — належалі Казіміру Льву Сапегу (1609 — 1656), пэўны час знаходзіліся ў яго радавай рэзідэнцыі ў Ружанах.

Прастора выстаўкі нагадвае адкрытае захоўванне фондаў, што абумоўлена спецыфікай экспазіцыі. Звычайна папаўненне прадметамі збору музея адчувае толькі сама ўстанова, бо гэтая справа не бачна простаму наведвальніку. А прадстаўленая выстаўка дазваляе кожнаму "зазірнуць" у фондасховішча.



*Храмавая скульптура анёла. XVIII ст. (?) Беларусь. Калекцыя Я. Куліка. Дар Тамары Мінкевіч.*

*Да 200-годдзя вайны 1812 года*

# Напалеон у Бешанковічах

**12 чэрвеня 1812 года французскае войска без абвяшчэння вайны, фарсіраваўшы Нёман, увайшло ў межы Расійскай імперыі. Гэта адбылося каля мястэчка Коўна, дзе былі сканцэнтраваныя галоўныя сілы французаў. Напалеон ніколькі не сумняваўся ў поспеху свайго паходу.**

**Таццяна ГАНЧАРОВА,
фота аўтара**

Каб затрымаць наступ ворага на Смаленск і Маскву, галоўнакамандуючы рускім войскам Барклай дэ Толі выслаў насустрач французам па бешанковіцкай дарозе другі пяхотны корпус пад камандаваннем генерала Астэрмана-Талстога, якому былі падпарадкаваны чатыры кавалерыйскія палкі. Менавіта на тэрыторыі гэтага раёна адбылася адна з самых знакавых бітваў паміж рускімі і французамі. Пра яе не шмат згадваецца ў літаратуры. Толькі ў рамане Льва Талстога "Вайна і мір" ёсць некалькі частак, прысвечаных Астровенскай бітве, падчас якой рускія салдаты змаглі крыху стрымаць наступ ворага. Але гэтая бітва паказала, што ўжо тады французы былі досыць блізкія да паражэння. Яны прызнавалі мужнасць і адвагу рускіх салдат, якія два дні змагаліся з 20-тысячным напалеонаўскім войскам, даючы магчымасць першай заходняй арміі падцягнуцца да Віцебска і злучыцца з другой рускай арміяй, каб у далейшым даць годны адпор захопнікам.

Дарэчы, 10 ліпеня 1812 года карэта французскага імператара пад узмоцненай аховай адборнай напалеонаўскай гвардыі прыбыла ў ціхае і амаль бязлюднае мястэчка Бачэйкава. Для начлегу Напалеон абраў прыстойнае месца — новы палац мясцовага магната Цеханавецкага. На погляд вядомага беларускага даследчыка Адама Мальдзіса, гэта быў не Напалеон, а яго пасынак — экс-кароль Італіі Яўген Багарнэ, які вельмі здзівіўся, што ўсе слугі і мясцовыя жыхары разбегліся хто куды. Засталіся ў маёнтку толькі ўпраўляючы Лапіцкі, лёкай і хлопчык. Але яны не дагадзілі імператару прыгатаванай ежай і малалюдным прыёмам. Напалеон (Багарнэ?) са злым тварам хутка сеў у карэту і накіраваўся ў Бешанковічы, якія 11 ліпеня акупіравалі французы. Тут размясціўся вялікі напалеонаўскі гарнізон.



*Помнік у Астроўне пад назваю "Месца бою 1812 г.".*

Каля 10 гадзін раніцы корпус Яўгена Багарнэ пачаў пераправу праз Заходнюю Дзвіну па пантонным мосце. Конніца без перашкод фарсіравала раку, паколькі яна ў той год значна змялела з-за засухі. 12 ліпеня, у абед, у Бешанковічы прыбыў са сваім штабам і гвардзейскай аховай Напалеон. Ён спыніўся ў двухпавярховым каменным палацы графа Івана Храптовіча, дзе правёў дзве ночы. Усяго ў Бешанковічах імператар знаходзіўся тры дні. Увечар тут яшчэ пабалела французаў, са сваім войскам увайшоў у мястэчка і неапалітанскі кароль Іаахім Мюрат.

У Бешанковічах Напалеон не губляў часу. Хутка разабраўшыся ў сітуацыі, ён аддаў загад пераправіцца цераз Заходнюю Дзвіну і пачаць праследаванне корпуса Дохтурава, які па правым беразе рушыў да Віцебска. Туды ж з Бешанковіч Напалеон накіраваў і галоўныя сілы свайго войска, але па асноўнай дарозе, уздоўж левага берага ракі.

13 ліпеня Напалеон разам з Мюратам і Багарнэ аглядалі наваколле Бешанковіч, каб удакладніць сваю пазіцыю і далейшыя дзеянні. На гэта ім спатрэбілася каля дзвюх гадзін. Вярнуўшыся, імператар адправіў у Астроўна яшчэ і кавалерыю Мюрата. Менавіта тут адбылася вельмі важная бітва.

У Бешанковічах французы гаспадарылі да 20 кастрычніка 1812 года, пакуль граф Пётр Вітгенштэйн, вызваліўшы мястэчка Чашнікі, не накіраваў у Бешанковічы два пяхотныя палкі, чатыры эскадроны кавалерыі і сотню казакоў пад камандаваннем генерал-маёра Васіля Гарпе, каб яны занялі Віцебск. Па дарозе на Віцебск атрад Гарпе выбіў французаў з Бешанковіч, захапіўшы 100 палонных, партыкулярны абоз і частку аптэкі ворага. Амаль адначасова вызвалілі і маёнтак Бачэйкава.

У памяць пра бітву пад Астроўнам супрацоўнікі Бешанковіцкага гісторыка-краязнаўчага музея вырашылі правесці віктарыну, прысвечаную падзеям 1812 года, якія адбыліся на тэрыторыі роднага краю. Нельга забываць, што толькі ў Бешанковічах было забіта некалькі дзясяткаў мірных жыхароў, якія не паспелі схавацца ад французскіх салдат. За час вайны Бешанковічы і ўсе навакольныя вёскі былі разбураныя і разрабаваныя. Адыходзячы, французы спалілі ў мястэчку будынкі, разбурылі масты. Няпрошаным гасцям, якія палявалі на здабычу, білі жыхароў і выганялі іх з хат, давалі адпор. Прыклады праявы мужнасці жывуць у легендах і цяпер як напамін пра грозны і геройчны час.

Мэта віктарыны, прысвечанай 200-годдзю бітвы пад Астроўнам, — абудзіць пазнавальную дзейнасць моладзі, развіць творчае мысленне юнакоў і дзяўчат, сфарміраваць у іх гістарычную памяць, выхаваць павагу да гісторыі роднага краю і пачуццё гонару за сваё гістарычнае мінулае. Пераможцы, якія зоймуць першыя тры прызавыя месцы, будуць узнагароджаныя граматамі і памятнымі прызамі ад музея.

*Літаратурная Пухавіччына*

# Да самых зор, да светлых зор…

**Як нараджаюцца вершы? З якога такога электрычнага разраду выскокваюць радкі, працінаючы рыфмамі, вобразамі, параўнаннямі, самымі рознымі колерамі слова нашу свядомасць, наша сэрца?! Магчыма, сутворцам, памагатым паэта з'яўляецца і яго кніжны свет, досвед геніяльных папярэднікаў.**

**Мікола БЕРЛЕЖ**

Сам з павагай і вялікай цікавасцю стаўлюся да прыдуманага і адкрытага ў іншых краінах і іншых стагоддзях. Але недзе падсвядома перакананы, што галоўны грунт высокага мастацкага азарэння — у паэтычных агледзінах роднай крыніцы, зорак у начным небе вёскі-радзіны, верасовай паляны дзяцінства… "І зазвінела песня ў лесе // І, вырваўшыся на прастор, // На крылах радасці ўзнеслася // Да самых зор, да светлых зор. // І я стаю, зачараваны, // Крануцца з месца ўсё не мог, // Той песняю закалыханы, // Спавіты з галавы да ног". Гэтыя вершаваныя радкі належаць паэту і літаратуразнаўцу Міколу Мішчанчуку. Нарадзіўся ён на прыіску Майск Мазанаўскага раёна. Гэта — Расія, Амурская вобласць. А вось радкі, чуецца, нашы, родныя, беларускія…

Расказвае сам аўтар — Мікола Іванавіч: "…пачуў па-майстэрску, прафесійна і па-жаноцку мякка выкананую песню "У суботу Янка…" …сярод лесу, на лугавіне. Відаць, жанчына збірала недзе недалёка чарніцы. Можа, была яна з Палька — вёсачкі (хутара) на Пцічы паміж Амельнам і Парэччам. Відаць, той вёсачкі ўжо няма ў жывых. Я касіў цешчы сена літоўкай — дзявяткай, як пацягнуць. Спыніўся. Знерухомеў. Слухаў хвілін пятнаццаць і гэтую, і другую (не помню, якую) песні. Тая мелодыя, той светлы голас хутаранкі-палькоўцы помніцца выразна і сёння, праз дзясяткі гадоў…"

*Што мне былі сягоння травы,*
*Пракосаў нерухомы пляц —*
*Маім жыццём, маёй дзяржавай*
*Зрабіўся песенны палац.*

*Я ў ім з'явіўся, асцярожны,*
*Ім зачараваны, стаю,*
*І кожны гук, і водгук кожны*
*Усёй істотай п'ю і п'ю…*

*І зазвінела песня ў лесе,*
*І, вырваўшыся на прастор,*
*Душу ачышчаную несла*
*Да самых зор, да светлых зор.*

Трымаю ў руках даўнюю кніжачку Міколы Іванавіча — "Трывожуся за белы свет" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 1984). На вокладцы, зробленай мастаком Яўгенам Ларчанкам, — трапяткі рамонак… А жыццё Міколу сапраўды не песціла. У прыіску Майск яго родныя аказаліся як высланыя. "…У 1954 годзе, пасля смерці Сталіна, — напіша праз шмат гадоў пасля свайго "амурскага" дзяцінства Мікола Іванавіч, — выдалі пашпарты маёй маме — дачцэ ссыльнага (за напісанне заяваў адыходнікам з калгаса) дзядулі Апанаса Конанавіча, што разам з бабулькай Фядорай, сястрой Матрунай, айчымам і дзецьмі адбывала добраахвотную высылку ажно ў Амурскай вобласці. Дзядуля з бабуляй паехалі на радзіму ў Беларусь на год раней. Мы — за імі следам. Трынаццаць сутак бавіліся ў цягніку. Спыняліся ў буйных гарадах. Куплялі піражкі з чармухай, марожанае. Запомнілася, як "ныралі" ў тунэлі, прабітыя ў скалах над Байкалам паднявольнымі людзьмі. У цемры было жудасна, не па сабе, маланкамі разбягаліся думкі ў галаве: "А раптам што здарыцца?" Вынырвалі на свет, на вольны прастор — і на душы рабілася радасна, цёпла: "Дзякуй Богу, абышлося!" І вось сустрэча "з слаўным морам, свяшчэнным Байкалам"! Дзеля яе можна "ныраць" у тунэлі, пакутаваць ад задухі ў перапоўненым вагоне, пераносіць іншыя цяжкасці «колавага побыту»…"

У Беларусі сям'я патрапіла ў Чырвоны Пасёлак. Гэта — на Пухавіччыне. Паблізу ад Суціна. Далей — Старадарожчына, радзіма паэтаў Кастуся Цвіркі, Янкі Непачаловіча, радзіма беларускіх сакуноў… Што ўразіла падлетка перш-наперш, што стала яго духоўным апірышчам на радзіме бацькоў? Экзатычным, прыцягальным падаўся хлопцу шырокі далягляд.

— Роўнядзь лугавін, палёў, — гаворыць Мікола Іванавіч, — уражанне неабсяжнасці зямных прастораў. І асабліва ўразілі хваёвыя бары: велічныя, са стромкімі, высачэзнымі, таўшчэзнымі дрэвамі. Здзівілі прасякнутыя сонечнымі праменямі бярэзнікі. Не было ў маіх краях амурскіх і такіх агромністых вольхаў. Усё раней бачнае здалося дробным, мізэрным. А вячыстыя дубы! Што перад імі танюсенькія далёкаўсходнія бярозкі! Прырода радзімы бацькоў захапіла, нібы ўсмактала мяне ў сябе, упрыгожыла маё беднае, нераскошнае існаванне ў звычайнай вясковай сям'і. Прырода падступалася да самай дзядулевай хаткі ў асобах бяроз, алешын, хвоек, ягадніку, балотцаў, бродаў, якія нялёгка даваліся гружаным сенам ці дровамі калёсам. Цяпер яна адступілася ад пакінутых хатак, паскупела на лясавыя дарункі, пасля асушэння балот запясчанілася, зніякавела…

Былі і яшчэ ўражанні незабыўнага характару. Быццам прадчуваючы сваю літаратурную, літаратуразнаўчую будучыню, Мікола ўцягваўся ўсёю душою ў новы моўны асяродак. Мяккасць, напеўнасць беларускага слова, невядомае раней дзеканне, цеканне — да ўсяго гэтага гарнулася сэрца. Школа месцілася за тры кіламетры ад Чырвонага Пасёлка. У трох хатах.

*"М. Мішчанчук: "…Парадаксальна, але да гэтага часу мы ставім вышэй здольнасцей і інтэлекту асобы сацыяльны крытэрый, крытэрый паходжання. А нам бы узяць ды адкрыць бы ўсе вокны і дзверы на ўзведзеных намі змрочных замках і палацах, некалькімі штрышкамі намаляваць, як жыў мастак, як пакутаваў і радаваўся, як памыляўся (яшчэ чаго захацелі!), як любіў і шанаваў не толькі сваю Радзіму і свой народ, а і сваю сям'ю, блізкіх і родных.*

— У 8-м класе ўрокі ішлі на той палавіне будынка, дзе грэла на печы свае плечы старэнькая бабулька, — расказвае пісьменнік. — Непісьменная, ёй пашчасціла прайсці курс навучання на даволі высокай ступені адукацыі. Дзясяты клас даваўся заканчваць у хатцы, да якой з настаўніцкай, цэнтральнага будынка, было метраў трыста, не менш. Бясснежнымі порамі года яшчэ ніштак: настаўнікі прыбывалі да месца нашай дыслакацыі ці своечасова, ці з невялікім спазненнем. А зімой… Тут ужо былі праблемы. Пакуль, да прыкладу, маладзенькая, невялічкая расточкам матэматычка дабярэцца да нас, перакочваючыся праз нанесеныя гурбы снегу, то хвілін дзесяць-пятнаццаць пройдзе. А нам толькі гэта і трэба — урок карацейшы, апытванне падкарочваецца. Чуў маміну і бабульчыну мову на ўроках па ўсіх дысцыплінах: матэматыцы, фізіцы, хіміі, біялогіі і, вядома, роднай мове і літаратуры. Другой крыніцай натхнення мовай бацькоў былі песні. Яны гучалі ўсюды, атульвалі мяне, нібы мяккай коўдрай, з усіх бакоў. Дала волю сваім радасным пачуццям бабулька Фядора, жытлянка, сакунка ("памыўся", "апрануўся", "рукавэ", "сапаге" — прыклады яе вымаўлення), і пачала, і павяла свае спеўныя канцэрты за сталом. Сольныя, а часта і дуэтам з дзядулем…

*"Быццам прадчуваючы сваю літаратурную, літаратуразнаўчую будучыню, Мікола Мішчанчук уцягваўся ўсёю душою ў новы моўны асяродак. Мяккасць, напеўнасць беларускага слова, невядомае раней дзеканне, цеканне — да ўсяго гэтага гарнулася сэрца.*

Перагортваю далей старонкі зборніка "Трывожуся за белы свет". Чытаю "Журавіны на снезе": "Прастор нямее і вузее — // Гуляе дзікая завея. // Скаваны пякучым болем, // Маўчаць кусты, і лес, і поле. // Здаецца, свет увесь маўчыць // З настылай студзеньскай начы. // А пад ялінкаю кашлатай, // Нібы ахутаны ватай, // У снезе журавіны спеюць, // Бы падахвочваюць завею". Хіба не з Пухавіччыны гэты маляўнічы верш, падумалася ўслед за чытаннем?.. І ў нас у надпцічанскіх вёсках — культ прыгажуні журавіны. Яна, легендарная ягада, і свае гісторыі восеньскія ці зімовыя дарыла, і заўжды ўпрыгожваннем стала была. Хаця, чаму толькі ў надпцічанскіх… А яшчэ — і ў вёсках, дзе балаціны па-над Волмай, Свіслаччу, на памежжы Пухавіччыны з Чэрвеншчынай, Асіповіччынай, а не толькі са Старадарожскім краем. Словам, ізноў я да паэта — з роспытамі пра родны адрас верша.

— Тут памяць мне сонейка праменьчык вяртае, — чую ў адказ цэлую гісторыю. — "Журавіны на снезе" напісаны паводле канкрэтнага выпадку. З Чырвонага пасёлка, праз Зубель, хвойнік мой маршрут ляжаў напрамую да жонкі Соф'і ў Амельна. Трэба было перасекчы вялізнае каляпцічанскае балота, выйсці на Мельніцу, затым — на Клётнае…

**— Прабачце, Мікола Іванавіч, мусіць, Клятное?..**

— Так, амяленцы казалі "Клятное"… Дык вось, на Клятное і, праз грэблю, каля Дуба на ўрочышчы Цёмнае дасягнуць пункта прызначэння. Балота было вялізнае. З ледзь прыкметнай сцежкі было лёгка збочыць. Што я і зрабіў. І нагледзеўся на цуд: на снезе "спеліўся" добры лапік журавінаў. Пачаў захоплена збіраць. А затым схамянуўся: магу не трапіць да жонкі. Гэты верш спачатку надрукавала "Настаўніцкая газета" ў падборцы з партрэтам пачаткоўца і ўрэзкай-карацелькай, за што вельмі ўдзячны Лідзіі Данілевіч. З яе лёгкай рукі, а затым з падтрымкай Міколы Хведаровіча, Анатоля Вярцінскага, Міколы Аўрамчыка і пайшлі публікацыі ў "Калгаснай праўдзе" (сёння — "Белорусская нива"), "Маладосці", іншых выданнях. Дарэчы, першы верш у "Вясёлцы" блаславіў Рыгор Барадулін.

…Так, у 1979 годзе пабачыла свет першая паэтычная кніга М. Мішчанчука — "Вернасць". У 1984 — "Трывожуся за белы свет". Нельга не сказаць, што пачаткам вершатворчасці спрыяла і школьная атмасфера. У Суціне родную літаратуру выкладаў Васіль Фралоў. Удзельнік абароны Ленінграда. Чуйны да паэзіі чалавек. Сам пісаў вершы, друкаваўся ў пухавіцкай раённай газеце ў 1950 — 1960-я гг. Многія радкі свайго школьнага настаўніка Мікола Іванавіч і сёння трымае ў памяці.

…У 1962 годзе М. Мішчанчук закончыў МДПІ імя М. Горкага (цяпер БДПУ імя Максіма Танка). Пасля тамсама — аспірантуру. Доктар філалагічных навук. Прафесар. Член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі. З 1996 года працуе ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна. Аўтар і суаўтар многіх манаграфій, літаратуразнаўчых кніг, артыкулаў, падручнікаў для вучняў сярэдняй школы, студэнтаў-філолагаў, настаўнікаў беларускай і рускай літаратуры. Друкуецца ў "Літаратуры і мастацтве", "Полымі", "Настаўніцкай газеце", іншых перыядычных, а таксама энцыклапедычных выданнях. Адзін з аўтараў новай акадэмічнай гісторыі беларускай літаратуры.

І ва ўсе гады сваёй самаахвярнай, тытанічнай работы па вывучэнні, даследаванні беларускай літаратуры Мікола Іванавіч ніколі не забываўся пра родную старонку. Часта бываў у Блонскай сярэдняй школе. Напісаў шэраг нарысаў пра педагогаў з Блоні. Пасля публікацый у перыёдыцы яны яшчэ выйдуць і асобнай кнігай. У полі яго зроку — і вывучэнне жыцця і творчасці паэтаў, пісьменнікаў, чый лёс спрычыніўся з Пухавіччынай. А гэта — і Алесь Дудар, і Міхась Чарот, і Аркадзь Моркаўка, і Таіса Бондар…

— Пра Міхася Чарота мне ў свой час, — распавядае Мікола Іванавіч, — многа расказалі стрыечныя сёстры паэта Алена Іванаўна і Ганна Іванаўна. І ўвогуле з гэтага аўтара я паспрабаваў у кнізе "Як жыць — дык жыць для Беларусі" (Мінск, 1995) і іншых публікацыях зняць штампы, міфы, зірнуць на яго з іншага боку. Асноўны мой тэзіс — Міхась Чарот не толькі рэвалюцыйна настроены паэт-аптыміст, але і трагічная асоба. У творчасці — таксама.

У бліскучым артыкуле, творчым партрэце "…Ў сэрца я паранены, вольны птах падстрэлены…: паэзія Міхася Чарота з пазіцый сучаснасці", які вышэй за многія манаграфіі, М. Мішчанчук пісаў: "…Парадаксальна, але да гэтага часу мы ставім вышэй здольнасцей і інтэлекту асобы сацыяльны крытэрый, крытэрый паходжання. І тым самым прытупляем творчае ўспрыманне і суперажыванне біяграфіі пісьменнікаў, прывучваем мысліць не агульначалавечымі, а вульгарна-класавымі крытэрыямі пра Купалу і Коласа, Чарота і Бядулю. А нам бы паступіць так, як гэта зроблена Алегам Лойкам у цудоўным рамане-эсэ "Як агонь, як вада…" Узяць ды адкрыць бы ўсе вокны і дзверы ва ўзведзеных намі змрочных замках і палацах, некалькімі штрышкамі намаляваць, як жыў мастак, як пакутаваў і радаваўся, як памыляўся (яшчэ чаго захацелі!), як любіў і шанаваў не толькі сваю Радзіму і свой народ, а і сваю сям'ю, блізкіх і родных. А яшчэ апісаць яго хатку, стварыць слоўныя партрэты яго бацькоў, яго родных мясцін, урэшце — яго магілкі. Хіба гэта так цяжка? Хіба настаўнікі з Рудзенска гэтага не робяць? І хіба ў кожнага настаўніка, у кожнага вучня свядомасць павінна занатоўваць аднолькавыя рысы аднолькавых біяграфій?.."

Мікола Мішчанчук і цяпер жыве цікаўнасцю да Пухавіччыны. Вось і ў новай яго кнізе вершаў "Струна надзеі" (Брэст, 2009) знайшлося месца "Пухавіцка-Суцінскім-Амяльнянскім" матывам: вершы "Спявала бабулька Фядора", "Бульбіну выворваю лапатай", "Мама, я без цябе…", "Ручнік мне не трэба…".

*Спявала бабулька Фядора*
*Каля Японскага мора*
*Пра край свой далёкі і сіні,*
*Дзе лугі — як пярыны,*
*Дзе дубы валатуюць,*
*Спелае жыта вартуюць,*
*А зорачкі варажуюць*
*Людзям светлую долю,*
*Дзе вокам не скінуць поле,*
*Дзе гэтак разгонна вятрам,*
*Дзе лёгка, раскошна барам.*
*Пра край медуніц і рамонак,*
*Сунічак і падзялёнак,*
*Вады празрыстай і чыстай,*
*Зары палымяна-агністай…*

А ў творчым партфелі вучонага і пісьменніка — яшчэ і новыя пухавіцкія старонкі, эцюды, абразкі, апавяданні пра дзяцінства і юнацтва. Многія з іх чытаюцца яшчэ як і этнаграфічныя, побытавыя пазнакі сялянскага жыцця тых ці іншых дзесяцігоддзяў. Чытаеш такое — і на памяць прыходзіць ладны складнік вясковага існавання ў Сусвеце: "Салома — вядро з дзюркамі і трэскамі — паяльная машынка — цэлыя этапы гісторыі смалення кабаноў. Смачнейшае сала, з жоўценькай скурай, было ў першых двух выпадках. Не той эфект ад смалення паяльнай машынкай, не той колер, смак і пах сала. Складаная тэхналогія пазбаўлення носьбітаў скаромніцы жыцця. Тут патрэбна віртуознасць, акуратнасць пры забойстве (часцей калолі шыламі), пры раздзеле тушы: каб не закрывянілася, не дай Бог, сала, каб не была пашкоджана жоўць, каб не парваліся кішкі, каб цэлым аказаўся мачавы пузыр. Важна таксама, з чаго пачынаць, як падразаць і скручваць капыты, ніжнія часткі ног, куды пакласці адрэзаную галаву (зімой — дык у снег, каб не крывянілася), як спусціць бездакорна, чысцютка кроў. Толькі сапраўдныя майстры браліся за гэтую філігранную справу…"

А мне марыцца, што Мікола Іванавіч і цэлую кнігу напіша з выразным пухавіцкім характарам, раскажа ўвесь лёс Чырвонага пасёлка і яго насельнікаў, праспявае ўзнёслы гімн бабульцы Фядорцы, словам намалюе сенакосы і стагі, дзеля якіх высільваўся з касой-дзявяткай, створыць тым самым неўміручы мастацкі помнік роднай Пухавіччыне.

Тым больш што пачатак даўно пакладзены.

**Музей традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я можна назваць маладой установай. Яго адкрыццё адбылося 28 снежня 1998 года, з таго часу ён уваходзіць у склад Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Але гісторыя будынка па полацкай вуліцы Войкава, дзе размяшчаецца музей, а таксама яго экспанаты сведчаць пра глыбокую сувязь са старажытнасцю.**

*Люстра ў выглядзе павука.*

*Зімовы жаночы (камянецкі) і мужчынскі (турава-мазырскі) строі.*

# Лён — усяму душа

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ, фота аўтара**

Паводле звестак мясцовых краязнаўцаў, на цяперашняй тэрыторыі музея ў 1850-я гады быў узведзены будынак, у якім размяшчалася гарадская багадзельня. У 1902-м на пляцоўцы з'явіўся дом з мураваным цокалем, дзе знаходзілася пякарня, і драўляным першым паверхам, дзе жыў гаспадар. Свой сучасны выгляд будынак набыў пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Асноўным элементам музейнай экспазіцыі з'яўляецца "сусветнае дрэва", што адлюстроўвае міфалагічную мадэль светабудовы. Як вядома, старажытны чалавек лічыў, што карані гэтага "дрэва" спускаюцца ў апраметную, крона дасягае нябёсаў, а ствол і галіны фарміруюць зямную прастору. У Музеі традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я "дрэва" пачынае "расці" на першым паверсе, а цалкам раскрываецца перад наведвальнікамі ўжо на другім.

Экспанаты, прадстаўленыя ў першай зале, прысвечаны вырошчванню і апрацоўцы льну ў XIX — пачатку XX стагоддзя на падставе этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў Паазер'я (Верхнядзвінскі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Міёрскі, Пастаўскі, Полацкі і Шаркаўшчынскі раёны). Значэнне гэтай культуры ў жыцці беларусаў надзвычай істотнае. Нездарма казалі: "Калі хлеб — усяму галава, дык лён — усяму душа".

Экспазіцыя выразна падзяляецца на паравіны года. Вясной жыхары вёсак сеялі лён. Цікава, што, згодна з народнымі прыкметамі, рабіць гэта можна было толькі ў пятніцу і суботу. Панядзелак лічыўся нешчаслівым днём для сяўбы льну. Сеяць у аўторак — будзе дрэнны ўсход, у сераду — дрэннае валакно, а чацвер наогул з'яўляўся "чарвівым днём". Сяляне імкнуліся сеяць на поўню. А калі выпраўляліся ў поле, дык ішлі самай доўгай дарогай, каб лён быў доўгі.

Льняное поле надзялялася надзвычайнымі ўласцівасцямі. Лічылася, што туды трэба класці спаць дзяцей, бо ні нячысцік, ні ліхі чалавек не змогуць зрабіць нічога благога. Бліжэй да восені лён убіралі, пасля — апрацоўвалі. І гэты цяжкі працэс знайшоў адлюстраванне ў легендзе. Згодна з ёй, нячысцік гнаўся за дзяўчынай, ды тая схавалася ў пуні з ільном. Нячысцік запатрабаваў выдаць яе. Лён згадзіўся, але паставіў сваю ўмову: выслухаць яго пакуты (як яго рвуць, мочаць, б'юць, трэплюць і г.д.). Расказ працягваўся ўсю ноч, пасля чаго нячысцік проста забыўся пра дзяўчыну. Менавіта такой апрацоўкай льну займаліся ў восеньскі перыяд, каб у выніку атрымаць ільняную нітачку. А ўжо зімой дзяўчаты і жанчыны ткалі з ільну абрусы, ручнікі, шылі кашулі…

У экспазіцыі, што размяшчаецца на другім паверсе, прадстаўлены віды і тэхналогіі ткацтва. Вядома, што яшчэ ў канцы XIX ст. усе прадметы, неабходныя для жыцця, выраблялся ў хатніх умовах: посуд, мэбля, адзенне і г. д. Важнае месца ў экспазіцыі другой залы займаюць кросны — станок для ткацтва. Праца на кроснах са старажытных часоў была выключна жаночым заняткам.

Складаная ткацкая тэхналогія заўсёды спалучалася з высокім мастацкім майстэрствам. Больш за тое, ступень гэтага майстэрства ў ткацкай справе залежала ад ступені тэхналагічнай складанасці. Ткалася на кроснах усё, што было неабходна ў гаспадарцы: ручнікі, посцілкі, абрусы, ходнікі і г.д. А таксама тканіна, з якой шылі вопратку. Адзенне фарміравалася на працягу стагоддзяў. Беларускі нацыянальны касцюм набыў завяршанасць у XIV — XVI стст., калі склаліся яго асноўныя рысы: строгасць, адзінства кампазіцыі, перавага белага колеру, спалучэнне яго з чырвоным у арнаменце. Асаблівы ўзлёт фантазіі і майстэрства можна ўбачыць у жаночым касцюме. Мастацтва народных ткачых, іх фантазія і густ, уменне простымі сродкамі дабіцца дэкаратыўнасці, прыгажосці ярчэй за ўсё выявіліся ў вырабе ручнікоў. У экспазіцыі прадстаўлены паазерскія бранныя ручнікі канца XIX — пачатку XX стст. пад агульнай назвай "полацкія ручнікі", узораў якіх захавалася няшмат.

*Частка "Сусветнага дрэва".*

Трэцяя зала музея больш падрабязна знаёміць з ручнікамі Паазер'я, а таксама іх выкарыстаннем ў традыцыйнай сямейнай абраднасці беларусаў. Тут жа можна пабачыць мастацкую рэканструкцыю лепельскіх народных строяў, зробленых славутым мастацтвазнаўцам Міхасём Раманюком. Як вядома, ён вывучаў некалькі гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў: Заходняе Палессе, Усходняе Палессе, Падзвінне, Падняпроўе, Панямонне, цэнтральную Беларусь.

Належнае месца ў экспазіцыі займаюць выстаўкі. Зімой экспанаваліся газавыя лямпы і ліхтары. У Ноч музеяў адкрылася выстаўка "Як вілася свадзебка хмелем каля двара…", у межах якой прадстаўлены вясельныя і святочныя касцюмы з Лепельскага дома рамёстваў "Скарбонка" (Паазер'е, Заходняе і Усходняе Палессе, Панямонне, Падняпроўе).

Акрамя таго, у музеі праводзяцца вясельны абрад "Як зліліся дзве рэчанькі…", фальклорныя святы ды іншыя мерапрыемствы, якія суправаджаюцца спевамі і гульнямі. У гэтым годзе адбыліся ўжо тры з іх: Каляды ("Ехала Каляда з Полацка"), Мясаедная Вясельніца (тэатралізаваная рэпрыза з удзелам супрацоўнікаў музея, фальклорнага гурта "Варган" з Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта і тэатральнай студыі "Крышталь", у якой займаюцца школьнікі 6 — 7 класаў Навапалацкай школы № 14), Гуканне вясны. На чарзе — Купалле.

## Афарызм

*Любіце кнігу, бо яна — крыніца мудрасці, ведаў і навукі, лекі для душы.*

**Францыск СКАРЫНА**

## З глыбінкі

## Заверша роднае

Падыхаць салодкім паветрам роднага краю, успомніць пра мінулае з'ехаліся на "Сустрэчу пакаленняў" у сельскі Дом культуры вёскі Заверша Драгічынскага раёна тыя, хто калісьці выкладаў альбо сам сядзеў за партай у Завершскай базавай школе. Хто пакінуў тут часцінку сваёй душы, а ў сэрцы захаваў цёплыя ўспаміны пра гэты дзівосны куток роднага Палесся.

Марыя Мінзер, старшыня мясцовай ветэранскай арганізацыі, у мінулым дырэктар Завершскай школы, сабрала ва ўтульнай зале СДК тры пакаленні. Тых, хто ў ваенныя гады са зброяй у руках змагаўся з акупантамі, тых, хто цяпер працуе ў розных галінах вытворчасці, навукі і культуры, і тых, хто яшчэ сядзіць за партай...

Прывітальнае слова настаяцеля Завершскага праваслаўнага храма айца Аляксандра не толькі ўзняло дух вяскоўцаў, але і абудзіла ўсіх у святочным настрої. А фальклорна-этнаграфічны калектыў "Сустрэча", што шмат гадоў працуе пры сельскім Доме культуры, парадаваў гледачоў народнымі песнямі і царкоўнымі спевамі.

Сяргея Лапу, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, найстарэйшага жыхара Драгічыншчыны, які ўзначальвае раённую ветэранскую арганізацыю, не толькі сустрэлі апладысментамі, але і паднеслі яму духмяны каравай.

Анатоль Крэйдзіч, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўны рэдактар іванаўскай раённай газеты "Чырвоная звязда", прывёз сваім землякам падарунак — песню пра родную вёску, якая так і называецца — "Заверша", — на музыку Аляксандра Чашуна.

**Ала КАТКАВЕЦ, Драгічынскі раён**

## Сустрэча з паэтам

Жыхарам Астравеччыны пашанцавала на сустрэчу з выдатным майстрам мастацкага слова, паэтам, празаікам, мовазнаўцам, перакладчыкам, публіцыстам Міхасём Пазняковым. Супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі вялікую выстаўку яго твораў. Прысутны мелі магчымасць набыць кнігі і атрымаць аўтограф пісьменніка. Сапраўдным музычным упрыгожаннем вечарыны сталі выступленні мясцовага кампазітара Аляксандра Якіменкі, у выкананні якога прагучалі песні на словы М. Пазнякова "Матчына хата", "Апошні званок", "Тварыце, людзі, дабро" і іншыя. Наведвальнікі слухалі выступленні юных выхаванцаў Астравецкай дзіцячай школы мастацтваў, юных артыстаў групы "Калейдаскоп" Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі. Чытачы дзіцячай бібліятэкі, удзельнікі аматарскага аб'яднання "Вясёлка" чыталі вершы, дражнілкі, скорагаворкі, разгадвалі загадкі ад Міхася Пазнякова. Вядучая імпрэзы Вольга Турубарава кранула сэрцы ўсіх, хто знаходзіўся ў зале, калі знаёміла з вышчэйшай дарогай творцы. Міхась Пазнякоў зачараваў усіх манерай выканання ўласных твораў. Прыемным сюрпрызам вечарыны сталі новыя кнігі, падораныя бібліятэкам Астравеччыны.

**Вольга ПІНЧУК, Астравецкі раён**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2853
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 24.05.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2272
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686
9 770024 468001
12021